# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК
Ц. Б. КРАЯЗНАЎСТВА
ПРЫ ІНСТЫТУЦЕ
БЕЛАРУСКАЙ
КУЛЬТУРЫ





№ 1 (16) 1927 г. СТУДЗЕНЬ



МЕНСК.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

№ 1 (16) Студзень 1927

ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ



ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК — 1927



С. Некрашэвіч.

# Акадэмічная Конфэрэнцыя па рэформе правапісу і графікі і вынікі яе працы.

Сярод культурных падзей апошняга часу бязумоўна аднэй з найважнейшых трэба лічыць Акадэмічную Конфэрэнцыю па рэформе правапісу і азбукі, скліканую Інстытутам Беларускае Культуры 14-га лістапада 1926 году ў Менску. Конфэрэнцыя гэтая па складу сваіх членаў, што прымалі ў ёй удзел, далёка выходзіць за межы звычайнага тыпу беларускіх навуковых Конфэрэнцый і набывае характар агульнаславістычнай конфэрэнцыі. І запраўды, на гэтай Конфэрэнцыі была прадстаўлена ня толькі Савецкая Беларусь, у асобе лепшых мовазнаўцаў Інстытуту Беларускае Культуры і Унівэрсытэту (Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, проф. Бузук, доцэнт Воўк-Левановіч, А. Багдановіч, Л. Цьвяткоў), а таксама выкладчыкаў беларускае мовы ў педтэхнікумах БССР, але на Конфэрэнцыі былі прадстаўлены і іншыя краіны к рэспублік СССР, гэтак і заграніцы: ад РСФСР на Конфэрэнцыі былі рысутнымі: проф. П. Растаргуеў, проф. Гарчынскі і А. Сяржлутоўскі, ад УССР—доц. Німчынаў, ад Нямеччыны—проф.-славісты Расмэр, ад Польшчы—проф. Голомбэк. Былі на гэтай Конфэрэнцыі і прадстаўнікі ад нашых суседніх неславянскіх дзяржаў—літоўцаў і латышоў, у мове якіх ёсьць шмат супольнага з беларускай мовай: ад Літвы—проф. Біржышка і ад Латвіі—вядомы поэт Ян Райніс і доцэнт Блэсе. Таксама прыехалі на Акадэмічную Конфэрэнцыю прадстаўнікі беларускай нацменшасьці Літвы (вядомы дасьледчык па беларускай мове В. Ластоўскі і гр. А. Галавінскі), ад Латвіі (грам. К. Езавітаў і Пігулеўскі) і ад Чэха-Славакіі (пясьняр Жылка).

Вельмі прыходзіцца пашкадаваць, што на Конфэрэнцыю не маглі прыехаць прадстаўнікі Заходняй Беларусі, вядомыя беларускія мовазнаўцы і першыя тварцы нашага правапісу і графікі: Б. Тарашкевіч і А. Луцкевіч, а таксама Я. Станкевіч і доктар філёлёгіі М. Дварчанін, ...ія ўсе былі запрошаны на Конфэрэнцыю, але не маглі прыехаць на ... прычыны адмаўленьня польскай улады выдаць ім заграні́чныя ...шпарты.

Большасьць іншых асоб, што былі запрошаны на Акадэмічную Конфэрэнцыю, але па тых ці іншых прычынах не змаглі на яе прыехаць, папрысылалі Конфэрэнцыі свае прывітаньні і ўвагі да беларускага правапісу і азбукі; напр., вядомыя профэсары Адольф Чэрны, Гуер і Ляцкі (усе трое з Чэха-Славакіі), проф. Бодуэн-дэ-Куртэнэ (Польшча), проф. Сьвянціцкі (Галіцыя), акад. Ляпуноў (РСФСР), профэсары Е. Тымчынка і А. Курыла (УССР) і інш.

Такім чынам, на Акадэмічнай Конфэрэнцыі запраўды быў выяўлены югляд па пытаньнях беларускага правапісу і графікі блізка ўсіх выдатнейшых славістаў, што бязумоўна і надае Конфэрэнцыі агульна-славістычны характар.

Акадэмічная Конфэрэнцыя цягнулася цэлы тыдзень, з 14-га па 21-ае лістапада.

Урачыстае адчыненьне Конфэрэнцыі адбылося ў залі Клюбу Карла Маркса. Там-жа адбываліся і пленарныя пасяджэньні Конфэрэнцыі. У склад прэзыдыуму Конфэрэнцыі ўвайшлі: Ус. Ігнатоўскі, А. Смоліч, А. Цьвікевіч, С. Некрашэвіч і Я. Лёсік.

Праца Конфэрэнцыі адбывалася як на пленарных пасяджэньнях, гэтак і ў яе камісіях: графічнай, правапіснай і літаратурнай. За тыдзень сваёй працы Конфэрэнцыя разгледзела ня толькі галоўныя пытаньні правапісу і графікі, што стаялі ў програме Конфэрэнцыі, але пабач з гэтым заслухала і некалькі іншых дакладаў па беларускай мове і літаратуры.

Па мове ў програму Конфэрэнцыі былі ўключаны наступныя даклады: „Сучасны стан дасьледваньня беларускае мовы“ (дакл. С. Некрашэвіч), „Беларуская мова сярод іншых славянскіх моў“ (дакл. П. Бузук) і „Беларускія элемэнты ў польскай мове“ (дакл. Л. Цьвяткоў). Апошні даклад з-за браку часу на Конфэрэнцыі ня чытаўся.

У дакладзе „Сучасны стан вывучэньня беларускае мовы“ С. Некрашэвіч зрабіў дэтальны бібліографічны агляд усіх лінгвістычных прац па беларускай мове за апошнія пяць год. Тут былі разгледжаны ўсе друкаваныя і рукапісныя працы, напісаныя як у беларускай мове, гэтак і ў іншых мовах (расійскай, украінскай і інш.). У дакладзе грунтоўна асьветлена была мовазнаўчая праца Інстытуту Беларускае Культуры, а таксама і пэрспэктывы гэтай працы на бліжэйшы час. У выніку падсумаваньня ўсяго зробленага па мовазнаўству за апошнія пяць год выявіліся досыць солідныя вынікі гэтай працы, што не магло не зацікавіць і нават задзівіла чужаземных прадстаўнікоў навукі. Асаблівае ўражаньне на іх зрабіла шырака разгорнутая праца нашай Слоўнікавай Камісіі. Вось што, напрыклад, піша аб гэтай працы член Конфэрэнцыі, проф. Маскоўскага Унівэрсытэту П. Растаргуеў: „Работы Словарьной Комиссии превзошли все мои ожидания и вызвали чувство глубокого преклонения пред энергией, с которой ведется составление словаря. Желаю и впредь продолжать Комиссии свою работу с тем успехом, с каким она ведется до сих пор“. Прыблізна ў такім-жа характары пішуць аб працы Слоўнікавай Камісіі і чужаземныя прадстаўнікі навукі: проф. Фасмэр, Біржышка і інш.

Наогул-жа з дакладу С. Некрашэвіча і азнаямленьня з пастаноўкай у нас мовазнаўчай працы для ўсіх членаў Конфэрэнцыі бяз усякіх рэзолюцый стала ясна, што цяпер, у сувязі з дзяржаўнасьцю Беларусі, беларуская мова зьяўляецца фактарам ня толькі мясцовага значэньня, што наша мова прадстаўляе ня толькі суму народных дыялектаў, а што яна ўжо мае досыць разьвітую і навукова-апрацаваную літаратурную мову, якая мае права заняць сярод іншых славянскіх моў роўнае месца.

У наступным дакладзе проф. П. Бузука: „Становішча беларускай мовы сярод іншых славянскіх моў“ асабліва выразна выступіла самастойнасьць беларускай мовы. Параўноўваючы факты, якія збліжаюць беларускую мову з іншымі славянскімі мовамі, дакладчык адкідае тэорыю радаводнага дрэва і, карыстаючыся тэорыяй хваль, даказвае самастойнасьць беларускай мовы, выводзячы яе ня з прынятай расійскай школай „прарускай мовы“, а з асн. славянскай. Вынікшыя па дакладу П. Бузука спрэчкі з мэтодолёгічнага боку зьяўляюцца вельмі цікавымі. У іх яскрава выявілася, што з дзьвюх рабочых тэорый аб пахаджэньні мовы—тэорыі радаводнага дрэва і тэорыі хваль—для беларускага лінгвіста найбольш падыходзіць апошняя тэорыя, бо яна ўсе

мовы ставіць у роўныя ўмовы і такім чынам касуе падзел на мовы старэйшыя (расійская) і пазьнейшыя (беларуская, украінская), чаго ў запраўднасьці ня было, але што стварыла „руская“ лінгвістычная школа ў угоду расійскай вялікадзяржаўнасьці.

Але цэнтральнымі пунктамі працы Конфэрэнцыі былі пытаньні рэформы беларускага правапісу і азбукі.

Патрэбнасьць у рэформе нашай азбукі адчувалася ўжо даўно. Асабліва часта прыходзілася чуць нараканьні на перадачу афрыкатаў *дз* і *дж* дзьвюма літарамі. Па гэтым пытаньні ўжо ў 1922 г. у Інстытут Беларускай Культуры паступалі проекты літар для гэтых гукаў. Тым ня менш да апошняга часу справа з рэформаю нашае азбукі стаяла на месцы, і толькі ў зьвязку з рэформай правапісу была пастаўлена і рэформа беларускае азбукі.

Аб рэформе азбукі на Конфэрэнцыі былі зроблены два даклады: Я. Лёсікам і проф. П. Растаргуевым. Я. Лёсік прапанаваў наступную рэформу азбукі: 1) гукі *дз* і *дж* пісаць праз д і ж з дыякрэтычымі значкамі зьверху (птушачкамі), 2) выбухны гук *г* (g), як і ў украінскай мове, азначаць г з хвосьцікам справа, паднятым угору (ґ), 3) заместа *й* увесьці (j), 4) ётаваныя е, ё, ю, я пісаць праз *jэ, jo, jу, ja* (jэлі, маjо, маjа), 5) што-ж датыча выпадкаў, калі *е, ё, ю, я* азначаюць мяккасьць зычных, то яны павінны быць застаўлены: песьня, сёлы, ганю, неба. Апрача таго, Я. Лёсік яшчэ прапанаваў: 6) выкінуць літару *э* і замяніць *э* адваротным (є), а таксама 7) выкінуць літару *ы* і замяніць яе *и*.

П. Растаргуеў у сваім дакладзе выступіў за рэформу беларускай азбукі ў наступным: 1) афрыкаты *дз* і *дж* азначаць адпаведнымі літарамі сербскага альфабэту ђ (ђед), ћ (хаћу); 2) выкінуць *й* і ўвесьці ў беларускую азбуку j у тых выпадках, у якіх прапанаваў яго ўжываць і Я. Лёсік.

Спрэчкі па дакладах Я. Лёсіка і П. Растаргуева выявілі, папершае, неабходнасьць азначэньня беларускіх афрыкатаў асобнымі літарамі і, падругое, беспадстаўнасьць замены ў азначэньні літары *э* адваротным *э* (є) і літары *ы* літараю *и*. Адносна іншых пунктаў рэформы былі выказаны розныя погляды. З прычыны гэтага для далейшага больш дэтальнага апрацаваньня пытаньняў рэформы азбукі была створана з членаў Конфэрэнцыі асобная графічная камісія, якая ў выніку сваёй працы прышла да наступных конкрэтных рэзультатаў: 1) афрыкаты *дз* і *дж* азначаць сербскімі літарамі ђ; і ћ; 2) выкінуць *й* і замяніць яго j; 3) увесьці напісаньне j*а*, j*э*, j*у*, j*о*, заместа *я, е, ю, ё* ў пачатку складу перад галоснай—jама, баjуся; 4) літары *я, е, ю, ё* пакінуць для азначэньня мяккасьці зычнай: нясу (ньасу), сёлы (сьолы); 5) іншыя пункты рэформы азбукі адхіліць.

Частка з членаў Конфэрэнцыі адносна ўвядзеньня ў беларускую азбуку j і застаўленьня пры гэтым *я, е, ю, ё* (для памякчэньня зычных) падала заяву, знаходзячы проект графічнае камісіі непаступовым і мала палягчаючым беларускую азбуку. Заява гэтая, аднак, на Конфэрэнцыі не разглядалася.

У зьвязку з рэформай беларускай азбукі некалькімі членамі Конфэрэнцыі была падана заява і аб увядзеньні на Беларусі, адначасна з іншымі народамі СССР, лацінскай язбукі. Падаўцы мотывавалі сваю заяву тым, што па 1), некаторыя народы СССР у цяперашні час адмаўляюцца ад сваіх старых азбук і ўводзяць лацінку (турскія, каўкаскія народы); па 2), што некаторыя беларускія выданьні ўвесь час дру-

каваліся і друкуюцца лацінкай (частка віленскіх выданьняў) і 3), што ў цэлым Савецкім Саюзе пытаньне аб увядзеньні лацінкі за апошнія часы стала актуальным і абгаворваецца ў навуковых колах.

Аднак, паколькі пытаньне аб увядзеньні на Беларусі лацінкі ні ў програме Конфэрэнцыі, ні ў дакладах ня ставілася, Конфэрэнцыя не палічыла патрэбным яго разглядаць.

Больш складаным у працы Акадэмічнае Конфэрэнцыі зьявілася пытаньне аб рэформе нашага правапісу.

Як вядома, у нас існуе правапіс Б. Тарашкевіча. Да апошняга году правапіс Тарашкевіча трымаўся моцна. Праўда і тут былі некаторыя дробныя ўхіленьні, але яны наагул ні самага правапісу, ні яго прынцыпаў не парушалі.

У 1926 годзе ўзьнікаюць ужо досыць вялікія незадаваленьні правапісам Тарашкевіча. Адны знаходзяць яго занадта цяжкім, іншыя ня зусім адпавядаючым беларускай мове і да т. п.

Найбольшае незадаваленьне правапісам Б. Тарашкевіча мы знаходзім у брошуры-проекце бр. Я. і А. Лёсікаў: „Да рэформы беларускага правапісу“, выданай улетку гэтага году. Галоўнае пытаньне рэформы ў проекце Лёсікаў—поўнае аканьне (яканьне). У адказ на проект правапісу бр. Лёсікаў выступілі з сваімі ўвагамі аб рэформе правапісу бадай усе нашы мовазнаўцы: П. Бузук, Воўк-Левановіч, А. Багдановіч, С. Некрашэвіч. Усе яны крытычна аднесьліся да проекту рэформы правапісу бр. Лёсікаў і знаходзілі яго навукова няўгрунтаваным і не адпавядаючым законам беларускае мовы. Тым ня менш, паколькі пытаньне аб рэформе беларускага правапісу пашырылася ў самыя шырокія масы нашага настаўніцтва і такім чынам параджала непатрэбныя і шкадлівыя аб правапісе спрэчкі, Інстытут Беларускае Культуры пастанавіў склікаць Акадэмічную Конфэрэнцыю, каб перадаць на вырашэньне гэтай аўторытэтнай нарады спрэчнае пытаньне нашага правапісу.

Па пытаньнях правапісу на Конфэрэнцыі былі пастаўлены два даклады: Лёсіка „Да рэформы беларускага правапісу“ і С. Некрашэвіча на тую-ж тэму.

У сваім дакладзе Я. Лёсік прапанаваў: 1) прыняты ў нашым правапісе фонэтычны прынцып правапісу галосных пашырыць поўнасьцю ня толькі на „*а*“, г. зн. пісаць усякае ненаціскное „*о*“ праз „*а*“ (галава), але і на „*е*“; такім чынам пісаць кожнае ненаціскное „*е*“ праз „*я*“ (пяракуліць); 2) пашырыць фонэтычны прынцып правапісу і на зычныя за выключэньнем канца слоў; г. зн. пісаць: казьба, но*ш*ка (ад нага), ра*ш*ка (ад рог), ду*п*ка (ад дубок), але ду*б*, рог, воз і да т. п. Што-ж датычыць чужаземных слоў, то яны ў адносінах да аканьня падлягаюць нашым словам; з гэтае прычыны дакладчык прапануе пісаць: д*а*по (дэпо), д*а*баркад*а*р (дэбаркадэр) і да т. п.

Апрача таго, Я. Лёсік прапанаваў: 3) „*й*“ „і“ „*ў*“, калі яны стаяць асобна або на пачатку слова, заўсёды пісаць праз складовыя „*і*“ і „*у*“; г. зн. ня так, як пісалі: баба й дзед, баба йдзе, мы ў хаце, вы ўбілі, але: баба *і* дзед, баба *і*дзе, мы *у* хаце, вы *у*білі і г. д.; 4) выкінуць мяккі знак пасьля зычных перад наступнымі мяккімі зычнымі, калі „*ь*“ азначае памякчэньне першых; г. зн. пісаць не *каменьне, сьнег, зьвер,* а *каменне, снег, звер;* 5) у сувязі з яканьнем: а) у родн. скл. прыметнікаў жан. р. адзін. ліку пісаць на канцы *і*: лев*аі* рукі, у сам*аі* хаты і да т. п.; у месн. скл. назоўнікаў адзін. л. пісаць на канцы не пад націскам *і*: у лес*і*, у ям*і* і г. д.

Такім чынам, самым галоўным пытаньнем рэформы правапісу, якое прапануе ўвесьці Я. Лёсік, зьяўляецца поўнае яканьне ў ненаціскных складох з аднаго боку (пярастаць, будзям, сьпяваяць) і частковае пашырэньне фонэтычнага прынцыпу правапісу на зычныя з другога боку (прыклады вышэй). Яканьне (п. 1) і вышэйазначаныя п. п. 3—5 рэформы мы знаходзім у брошуры Лёсікаў: „Да рэформы беларускага правапісу". Штож датыча пашырэньня фонэтычнага прынцыпу правапісу і на зычныя, то дакладчык заявіў аб гэтым упяршыню на Конфэрэнцыі і, такім чынам, для ўсіх членаў Конфэрэнцыі, якія былі раней знаёмы з проектам рэформы Я. Лёсіка, апошні яго проект рэформы зьяўвіўся поўнай неспадзяванкаю.

С. Некрашэвіч у сваім дакладзе „Да рэформы беларускага правапісу" разгледзеў асноўныя хібы ў запроектаванай Я. Лёсікам рэформе нашага правапісу, і з свайго боку лічыць магчымым, у мэтах прастаты правапісу, тым больш, што тут ёсьць і навуковая падстава, увесьці ў правапіс Б. Тарашкевіча ў мэтах упрашчэньня наступныя корэктывы: 1) у другім складзе перад націскам заўсёды пісаць толькі *е* (н*е*прыхільна, н*е*прыцямна); 2) у мэтах мэханізацыі правапісу „*не*" і „*без*", калі яны стаяць асобна, не падлягаюць яканьню; г. зн. заўсёды пішуцца „*не*", „*без*" (*не* раз, *без* шапкі); 3) слова *ня*ма, *ня*хай, пісаць *ні*ма, *ні*хай; 4) пашырыць аканьне на ўсе чужаземныя словы гэткім чынам: кожнае ненаціскное „*о*" чужаземных слоў пішацца ў беларускай мове праз „*а*": к*а*місія, к*а*нстытуцыя,—аднак, дэпо, дэлегат.

У спрэчках па дакладах Я. Лёсіка і С. Некрашэвіча выказалася некалькі асоб, пасьля чаго пытаньне аб рэформе правапісу было перанесена ў асобную, складзеную з членаў Конфэрэнцыі, Правапісную Камісію.

Правапісная Камісія на некалькіх сваіх пасяджэньнях дэтальна абмеркавала высунутыя дакладчыкамі проекты зьмен у нашым правапісе і большасьцю галасоў прыняла наступныя пастановы: 1) пашырэньне фонэтычнага прынцыпу правапісу на зычныя, паколькі гэтае пытаньне навукова дакладчыкам Я. Лёсікам не ўгрунтавана, не разглядаць; 2) запроектаванае Я. Лёсікам поўнае яканьне, г. зн. напісаньне кожнага ненаціскнога „*е*" праз „*я*", адхіліць; 3) увесьці ў правапіс Б. Тарашкевіча аб „*е*" наступныя корэктывы: а) у другім складзе перад націскам заўсёды пішацца „*е*" (а ня „*я*") і б) адмоўныя словы „*не*", „*без*", калі яны стаяць асобна, яканьню не падлягаюць; 4) напісаньне слова „няма", „няхай" праз „німа", „ніхай", адхіліць; 5) пашырыць аканьне на чужаземныя словы ў рэдакцыі С. Некрашэвіча: кожнае ненаціскное „*о*" ў чужаземных словах у беларускай мове пішацца праз „*а*"; 6) правапіс „*і*", калі яно стаіць у сярэдзіне слоў або ў пачатку слова, заўсёды пісаць праз „*і*" (а не праз *й*); 7) напісаньне „*у*", калі яно стаіць паміж словамі або ў пачатку слова праз „*у*" (складовае), адхіліць (такім чынам, правапіс „*у*" застаецца ў рэдакцыі Б. Тарашкевіча); 8) рэшту высунутых пуктаў рэформы правапісу перадаць у Правапісную Камісію.

Апрача спэцыяльна моваазнаўчых пытаньняў, на Конфэрэнцыі былі зачытаны і чатыры даклады па беларускай літаратуры.

Першы даклад: „Асноўныя этапы разьвіцьця новай беларускай літаратуры" прачытаў проф. М. Піотуховіч. У сваім дакладзе М. Піотуховіч зрабіў агульную характарыстыку літаратурнага процэсу на Беларусі ў пазьнейшыя часы.

Наступны дакладчык М. Гарэцкі зрабіў агульную характарыстыку літаратурных пэрыодаў—нашаніўскага і пасьлякастрычнікавага.

Проф. Варшаўскага Унівэрсытэту Ю. Голомбэк зрабіў даклад аб пісьменьніках, што пісалі пабеларуску і папольску і аб вывучэньні іх творчасьці.

Апошні даклад па літаратуры на тэму: „Поэтычнае мастацтва навейшай беларускай літаратуры“ быў зроблены доц. Вазьнясенскім.

Для абгаварэньня закранутых у дакладах пытаньняў была створана з членаў Конфэрэнцыі Літаратурная Камісія. У выніку сваёй працы Камісія прыняла рэзолюцыю, у якой зазначае: 1) заслуханыя на пленарных пасяджэньнях даклады па беларускай літаратуры ўсебакова асьветлілі беларускую мастацкую літаратуру ў адносінах яе высокай культурнай каштоўнасьці як для беларускай, так і для агульна-людзкай культуры. 2) Гэтае агульна-людзкае значэньне беларускай мастацкай літаратуры асабліва пачынае ўсьведамляцца цяпер, калі яна вышла ўжо з рамак чыста нацыянальных і атрымлівае права на ўвагу да сябе і на сваё распаўсюджаньне за межамі Беларусі аднолькава з іншымі эўропейскімі літаратурамі. 3) Адмечаны рост, разьвіцьцё і значэньне беларуская мастацкая літаратура набыла, дзякуючы Кастрычнікавай Рэволюцыі, якая дала шырокія магчымасьці дзяржаўнага, экономічна-політычнага і нацыянальнага будаўніцтва Савецкай Беларусі. 4) Аднак яшчэ да апошняга часу беларуская літарарутура мала дасьледвана; дзеля гэтага неабходна распачаць самую шырокую працу па ўсебаковым вывучэньні беларускай літаратуры. 5) Дзеля выкананьня гэтых мэт навуковай працы неабходна заснаваньне спэцыяльнага навукова-дасьледчага інстытуту па вывучэньні гісторыі беларускае літаратуры.

Значэньне Акадэмічнай Конфэрэнцыі ў беларускім культурным жыцьці бязумоўна вялікае. Ужо вышэй гаварылася, якое вялікае значэньне мае Конфэрэнцыя, як фактар, дзякуючы якому беларуская мовазнаўчая праца робіцца набыткам усяго славянскага сьвету, што разам з гэтай працай і сама беларуская мова па праву пачынае займаць сярод іншых славянскіх моў належнае ёй роўнае месца.

Разам з тым Конфэрэнцыя выявіла і той шлях, па якім мусіць ісьці навуковая праца па беларускай мове, як самастойнай мове, роўнай з іншымі славянскімі мовамі.

Але асбліва каштоўныя вынікі працы Конфэрэнцыі па рэформе нашай графікі, а яшчэ больш па рэформе нашага правапісу. У гэтай галіне Конфэрэнцыя выказала свой аўторытэтны голас, і прыняла цэлы шэраг запраўды жыцьцёвых паправак да правапісу Б. Тарашкевіча, якія безбалезна могуць быць прыняты нашай ортографіяй для яе спрашчэньня.

Разам з тым сваімі дакладамі, прамовамі, увагамі члены Конфэрэнцыі далі шмат вельмі цікавага матар'ялу па рэформе нашага правапісу і графікі і па дасьледваньні беларускай мовы наагул. Усе гэтыя матар'ялы павінны быць выданы асобнай кнігай і зьявяцца каштоўнай працай па вывучэньні нашай мовы.

Бязумоўна не малое навуковае значэньне мае Конфэрэнцыя і для вывучэньня нашай літаратуры. На Конфэрэнцыі разгледжаны асноўныя этапы разьвіцьця беларускай літаратуры і мэтоды яе дасьледваньня. У выніку мы маем шмат каштоўнага матар'ялу па дасьледваньні навейшага пэрыоду беларускай літаратуры.

Але найбольшым культурным і політычным значэньнем Конфэ-

рэнцыі, найбольшай заваёвай яе зьяўляецца першы навуковы выхад Беларусі на міжнародную арэну. Дзякуючы прысутнасьці на Акадэмічнай Конфэрэнцыі чужаземных прадстаўнікоў навукі, наша Конфэрэнцыя зьявілася хутчэй агульна-славістычнай Акадэмічнай Конфэрэнцыяй па пытаньнях беларускай мовы і літаратуры, чым беларускай. Такім чынам, на гэтай Конфэрэнцыі Беларусь сябе паказала, што яна ўжо падгатавана да навуковых выступленьняў міжнароднага характару, а з другога боку чужаземныя прадстаўнікі навукі ўвачавідкі праканаліся, што ў савецкіх умовах, нават у народаў з заняпалай культурай, ідзе вялікая творчая праца па адбудаваньні культуры, і што Савецкая ўлада ня толькі не перашкаджае навуковай і культурнай працы гэтых народаў, але наадварот усякімі мерамі дапамагае ёй.

Наша Акадэмічная Конфэрэнцыя мае значэньне ня толькі для нас: яна зьяўляецца паказальнай і для ўсіх іншых народаў, што ў савецкіх умовах адбудоўваюць сваю заняпалую культуру, і якія могуць улічыць нашу Конфэрэнцыю, як мэтод у будаваньні свайго культурнага жыцьця.

Выдатнае значэньне Акадэмічнай Конфэрэнцыі адчувалася ўсімі працоўнымі Беларусі. Усё беларускае грамадзянства ад першых-жа дзён Конфэрэнцыі праявіла да яе вялікую зацікаўленасьць. Конфэрэнцыя гэтую зацікаўленасьць задаволіла: блізка ўсе пастаўленыя ёй заданьні яна выканала.

Пастановы Акадэмічнай Конфэрэнцыі, асабліва па пытаньнях правапісу і графікі, нельга разглядаць, як абавязковыя пастановы, якія зараз-жа мусяць быць праведзены ў жыцьцё. Праўда, гэтыя пастановы вельмі аўторытэтныя і пэўна з часам будуць рэалізаваны, але рэалізацыя іх павінна рабіцца па 1), у поўнай пагоджанасьці з адпаведнымі навуковымі коламі Заходняй Беларусі і па 2), у законадаўчым парадку праз адпаведныя органы нашай Савецкай улады.

---




П. Харлампові́ч.

# Пяцігодзьдзе Беларускага Дзяржаўнага Музэю.

20-га сьнежня м. г. споўнілася пяцігодзьдзе існаваньня Беларускага Дзяржаўнага Музэю.

Міма волі хочацца аглянуцца назад на пройдзены Музэем шлях, зірнуць мысьленым вокам на тое, што прадстаўляў з сябе Музэй і што ім зроблена за гэты час.

Галоўнай задачай Музэю зьяўляецца зьбіраньне, захоўваньне і вы-



Будынак Бел. Дзяржаўнага Музэю.

вучэньне прадметаў архэолёгіі, гісторыі, этнографіі і мастацтва, якія характарызуюць Беларусь. Праўда, яшчэ і раней, да вайны, цікавіліся тут гэтымі галінамі навукі некаторыя організацыі, якія вывучалі Меншчыну, але мэты адных былі надта вузкія, (былы Менскі Царкоўна-гістарычна-археолёгічны Камітэт), а другія (был. Менскае Таварыства аматараў прыродазнаўства, этнографіі і архэолёгіі), нядоўга існаваўшы,

спынілі сваю працу разам з першымі ў пачатку сусьветнай вайны. Колекцыі Камітэту захаваліся блізка што цалкам, колекцыі-ж Таварыства— гісторыка-археолёгічныя і этнографічныя бадай што зьніклі да рэшты.

20-га студзеня 1919 году быў організаваны ў Менску Абласны Музэй, які згрупаваў сваю дзейнасьць на зьбіраньні матар'ялу, галоўным чынам, мастацкага і гістарычнага характару. Багатыя магчымасьці да пашырэньня і існаваньня Музэю давалі асабнякі мясцовай буржуазіі, але значная частка колекцый гэтага Музэю і, напэўна, лепшая, была вывезена з Менску польскай уладай у 1920 годзе, пасьля чаго рэшткі



Гісторыка-археолёгічны Аддзел.

Музэю хутчэй маглі насіць назву музэйнага складу, чым Музэю, і ў верасьні 1921 году Музэй быў зачынены.

Пасьля дэтальнай праверкі маемасьці, 20 сьнежня Музэй стаў функцыянаваць пры новым штаце супрацоўнікаў. Пад Музэй былі адданы пакоі был. архірэйскага дому, а пазьней і царквы пры ім. Толькі ў 2 пакоях былі разьмяркованы колекцыі Музэю—некалькі дзесяткаў карцін і портрэтаў, мэблі, невялічкі лік фарфору і сброі. Вось амаль усё, што было ў той час у Музэі.

Прышлося будаваць Музэй нанова, зьбіраць матар'ял для іншых аддзелаў і папаўняць тыя, якія ўжо былі.

Цяжка наладжвалася работа, многа часу, працы, энэргіі затрацілася на зьбіраньне, але прайшло 5 год—і з нічога збудавана вялікая

культурная ўстанова—Беларускі Дзяржаўны Музэй (так стаў звацца былы Абласны Музэй з 31-га жніўня 1923 г.).

Музэй мае Аддзелы і Аддзяленьні:

*Гісторыка-архэолёгічны Аддзел*, які мае невялічкую палеонтолёгічную колекцыю, з гордасьцю можа выявіць значную колекцыю каменных прылад—аббіўных і шліфаваных—буйных звыш 150 і шмат маленькіх, якая сабрана на тэрыторыі Беларусі за апошні час. Курганны матар'ял прадстаўлены некалькімі колекцыямі раскопак у Заслаўлі, Рылаўшчыне, Нова-Быхаве, Барысаўскай і Магілеўскай акругах. Гэты Аддзел пабудован за 3 гады і зьяўляецца значнай навуковай каштоўнасьцю.

Па *Аддзяленьні Нумізматыкі і Сфрагістыкі* сабрана да 14.000 монэт, з якіх каля 11.000 з скарбаў, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі,



Этнографічны Аддзел. Агульны від.

значная колькасьць мэдаляй і папяровых грошай і некалькі дзесяткаў пячатак. Монэты ўжо вывучаны і з іх формуецца асноўная колекцыя, у якой лічыцца да 2.500 монэт. Выяўлена значная колькасьць скарбаў, з якіх асабісты інтарэс прадстаўляе Стара-Дзедзінскі скарб (Калінінская акруга), арабскіх дыргемаў і пацерак канца X сталецьця, Расьнянскі скарб (тэй-жа акругі) XVI і XVII ст. з траякамі і Угольшчынскі скарб (Магілеўская акруга) XVII ст. з талерамі.

Будоўля *Этнографічнага Аддзелу* спачатку адбывалася выпадковым шляхам (колекцыі набываліся для выставак). У апошні час папаўненьне аддзелу наладзілася і носіць больш сыстэматычны характар. На сродкі Музэю былі організаваны некалькі экспэдыцый у Случчыну, Мазыршчыну, Рагачэўшчыну, Аршаншчыну і інш., якія далі багаты матар'ял. Недахоп сродкаў не дазваляе дапоўніць прабелы і недалікі і нават атсутнасьць некаторых відаў колекцый, але можна з пэўнасьцю сказаць, што Этнографічны Аддзел у сучасны момант мае вялікую колькасьць выключнага па хараству, паўнаце і рэдкасьці матар'ялу—тканіны і вопраткі, узоры якіх ужо ня часта сустракаюцца на вёсцы,—і наогул ёсьць значная колькасьць прадметаў быту, характарызуючых беларуса.

Этнографічны аддзел зьяўляецца бязумоўна буйнейшым у Беларусі і можа конкураваць з падобнымі аддзеламі цэнтральных музэяў, ня гледзячы на кароткі час свайго існаваньня.

*Аддзяленьне Яўрэйскае,* ня гледзячы на труднасьць набыцьця экспонатаў, за кароткі час згрупавала значную колекцыю характэрных яўрэйскіх прадметаў, фотографій, замалёвак, докумэнтаў і інш.

Музэй прымае крокі да збудаваньня аддзяленьняў—Польскага і Латыскага, а таксама намячаюцца пляны да выяўленьня цыганскай і татарскай народнасьцяй.

*Аддзел Мастацкі,* на жаль, ня носіць рысаў, якія характарызуюць беларускае мастацтва; карціны ўраджэнцаў Беларусі, прадстаўляючы некаторы матар'ял, не даюць пакуль-што мажлівасьці збудаваць нешта



Этнографічны Аддзел, Слуцкая Акруга.

цэлае і абасобленае. У сучасны момант Музэй уладае вельмі някепскай колекцыяй карцін расійскіх мастакоў з вялікімі імёнамі—Трапініна, Брулава, Рэпіна, Сярова, Макоўскіх, Айвазоўскага, Шышкіна, Левітана, Ярашэнкі, Сэміродзкага і інш. У хуткім часе маюць пастуціць з Музэйнага фонду карціны старых школ,—галяндзкай, італьянскай, францускай. Невялікая колекцыя стыльнай мэблі, фарфору розных марак, бронза, дапаўняюць Мастацкі Аддзел, у кладовых якога ёсьць колекцыя гравюр і некалькі гістарычных портрэтаў.

Недахоп выставачнай плошчы не дазваляе дэмонстраваць цікавую і даволі багатую колекцыю старога беларускага царкоўнага мастацтва XVII-XIX сталецьця. Аддзяленьне гэтае, складзенае з б. Менскага і Мсьціслаўскага царкоўных музэяў, уладае вельмі каштоўнымі, з навуковага пункту погляду, прадметамі мастацтва,—вышыўкі, ліцьця, скульптура і г. д.

Апроч пералічаных аддзелаў, Музэй мае думку адчыніць *Аддзел Прамысловы,* які мае вялікае практычнае значэньне дзеля азнаямленьня даведвальнікаў Музэю з рознага роду прадпрыемствамі Беларусі, з якімі яны ня могуць пазнаёміцца на месцы. Недахоп выставачнай плошчы

не дазваляе разьвіць гэты аддзел, хоць некаторая колькасьць адпаведных экспонатаў ужо ёсьць.

*Бібліотэка музэю,* у якой налічваецца да 2.000 томаў, зьмяшчае галоўным чынам, кнігі, маючыя падсобны характар для навуковай працы пры азначэньні колекцый, але ў ёй знаходзіцца некаторая колькасьць старадрукаваных кніг, сярод якіх ёсьць рэдкія выданьні.

*Навуковы Архіў музэю* мае таксама падсобнае значэньне пры вывучэньні колекцыі, папаўняе іх і налічвае шмат фотографій, замалёвак, цікавыя докумэнты і рукапісы; з апошніх зьяўляюцца выдатнымі Тураўская Мінея 1523 г. і Слуцкае Эвангельле 1580 г.

Музэй, 5 год таму назад займаўшы 26 кв. саж., займае цяпер выставачную плошчу ў 231 кв. саж. і, апрача таго, мае ў сваіх кладоўнях



Этнографічны Аддзел. Куток сялянскай хаты.

вялікую колькасьць экспонатаў, якія змогуць заняць плошчу ў 70 - 80 кв. саж.

Надмерная цесната музэйнага памяшканьня перашкаджае Музэю плянова, бесьперапынку працаваць. Плошча з кожным годам усё зьмяншаецца, ня гледзячы на тое, што Музэй расьце і разьвіваецца. Кладоўні набіты праз меру, выставачная плошча скарочана да мінімуму, адсутнічаюць разборачныя і монтыровачныя пакоі.

Навуковыя супрацоўнікі вядуць працу ў цеснаце; бібліотэка і некаторыя колекцыі па некалькі разоў перацягваліся з месца на месца, некаторыя аддзяленьні застаюцца неадчыненымі, напрыклад—Менскі Куток, адсутнасьць якога востра адчуваецца на краязнаўчай працы гарадзкіх школ.

Супрацоўнікі Музэю, апрача зьбіральніцкай дзейнасьці, вядуць вялікую працу па вывучэньні экспонатаў і апісаньні іх. Праведзена падрыхтоўчая праца па ўкладаньні карткавага каталёгу па ўсіх аддзелах; па бібліотэцы каталёг ужо напалову ўкладзены; па нумізматыцы закончана разборка монэт і адборка іх для аснаўной колекцыі, укладзены на іх карткавы каталёг. Пачынаецца ўкладаньне каталёгу і па архіву.

Выдавецкая дзейнасьць Музэю пакуль што слаба разьвіта. У 1925 г. надрукавана справаздача за 1923-24 г., а цяпер рыхтуюцца справаздачы за 1924-26 гады. На падставе музэйных колекцый падрыхтаваны да друку працы „Скарбы Беларускага Дзяржаўнага Музэю“, знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі і якія захоўваюцца ў Музэі, і нататкі аб Праскіх



Яўрэйскі Аддзел.

грашох Віцебскага скарбу. Падрыхтоўваецца зводка аб месцазнахаджэньнях каменных прылад, якія захоўваюцца ў Б. Д. Музэі.

Навуковыя супрацоўнікі Музэю, апрача працы ў Музэі, прымаюць актыўны ўдзел у розных сэкцыях і камісіях Інбелкультy, з якім яны цесна зьвязаны сваёй працай.



Мастацкі Аддзел.

Музэй наладжвае сувязь з рознымі навуковымі організацыямі і краязнаўчымі таварыствамі на мясцох, таксама і з прыватнымі асобамі, якія часта вельмі дапамагаюць Музэю сваімі паказаньнямі і падарункамі экспонатаў. Няма мажлівасьці пералічыць у гэтым кароткім артыкуле тых асоб, якія рознымі спосабамі дапамагалі разьвіцьцю Музэю.

Зацікаўленасьць Музэем з боку насельніцтва, популярнасьць яго расьце і пашыраецца, і цяпер зусім ня рэдкасьць, што прыяжджаючыя ў Менск сяляне з глухіх куткоў Беларусі даведваюцца ў Музэй.

За тры гады, калі Музэй рэгулярна пачаў адчыняць дзьверы для шырокіх мас, праз яго прайшло звыш 1.100 экскурсій, а даведвальнікаў групавых і паасобных каля 45.000 асоб. Найбольшы процант даведвальнікаў складаецца з вучняў, пасьля ідуць чырвонаармейцы, рабочыя і служачыя розных установ і найменш усяго сялян. Часта ў Музэі бываюць даведвальнікі з іншых Рэспублік Саюзу і нават чужаземцы.

Колекцыямі Музэю, бібліотэкай і архівам, апрача супрацоўнікаў Музэю, карыстаўся цэлы шэраг навуковых супрацоўнікаў вышэйшых навуковых установ—мастакі, Беларускі Дзяржаўны Тэатр, Выдавецтва і інш.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што за 5 год сваёй працы Б. Д. Музэй многа зрабіў і запраўды зьяўляецца каштоўнай паважанай навуковай установай, якой трэба пажадаць, пры далейшай дапамозе ўрадавых і грамадзянскіх установ і паасобных асоб, далейшага разьвіцьця на карысьць працоўных мас.






М. Касьпяровіч.

# Організацыя краязнаўчага руху.

## II. Раённае і Акруговае Таварыства Краязнаўства, іх сувязь з мясцовымі ўстановамі і організацыямі ЦБК.

Раённае таварыства краязнаўства мае мэтаю ўсебаковае вывучэньне і дасьледваньне свайго раёну і засноўваецца або ініцыятарамі з раённага цэнтру ў ліку ня менш 7 асоб, або сходам гурткоў краязнаўства данага раёну, які вылучае з сябе заснаваўцаў, што дзейнічаюць так, як і заснаваўцы гуртка. У другім выпадку ініцыятыву скліканьня сходу павінен узяць на сябе адзін з гурткоў.

Такім чынам, у раённым цэнтры—мястэчку, сяле,—утвараецца краязнаўчая організацыя, якая мае заданьнем усебаковае вывучэньне і дасьледваньне раёну. У склад яе ўваходзяць пераважна насельнікі гэтага цэнтру. Яна і носіць назву раённага таварыства краязнаўства. Дзеля таго, што ў гуртках краязнаўства можа быць вельмі мала асоб, якія ўмелі-б з мэтодычнага боку належна наладзіць справу вывучэньня свае тэрыторыі, а ў раённым цэнтры мала сіл для непасрэднай працы ў розных кутках раёну—існаваньне неаб'яднаных організацыйна гурткоў і організацый раённага цэнтру было-б немэтазгодна. Затым статуты, прадугледжваючы гэта, устанаўляюць з самага пачатку заснаваньня аўтоматычнае залічэньне ўсіх сяброў гурткоў у члены раённага таварыства краязнаўства і пэўную залежнасць дзейнасьці гурткоў ад дзейнасьці таварыства. У выніку гэтага таварыства складаецца з членаў, якія прыняты агульнымі сходамі гурткоў, або організацыі раённага цэнтру, а організацыйна складаецца—з гурткоў і об'яднаньня раённага цэнтру, якое ў сваю чаргу, калі ёсьць на гэта адпаведныя ўмовы, складаецца з сэкцый: культурна-гістарычнай, прыродна-географічнай і грамадзка-экономічнай.

Адсюль відаць, што гурток зьяўляецца першапачатковай краязнаўчай організацыяй пераважна для здабытку матар'ялаў, а раённае таварыства краязнаўства—першапачатковай краязнаўчай організацыяй, што можа выконваць увесь краязнаўчы процэс: збор і падлік наглядаваньняў, фактаў, клясыфікацыю і сыстэматызацыю іх; аналіз і ўстанаўленьне сувязі паміж зьявамі і фактамі; навуковы сынтэз і практычныя вывады з працы. Калі часамі сваіх навуковых сіл у раённым тава-

рыстве для гэтага ня хопіць—яно зможа організаваць сабе дапамогу навуковых сіл іншых мясцовасьцяй. Такіх мажлівасьцяй гурткі краязнаўства часьцей за ўсё ня могуць мець.

Узаемаадносіны раённага таварыства з акруговым грунтуюцца на задачах вывучэньня данага раёну даным мясцовым раённым таварыствам краязнаўства па зацьверджаным агульным сходам яго ці конфэрэнцыяй пляне. Заданьні акруговага таварыства краязнаўства ня могуць выходзіць з меж гэтага пляну і парушаць яго. Пакольki-ж акруговае таварыства мае мэтаю ўсебаковае вывучэньне і дасьледваньне ўсёй акругі, а значыць і гэтага раёну, яно ня можа не дапамагаць працы раённага таварыства, здабыткі якога пойдуць на карысьць працы яго-ж. Значыць, раённае таварыства кіруецца акруговым і пераважна шляхам коордынацыі і ўвязкі свае дзейнасьці з акруговым, а таксама дзейнасьці апошняга з раённым. Гэта лягчэй за ўсё будзе рабіць на акруговых і раённых краязнаўчых конфэрэнцыях.

Акруговае таварыства краязнаўства складаецца з заснаваўцаў, што дзейнічаюць як і заснаваўцы гуртка і ўсіх грамадзян, прынятых агульным сходам членаў таварыства, якія жывуць у вакруговым горадзе. Апрача апошніх, у таварыстве могуць быць члены, якія жывуць і на акрузе, або нават далёка па-за межамі яе і быць прысутнымі на сходах ня могуць.

Калі гурткі адлічаюць пэўную частку сваіх членскіх узносаў на карысьць раённых таварыстваў, дык апошнія ў стасунку да акруговага таварыства гэтага ня робяць, бо іх члены не зьяўляюцца членамі акруговага таварыства без абраньня сходам апошняга.

Праўленьне акруговага таварыства краязнаўства абіраецца акруговай краязнаўчай конфэрэнцыяй, зважаючы на тое, што яно павінна будзе кіраваць дзейнасьцю таварыства, што вывучае акругу, а значыць і зносіцца з раённымі таварыствамі краязнаўства, коордынуючы сваю дзейнасьць з імі,—яно павінна карыстацца аўторытэтам і падмогаю раённых таварыстваў краязнаўства.

Неабходна клапаціцца, каб ня было камандаваньня раённымі таварыствамі з боку акруговага, бо ў такой справе, як краязнаўства, дабрахвотнасьць працы зьяўляецца падвалінаю посьпеху. А конфэрэнцыі, разам з-тым, павінны зьяўляцца цэмантам, што зьвязвае працу раённых таварыстваў з акруговымі.

Акруговае таварыства складаецца з сэкцый: культурна-гістарычнай, прыродна-географічнай і грамадзка-экономічнай, а таксама яўрэйскай і польскай і інш. нацыянальных меншасьцяй, прычым апошнія сэкцыі працуюць звычайнымі мэтодамі пераважна па вывучэньні сваёй нацыянальнасьці і яе атачэньня на тэрыторыі акругі. Калі будуць адпаведныя ўмовы, такія сэкцыі нацыянальных меншасьцяй могуць організоўвацца і ў раённых таварыствах краязнаўства.

Іншыя дэталі організацыі акруговага таварыства краязнаўства відаць з статутаў.

Складаючыся з гурткоў і раённых акруговых таварыстваў краязнаўства, краязнаўчая сетка падлічваецца, аб'яднаецца і кіруецца Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Інстытуце Беларускай Культуры. Бюро дасьледчай і навуковай працы не вядзе, чым значна адрозьніваецца ад іншых краязнаўчых організацый, якія яе організуюць у межах раёну, акругі.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства мае мэтаю:

а) падлік краязнаўчай працы ў БССР;


Структура краязнаўчае сеткі БССР.
Цэнтральнае Бюро Краязнаўства
Акруговае таварыства краязнаўства
Школьны краязнаўчы гурток у горадзе.
Раённае т-ва краязнаўства
Школьны гурток
Краязнаўчы гурток на раёне
Таварыства краязнаўства выш. школы
Гурток краязнаўства ў горадзе
Гурток тэхнікуму

б) дапамогу мясцовым таварыствам, гурткам, музэям, бібліотэкам, архівам і інш. краязнаўчым організацыям у іх навукова-дасьледчай працы і набліжэньне іх працы да чарговых практычных задач савецкага культурна-гаспадарчага будаўніцтва;

в) распрацоўку мэтодычных краязнаўчых пытаньняў;

г) пашырэньне краязнаўчай сеткі БССР;

д) выяўленьне найбольш важных чарговых пытаньняў мясцовага краязнаўства, на якіх павінна быць сконцэнтравана ўвага пры ўкладаньні плянаў навуковых прац па акругах;

е) популярызацыю ідэй краязнаўства ў мэтах прыцягненьня да краязнаўчай справы шырокіх колаў працоўных;

ж) організацыю і правядзеньне краязнаўчых зьездаў і пленумаў і падрыхтоўку матар'ялаў да іх у вагульна-рэспубліканскім маштабе;

з) накіраваньне працы краязнаўчых організацый БССР;

і) кіраўніцтва акруговымі і раённымі краязнаўчымі конфэрэнцыямі.

Для ажыцьцяўленьня гэтых мэт Цэнтральнае Бюро Краязнаўства дае друкаваныя пэрыодычныя органы і розныя працы па організацыйных і навуковых краязнаўчых пытаньнях, мае правы організаваць ад сваіх выданьняў, бібліотэкі і розныя навукова-дапаможныя ановы, курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы працаўнікоў па язнаўству, прычым усю працу па пытаньнях школьнага краязнаўа Цэнтральнае Бюро Краязнаўства ўзгадняе з Народным Камісарыятам Асьветы.

Краязнаўства наскрозь дыялектычна: учарашнія задачы супярэчаць сёньняшнім, заўтрашнія сынтэзуюць сёньняшнія і ўчарашнія і г. д. У развоі краязнаўчай працы трэба гэта ўсягды заўважыць і не застываць на пэўнай ступені свайго разьвіцьця. Затым даны артыкул у большасьці адбівае сёньняшні стан справы і вызначае простор разьвіцьцю яе на нядоўгі час. Толькі тады, калі развой краязнаўства дасьць мажлівасьць краязнаўчага раёнаваньня краіны, можна будзе ўсталяваць больш акрэсьлена і формы краязнаўчых організацый і іх узаемаадносіны.

Бясспрэчна, што краязнаўчыя аб'яднаньні, згрупаваўшы ў сваіх шэрагах мясцовых працаўнікоў, што жадаюць вывучаць і дасьледваць свой край, ня могуць самі адасобіцца ад працы іншых організацый і ўстаноў. Краязнаўчыя об'яднаньні маюць заняць пэўнае месца сярод іх у мясцовым жыцьці.

У першую чаргу таварыства павінна зьвязацца з дзейнасьцю ўстаноў народнай асьветы. Школы, маючы заданьнем адукаваць дзяцей на вывучэньні мясцовага жыцьця, пры належным кіраўніцтве могуць даць каштоўны матар'ял краязнаўчым аб'яднаньням. Апошнія могуць у тым ці іншым відзе зьвярнуць гэты і даць новы апрацаваны матар'ял для карыстаньня школай. Хаты-чытальні, нардамы, клюбы і д. т. п., карыстаючыся вынікамі вывучэньня краю для плякатаў, дыяграм і г. д., а таксама бяручы іх за выхадны пункт у сваіх гутарках, лекцыях, пры жаданьні могуць дапамагчы зборам цікавых расьлін, казюлек і інш. цераз сваіх кліентаў, запаўненьнем анкет і падобным.

Плянавыя дзяржаўныя ўстановы ня могуць не грунтаваць свае рацы на дасьледваньнях краязнаўчых аб'яднаньняў, а апошнія ў пэўай ступені не абыйдуцца без матар'ялаў першых.

Аддзелы асьветы, земляробства і г. д. у сваёй бягучай працы ўвесь час павінны грунтавацца на веданьні краю, які вывучае пры іх дапамозе і часамі на іх матар'ялах краязнаўчая організацыя.

Гісторыя мясцовага профэсыянальнага руху, мажлівасьць скарыстаньня пэўнага ліку работнікаў у даным краі, беспрацоўе ў гістарычнай пэрспэктыве і інш. пытаньні ня могуць ня цікавіць профэсыянальныя і краязнаўчыя аб'яднаньні і ня выклікаць сувязі ў іх дзейнасьці.

Грамадзкія організацыі таксама не павінны заставацца бяз сувязі з краязнаўчымі аб'яднаньнямі. Саюз паляўнічых, камісія па вылічэньні страты ад інтэрвэнцыі, вывучаючы об'екты паляваньня, страт мясцовага краю ад інтэрвэнцыі, чым не краязнаўчыя ў гэтым пытаньні, якое—частка ўсебаковага пазнаньня краю краязнаўчымі організацыямі. Коопэрацыйныя аб'яднаньні ўжо давялі неабходнасьць сувязі з краязнаўчымі супольнымі выданьнямі і інш. працаю ў РСФСР.

Урэшце, краязнаўства клясавае да канца, як мы ўжо раз успаміналі, ня можа ня зьвязвацца з партыйнымі організацыямі.

Музэі, архівы, бібліотэкі, навукова-дасьледчыя інстытуцыі цалкам родныя краязнаўчаму аб'яднаньню і неабходнасьць сувязі з імі не патрабуе довадаў.

Як адзін чалавек ня можа жыць і дзейнічаць сам па сабе, а мае супольнікаў, прыхільнікаў і г. д., так і краязнаўчыя аб'яднаньні, радзіўшыся і займаючы першае месца ў мясцовым жыцьці, павінны знайсьці як найбольшы лік сваіх супольнікаў, супрацоўнікаў, прыяцеляў і г. д., каб лягчэй дасягнуць сваіх мэт. Нашы-ж савецкія, грамадзкія і іншыя ўстановы і організацыі не павінны забывацца, што краязнаўчая організацыя—пэўнае зьвяно мясцовага жыцьця, а „моц ланцуга роўна моцы самага слабага зьвяна яго“.

Краязнаўчы рух у паказаных організацыйных формах цалкам дапушчае мажлівасьць вольнага і пасьпяховага самаразьвіцьця, асабліва пры тым росьце актыўнасьці селяніна, работніка, вучня і працоўнага інтэлігента, які зараз наглядаецца.





Ал. Шлюбскі.

# Год зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу.

Гэты артыкул мае на мэце падвесьці падлік гадаваму зьбіраньню фольклёрнага матар'ялу на абшарах БССР, а таксама — зрабіць некаторыя мэтодычныя заўвагі, якія выкліканы гадавой практыкай.

Ужо год, як Цэнтральнае Бюро Краязнаўства Інстытуту Беларускае Культуры, пры дапамозе 165 краязнаўчых організацый розных тыпаў, наладзіла зьбіраньне вуснай народнай творчасьці; гэтае пытаньне знайшло жывы водгук сярод мясцовых працаўнікоў, якія надаслалі ў ІБК для пачатку даволі значны лік запісаў. Зусім сваячасна падрахаваць і ацаніць гэты матар'ял, каб на грунце гадавой практыкі абмінаць мажлівыя памылкі, недахопы пры далейшым зьбіраньні матар'ялаў.

Галоўнейшы, па ліку і якасьці, кадр зьбіральнікаў належыць, як гэтага і трэба было чакаць, нашаму вясковаму настаўніцтву, а потым слухачом пэдагогічных тэхнікумаў і вучням старшых кляс сямігодак. Беларускае настаўніцтва заўсёды было адзыўчывым у справе вывучэньня роднага краю, варта толькі прагледзець такія зборы нашай вуснай народнай творчасьці, як „Сборникъ памятниковъ народнаго творчества въ северо-западном крае" П. Гільтэбранда (1866 г.), „Белорусскія песни" і чатыры тамы „Матеріаловъ"... П. Шэйна (1873—1901), „Белорусскія Сборники" Е. Раманава (1886—1912 г.), „Матеріалы для изученія белорусских говоровъ" (1897—1910) Е. Карскага і шэраг іншых, як убачым, што найбольш актыўнымі зьбіральнікамі этнографічных матар'ялаў заўсёды было наша настаўніцтва; далей цэлы шэраг іх выступае ў этнографічнай літаратуры, як з самастойнымі зборамі, напр., Н. Нікіфароўскі („Приметы"..., „Очерки житья-бытья", „Очерки Витебской Белоруссіи", „Нечистики", 1892—1911), Малевіч („Белорусскія народныя песни", 1907), Анікіевіч („Сенненскій у.," 1907), Розэнфэльд („Белорусскія народныя песни", 1904) і многія іншыя і таксама і з шэрагам вельмі цікавых і каштоўных артыкулаў, якія раскіданы пераважна па мясцовых газэтах: „Губернскихъ Ведомостяхъ"—Віцебскіх, Магілеўскіх, Менскіх, Гародзенскіх, „Смоленскомъ и Виленскомъ Вестникахъ", у „Памятных книжках" гэтых губэрань і г. д.

І было-б пажадана, каб гэтая традыцыя, якая вядзе свой пачатак

ад першых гадоў існаваньня нашага настаўніцтва, не зьністожылася-б, а наадварот пашыралася-б пад кіраўніцтвам вышэйшай навуковай установы краю—Інстытуту Беларускае Культуры.

Разгляд сабранага матар'ялу мы будзем рабіць па акругах.

*Аршанская акруга.* У кожнай акрузе ёсьць адна або дзьве асобы, якія па меры іх магчымасьцяй вядуць сыстэматычнае зьбіраньне народнай творчасьці, якія найбольш захоплены гэтай працай, з якіх, можна спадзявацца, што з часам могуць выйсьці сталыя, сур'ёзныя этнографы, на якіх Ф.-Д. Камісія можа базавацца ў сваёй далейшай працы і навуковых назіраньнях над тымі ці іншымі мясцовымі фольклёрна-дыялектолёгічнымі зьявамі.

У Варшанскай акрузе да ліку такіх зьбіральнікаў належыць *Базыль Кавалёў,* які зьбірае матар'ял у Горацкім раёне; у распараджэньні камісіі знаходзяцца наступныя запісаныя ім матар'ялы: песьні; калядныя—4, веснавыя—9, жніўныя—1, хрэзьбінныя—1, вясельныя—4, бытавыя—3, прыпеўкі—125, загадкі—22, апавяданьні і казкі—4. Запісы Кавалёвым рабіліся паводле прынятых этнографічных прынцыпаў з дакладным паказаньнем узросту, пісьменнасьці, заняткаў і г. д. казацеляў і тых культурных уплываў, галоўным чынам маскоўшчыны, якія адбіваліся на іх; некаторыя песьні запісаны ў часе сьпеву, што, бязумоўна, павялічвае каштоўнасьць запісу ў параўнаньні з запісам, які зроблены са спэцыяльнага пераказу; у вымаўленьнях, якія адзначаюцца ад літаратурнай мовы, зьбірацель ставіць націскі, як напр., „яблыня сыхарная“, „яблыня сахорноя“; да мала зразумелых слоў дадаюцца належныя тлумачэньні. Запісы зьбіральнік робіць паводле фонэтычнага прынцыпу ці, як ён сам адзначае ў лісьце: „пісаў я не мяняючы, аніводнага слова“... напр. „пы табе“, „сыдружалісі“, „ету“, „далёка відайіць“, „Хвёдырка“; хаця сустракаюцца месцы, якія патрабуюць спэцыяльнай праверкі, як, напр., „трецьці“ і г. д. У запісах Кавалёва зьвяртае на сябе ўвагу наступная калядная песьня, паходжаньне якой, бязумоўна, захавана ў далёкай сівой мінуўшчыне:

Прішла Кыліда ў вечырі, у вечырі
Прінісла дудкі ў решыці, ў решыці.
Пыставіла дудкі ны стаўпе, ны стаўпе,
А сыма села ны куце, ны куце.
Сталі дудкі іграці, іграці,
Сталі дзеўкі скыкаці, скыкаці.

Далей маем наступны матар'ял.

*Н. Пілецкая* дае апісаньне купальскіх звычаяў цікавае па зьмесьце і значнае па аб'ёме з дадаткам 8 песень; на жаль, няма адзначэньня дзе, са слоў каго і г. д. запісваліся матар'ялы.

*У. Макаёў* з Ляднянскага раёну дае 99 прыпевак і 1 бытавую песьню; да запісаў прыкладзены мэлёдыі, чым бясспрэчна павялічваецца каштоўнасьць запісаў. Навукай у вапошнія часы высоўваецца пытаньне аб сувязі паміж славесным тэкстам і музычным мотывам, якая мае пэўную значнасьць у дасьледваньні мастацкіх прыёмаў народных песень. З гэтай прычыны пажадана да тэкстаў песень, па магчымасьці, далучаць і іх мотывы, тым больш, што народных мэлёдый у беларускай этнографічнай літаратуры надрукавана надта мала. Програма па зьбіраньні беларускай музычна-этнографічнай творчасьці ўложана А. Грыневічам („Наш Край“ 1925 г. № 1, стар 45—49.).

*Горацкім Раённым Т-вам Краязнаўства* прыслана 11 песень; яны абясцэньваюцца адсутнасьцю: 1) месца і даты іх запісаньня, 2) прозьвішча асобы, якая запісвала, 3) прозьвішча казацеляў і даных аб іх;

па гэтай прычыне немагчыма, напр., праверыць правільнасьць фонэтычнага запісу, а яны маюць некаторыя асаблівасьці або недакладнасьці.

*Т. Котаў* надаслаў некаторыя матар'ялы па народных „павер'ях" і апісаньні хрэзьбін і пахаваньняў; да апошняга ён не дае тэкстаў галашэньняў па нябожчыках; трэба адзначыць, што на гэты від народнай творчасьці нашы папярэднія этнографы не зьвярталі амаль што ніякай увагі; невялікую колькасьць іх знаходзім у Шэйна, Раманава і Дабравольскага; этнографы іншых народаў зьвяртаюць на галашэньні значна большую ўвагу, чым мы, гэта падкрэсьлівае прысутнасьць ва ўсім апісаным тут матар'яле толькі аднаго запісу. У свой час З. Бядуля зьвяртаў на гэты від народнай творчасьці ўвагу нашых пісьменьнікаў і культурнікаў, як на надзвычайна поэтычныя імпровізацыі („Народная імпровізацыя". Беларускі каляндар на 1922 г. Вільня, ст. 24—29). Нашы зьбіральнікі павінны зьвярнуць належную ўвагу на запісваньне народных галашэньняў і гэтым пакрыць той прабел, які мае наша этнографічная літаратура.

У самыя апошнія часы Котавым надаслана кароценькае апісаньне Купальля ў Горацкім р. з дадаткам 4 песень; запісы песень кепскія, напр., ужываюцца такія словы, як „цьвіцэць", „падсьцэрагу", „цомны", „мацы" і г. д.

*Ёўмяненка А.* прыслаў апісаньне вясельля Ляднянскага р. (без адзначэньня вёскі), ілюстравана песьнямі.

*Круглікаў Б.* прыслаў тры песьні, прычым у сваім лісьце дадае, што яны „записанные и обработанные мною лично", а далей піша „мною собрано и обработано свыше 50 народных песень", што трэба разумець пад „обработкой" песень няма ведама; па тэксьце запісаў відаць, што яны зусім ня вытрыманы з боку фонэтычнага. Трэба адзначыць самым катэгорычным парадкам, што як песьню, так і любы народны твор ні ў якім разе нельга „обрабатывать"; народны твор павінен перадавацца на паперы дакладна ў такім выглядзе (нават і папсутым), у якім зьбіральнік пачуў яго з вуснаў народу, інакш уся зьбіральніцкая праца ня будзе мець абсолютна ніякай вартасьці.

*Трыбулёў Р.* дае 15 вясельных песень (Ляднянскі р.); зьвяртае на сябе ўвагу наступная веснавая песьня з заклíканьнем вясны:

Благословi божа, багословi божа,
Вясну заклікаці, вясну заклікаці
Зіму забываці.
Вясна на прыклетку
Зіма на паветку
А ўсе пташачкі, а ўсе пташачкі,
Божа мілы, прыляцелі
Адна засталася, адна засталася
Шэрая зязюлька.
І тая ня хочыць, і тая ня хочыць
Рана кукаваці,
Рана кукаваці, рана кукаваці
Вясну заклікаці.
Вясну заклікаці, вясну заклікаці
Зіму забываці,
А ўсе дзевачкі, а ўсе дзевачкі
Замуж выйшлі
Адна засталася, адна засталася
Божа мілы, бедная
І тая ня хочыць, і тая ня хочыць
Рана уставаці;
Рана уставаці, рана уставаці,
Вясну заклікаці;

Вясну заклікаці, вясну заклікаці
Зіму забываці.

Цікавае апісаньне калядных сьвяткаваньняў у Ляднянскім раёне з дадаткам 15 песень даў *Я. Радкевіч.*

*Бакштаеў Е.* у Загаранскім сельсавеце запісаў 9 песень; адсутнічаюць весткі аб казальніках.

*Яўхімаў А.* запісаў у Горацкім р. прыказак—9, загадак—12, песень вясельных—2, бытавых—5.

Вучаніца Ляднянскай сямілеткі *Гусінцава Натальля* запісала ў Ляднянскім раёне 113 прыпевак. Да запісаў старшыня Ляднянскага краязнаўч. т-ва Л. Калецкі дадаў: „на запіс крыху зрабіў уплыў т. Лёсік“, што выявілася ў зьністажэньні Гусінцавай мясцовых асаблівасьцяй мовы, чаго ні ў якім разе не павінна быць і дзякуючы чаму зьмяншаецца каштоўнасьць сабранага матар'ялу.

Вучань той самай школы *Макаёў Сяргей* запісаў 3 казкі. *Р. Сівянкоў* зяпісаў 2 казкі. *С. Арахоўскі* запісаў калядных п.—3, масьленічных—1, веснавых—1, купальскіх—2, жніўных—7, вясельных—12, хрэзьбінных—2, бытавых—4.

І калі нарэшце памянём кароценькае апісаньне „Прадвясельных абрадаў“ Ф. Гусінцава і сшытак з дыялектолёгічнымі нагляданьнямі М. Балінскага (Дрыбінскі р.), то зьбіральніцкая праца за апошні год па Аршанскай акрузе будзе прадстаўлена цалкам.

*Бабруйская акруга.* З запісаў Бабруйскай акругі зьвяртаюць на сябе ўвагу 16 песень Сьвіслаўскага раёну з запісанымі да іх мэлёдыямі *А. Пятрова.*

А. Пятроў сур'ёзна цікавіцца справай зьбіраньня песень і мэлёдый; з яго ліста даведваемся, што ён запісаў у сваёй мясцовасьці ня толькі тэксты ўсіх вясельных песень, але нават і іх мэлёдыі; і ня гледзячы на тое, што зьбіраньне этнографічнага матар'ялу—рэч ня лёгкая, ён ня спыняе яго. „Па меры сваёй магчымасьці,—піша ён,—я ўсё-такі працую і ў далейшым буду працаваць для адраджэньня сваёй роднай беларускай культуры“.

*Цімашкоў Н.* прыслаў 16 песень, запісаных у Рагачэўскім р. і акуратна перапісаных.

*Равінскі А.* у Макавецкім сельсавеце запісаў 10 песень і 70 кароценькіх прыкмет; сярод яго запісаў знаходзім „беларускую, народную“ песьню, якая пачынаецца так:

Когда-то в Англии
Был царь удалой,
Имел себе две дочери—
Красавицы собой“ і г. д.

*Вусава В.* у Сьвіславіцкім р. запісала 15 вясельных песень, 4 жніўныя, 9 прыпевак, 8 загадак і некалькі прыказак. Ня ўсюды яна вытрымлівае фонэтычны прынцып запісу, а мясцамі ўводзіць новыя літары, ня тлумачачы якое ім надае значэньне,—так напр., яна піша „на дворɛ“, „вячɛраць“ і г. д. Што Вусава хацела адзначыць, уводзячы гэтую літару—ці які-небудзь новы гук, ці тэорыю Я. Лёсіка аб замене „э“—без яе тлумачэньняў застаецца невядомым. Нашага альфабэту не хапае, каб ім адзначыць усе фонэтычныя відазьмены і асаблівасьці нашай мовы і вось этнографы ўводзяць цэлы шэраг умоўных значкоў і няіснуючых літар, якімі адзначаюць тыя ці іншыя гукі, такім чынам увод у запіс новых літар і значкоў бязумоўна патрэбен пры жаданьні дакладнай перадачы мовы, але толькі трэба вытлумачыць якое ім надаецца значэньне.

Група вучняў апошніх кляс — *А. Вайцаховіч, К. Цьвірка, К. і Л. Ланеўскія, М. Стэльмах, Я. Трус, Т. Зянюк* і *М. Жук* запісалі ў Асіпавіцкім раёне 100 прыпевак. Адзначаючы прозьвішчы асоб, са слоў якіх зроблены запісы, зьбіральнікі не адзначылі іх узросту, пісьменнасьці, культурных уплываў, адным чынам, тых фактараў, якія дапамагаюць лепшаму вывучэньню запісаных твораў. Гледзячы на тое, што ў запісаных прыпеўках фігуруюць такія словы, як „конфеткі", „спорылі", „булкі" і г. д. можна думаць, што яны запісаны са слоў маладога пакаленьня, якое знаходзілася пад русіфікуючымі ўплывамі.

Там сама *Валодзька* запісала 16 песень з недахопамі папярэдніх зьбіральнікаў.

*Л. Жук* надаслала некалькі аркушоў сваіх запісаў; паміж іншым, яна прыводзіць у пераказе сваімі словамі народнае апавяданьне аб кургане. У такім выглядзе яно амаль што ня мае вартасьці. Народныя апавяданьні аб курганох, месцах, азёрах, каменьнях і г. д. трэба запісваць словамі самога народу, як гэта, напр., рабіў М. Федароўскі ў сваёй трохтомнай працы „Lud Białoruski na Rusi Litewskiej".

Вучні Глускай школы запісалі 10 замоў; да тэкстаў трэба было даць як абрады, зьвязаныя з замовамі, так і жыцьцярысы загаворнікаў, высьвятленьне іх дзейнасьці, адносіны насельніцтва і г. д. Характарыстыкі саміх загаворнікаў у нашай этнографічнай літаратуры высьветлены мала.

*Барысаўская акруга.* У Барысаўскай акрузе зьбіраньне фольклёрнага матар'ялу на працягу ўсяго году гуртавалася каля цэлага шэрагу сямілетак: Веляціцкае, Бобрскае, Капланецкае, Вальскае і Зьмітраўскае; да зьбіраньня матар'ялу была прыцягнута значная колькасьць вучняў, якія сабралі наступнае: замоў—14, песень калядных—20, масьленічных—15, веснавых—17, русальных (трайчанскіх)—1, купальскіх—7, жніўных—40, вясельных—69, бытавых—18, прыказак—138, загадак—109, казак—53.

Вучні малодшых кляс Капланецкай і Зьмітраўскай школ, якія ледзь выводзяць літары, па загаду настаўнікаў пазапісвалі хто што ведаў. Запісы гэтыя ня маюць цікавасьці ні з боку літаратурнага, ні з боку дыялектолёгічнага, дый наогул дзіцячыя запісы ня могуць мець ніякай навуковай вартасьці; прывяду для прыкладу адзін запіс:

„Жыў адін старік. поехол ў город Маскву прадал он свайго коня і прішлося яму іці пешша. Ишоў ішоў прітамівся, і тут заходіць ноч, відіць он стаіць хутарок он за шоў у няго і пытаітца ті пусьціця"... і г. д.

Вывучэньне сабранага матар'ялу, які дзяцьмі ня можа быць выкананы ня толькі паводле патрабаваньняў этнографічнай навукі, але нават паводле звычайнай лёгікі (напр., пры цэлай сотні загадак адсутнічаюць адгадкі) прыводзіць да думкі, што трэба катэгорычна адмовіцца ад дапамогі дзяцей пры зьбіраньні фольклёру; да справы зьбіраньня могуць быць прыцягнуты толькі вучні старэйшых кляс і то пры ўмове, калі ўсе іх запісы прорэдагуе асоба, добра ведаючая мясцовыя гутаркі; так, напр., зрабіў настаўнік Веляціцкай школы Касьцюкевіч, у выніках чаго маем матар'ял меншы па ліку, але больш каштоўны па зьместу.

Вось некалькі прыказак, якія маюць гістарычны характар: 1) Галодны француз і вароне рад; 2) Ня будзь ня войтам, ня сватам—

ня будзеш чалавекам праклятым; 3) Былі, былі баяры—воўкам вылі; 4) Москва, што дашка—стаіць шырока да ўсюды цісьніць.

З ліку паасобных зьбіральнікаў народнай творчасьці ў Барысаўскай акрузе трэба вызначыць *Емяльлянава* ў Чарэйскім р. і *Касьцюкевіча* ў Барысаўскім р. Емяльлянаў запісаў 15 замоў, 6 казак, 74 загадкі і 15 песень.

З ліку запісанага цікава з бытавога боку наступная песьня:

У Копасьці навіна—
Распраклята старына;
Клічуць войта са двара:
„А ты, войт, а ты, брат,
„Будзем з табой раду браць
„Каго нам у салдаты ўзяць?
Дзе чатыры ня веляць,
А дзе тры—уцяклі,
А дзе двое—нету дома;
А ўдовушкі ўдавы
Быў сынок удалы:
Яго у салдаты ўзялі,
Паставілі у станок,
Вяршок меры не дайшоў—
Пан з'казной падашоў;
І ён у салдацікі пашоў
Вязуць яго ў гарадзец,
Бо ён харошы маладзец
Ні матушкі ні атца,
Як заблудная аўца.

Касьцюкевіч падае 85 песень, прычым нельга згадзіцца з яго тлумачэньнем да вясельных песен: „Пасьля кожнай песьні не паказана, калі ў вясельлі гэтая песьня сьпяваецца, але кожнаму беларусу, які знаём хоць крыху з абрадам, зьмест сам пра гэта скажа“. Так рабіць і разважаць ні ў якім разе нельга. Беларусь вяліка і ў розных канцох яе розныя звычаі, час відазьмяняе ўжываньне песьні, дый працуем мы не для сёньняшняга дня, бо вядомае цяпер можа быць невядомым праз некаторы час.

*Судніковіч А.* запісаў у Бегомльскім раёне 115 прыпевак, 2 казкі, 10 загадак і 2 бытавыя песьні. На продукцыйнасьці запісаў зьбіральніка адбіваецца яго занятасьць гаспадаркай, „цяпер я працую,—піша ён,—у сваёй гаспадарцы, так што многа часу аддаваць пад гэту працу не магу“.

З прыпевак Судніковіча цікава адзначыць наступную, якая маець новыя мотывы, якія малююць першыя гады рэволюцыі і польскай окупацыі Беларусі:

Беларусь, ты мая
Хлебародная!
Палякам хлеб аддала—
Сама галодная.

У Плешчаніцкім раёне *Я. Дз.* (прозьвішча напісана нячытэльна) запісаў 24 прыпеўкі і 44 прыказкі. З ліку прыпевак лічым патрэбным адзначыць наступныя:

а) Я на бочцы сяджу,
А пад бочкай каша.
Не надейціся, палякі,
Што Беларусь ваша.
б) Я на бочцы сяджу,
А пад бочкай банка.
Мой муж пракурор,
А я спікулянтка.

в) Ой, яблычка,
Куды коцісься?
У палякі пападеш—
Назад не вароцісься.
г) Ой, пан, ой пан!
На што жэнісься?
Прыдзе бальшавік
Дзе ты дзенісься!
д) Я на бочцы сяджу.
А пад бочкай каша.
Мой муж камуніст,
А я дзелягатка.

Песьні з ужываньнем назовы „Беларусь" разгляджу ніжэй. Нарэшце трэба адзначыць запісы Чарэйскага р.—*В. Гуськова, А. Залескай, Р. Кішкурнай, Г. Маркавешкі, Л. Федарынчыка і П. Сейка,* якія ўсе разам запісалі 19 вясельных п., 2 веснавыя п. і 9 бытавых п., у якіх, галоўным чынам, прыкмячаюцца фонэтычныя недахопы.

Цікава прыказка, запісаная Федарынчыкам са слоў менскай „мяшчанкі": „Чынш да падатку нічога не належыць".

*Віцебская акруга.* У Віцебскай акрузе фольклёрны матар'ял на працягу ўсяго мінулага году зьбіраўся ўсяго толькі ў двух пунктах—у Межынскім і ў Чашніцкім раёнах.

Асаблівай актыўнасьцю вызначаецца Межынскі раён, зьбіральнікі якога бязупынна на працягу ўсяго году паасобнымі сшыткамі і аркушамі насылалі матар'ял, у выніках чаго маем наступныя запісы:

1. *А. Гурко* ў Газьбенскім сельсавеце запісаў: загавораў—3, вясельных песень—20, загадак—37, прыпевак—102, прыкмет—27. У гэты пералік ня ўключана „чырвона-армейская песьня":

„Ехалі салдаты са службы дамоў
На плечах пагоны, на грудзёх крясты
На сустрэчу сыночку радной сам атец..."
і г. д.

Нашы зьбіральнікі і наш фольклёр нічога ня згубяць, калі ня будуць запісвацца падобныя „народныя" песьні, якія па духу, мове і зьмесьце ня маюць ніякай тычнасьці да Беларусі, а зьяўляюцца ў нашай вёсцы русіфіцыйнымі наносамі.

2. *П. Мач* запісаў: казак—3, загадак—14, прыпевак—91, бытавых песень—2; месцы запісаў і іншыя весткі не адзначаны;

3. *В. Багданаў* у Паташынскім сельсавеце запісаў 74 прыпеўкі; ня лічу песьні:

„Однажды меня приглашалі на бал,
Хорошенький малец со мной танцеваў" і г. д

якую можна было не запісваць.

4. *Р. Гарбаценка* запісаў 38 прыпевак і дзьве надта няўдалых „деревенскія сказкі" на расійскай мове:

а) „Возле лесу в деревушке мама с дочерью жила,
І у маленькой резвушки красна шапочка была..." і г. д.
б) „Чака арестовали, я думал шутя, а на утро
Об'евляют, что растреляют меня"... і г. д.

Гэтыя „перлы" творчасьці можна было таксама не запісваць.

5. *В. Фомін* (Межынскі р.) запісаў 115 прыпевак; для навукі запісы цікавы сваёй нецэнзурнасьцю. Гэты від народнай творчасьці запісан і апублікован у нашым фольклёры пакуль што ў вельмі малым ліку; вядома толькі адна кніжка „Свадебныя песни белоруссов", выданая ў Магілеве ў 1884 г. у ліку 20 паасобнікаў, у якой зьмешчана 169 вясельных нецэнзурных песень, некалькі нумароў іх знаходзім у зборніках Шэйна і Малевіча. Есьць весткі, што некаторыя працаўнікі

нішчаць як гэты від народнай творчасьці, так і прыпеўкі, маючыя політычны характар, калі яны паступаюць з месц у Краязнаўчыя організацыі. Рабіць гэтага ня трэба, матар'ял для навуковага вывучэньня быту ў іх ёсьць цікавы, што адзначана і цэлым шэрагам нашых корэсподэнтаў, якія пытаюць, ці трэба запісваць гэтую творчасьць.

Ня раіў-бы я толькі запісваць песьні, запазычаныя з песеньнікаў Маскоўшчыны, як, напр.:

а) „Потеряла я калечка
Потеряла я любовь,
Как по тому, по колечку
Буду плакаць дзень і ночь"... і г. д.
б) „Жалала-б я жалала
Зялёнай пташкай быць
Летала-б я летала
Где милый крепко спит"... і г. д.

6. *Т. Астапаў* (Межынскі р.) запісаў шэраг апавяданьняў ці, як ён іх называе, „анікдотаў", якія ня маюць ніякай вартасьці дзякуючы таму, што яны пераданы ў яго ўласным і прытым надта няўдалым пераказе. Запісы песень таксама няўдалыя:

„В саду при вдалине пает салавей
А я сяжу за ряшоткай позабывши друзей"... і г. д.
Або:
„Когда мне было лет семнацщаць
Тады жэ ўмер мой бацько
Ні стаў я маці баяцца
І стаў вялікі рукі падлец"... і г. д.

7. *І. Драздзецкі* (Межынскі р.) запісаў 39 прыпевак, якія ён „выпытываў у стариных народов". З фонэтычнага боку песьні запісаны няправільна, але яшчэ горш стаіць справа з казкай, якую ён „выпытывал у других народов": „Возле лесу деревушки мама с дочерей жила и у маленькой резвушки красна шапочка была..." і г. д. Значна лепш было-б, каб Драздзецкі ня, „выпытываў"-бы казкі ў „другіх народаў", а запісваў-бы беларускія, якія апавядаюць дзяды і бабулі яго вёскі.

8. *Ів. Нікалашчанка* таго самага сельсавету запісаў 36 прыпевак навейшай формацыі, на якіх прыкметны яскравыя расійскія ўплывы як на мову, так і на зьмест.

9. *А. Сялюкін* у Руднянскім сельсавеце запісаў 15 прыпевак.

10. *І. Сінякоў* у Паташынскім сельсавеце запісаў 28 прыпевак і 1 загадку.

11. *А. Мамонаў* у Зайкаўскім сельсавеце запісаў 15 прыпевак.

12. *Г. Ігнацьеў* у Паташынскім сельсавеце—10 прыпевак.

13. *Мік. Каразец* там-жа запісаў 18 прыпевак.

14. *Палтаўская Вольга*—13 прыпевак (там-жа).

15. *Купрэева Ганна*—7 прыпевак (там-жа).

16. *Брыга Лідзія*—42 прыпеўкі (там-жа).

Адносна пералічаных запісаў прыпевак трэба адзначыць, што з фонэтычнага боку яны амаль што ня маюць ніякай каштоўнасьці, але з літаратурнага—цікавы.

Зьбіраньне фольклёрнага матар'ялу ў Чашніцкім раёне прайшло менш інтэнсыўна. Так, *М. Храпскі* (Чашніцкі р.) прыслаў сшытак вясельных песень, якія перапісаны з чарняка так кепска, што не пазнаць, дзе канец аднэй і пачатак другой. Група, якая складаецца з *З. Бараноўскага, К. Хацькевіча, В. Мароза, А. Юркевіча, П. Цыбульскага, Н. Арла, Ф. Капусьціна, Халмова* і *В. Баброва* запісалі наступны матар'ял: замоў—8, казку—1, прыпевак—65, песень бытавых—11, вя-

сельных—7. Песьні перапісаны старанна, але адсутнічаюць весткі аб казальніках, якія патрэбны для выяўленьня тых ці іншых этнографічных уплываў.

*Калінінская акруга.* З усіх раённых краязнаўчых Таварыстваў зьвяртае на сябе ўвагу Хоцімскае Таварыства данае акругі; каля зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу згрупаваны выключна вучні старшых кляс першай Хоцімскай сямігодкі: *В. Ганчароў, В. Раманенкаў, З. Чарнова, Гаўрылава, Б. Слуцкер, В. Панамарова, Б. Локшына, Г. і Б. Пшанічнер, Чапялева, Васілевіч, Камчэва, А. Гольдзіна, А. Сівянкоў, Е. Эпштэйн, Ц. Жыц, В. і М. Захарэнкавы, Х. Солькіна, Р. Напрэяў, З. Айзянштэйн, Песікава, К. Еўдакіменка, А. Гаўрылаў, А. Рабінка, Г. Будзянская, Х. Лівант, М. Абраменка* і настаўнік *Я. Глінскі,* якія сабралі наступны матар'ял: замоў—40, веснавых песень—8, масьлянковых песень—9, жніўных песень—7, вясельных п.—83, бытавых п.—373, прыпевак—1.471, духоўных вершаў—1, загадак — 64, апавяданьняў і казак—12.

Ня гледзячы на тое, што сабраны матар'ял групуецца пераважна каля прыпевак, ня гледзячы на шэраг недахопаў, запісы гэтыя набываюць у сучасны момант асаблівае значэньне, дзякуючы таму, што Хоцімскі раён мяжуе з Рослаўльскім паветам Смаленскае губэрні. Як відаць з запісаў, вучні, якія запісвалі песьні жывуць і ў Хоцімскім раёне і ў Смаленскай Беларусі, у межах РСФСР і калі яны запісвалі народныя песьні на абодвых баках рубяжа, то, ня бачачы ніякай розьніцы ў мове адных і другіх, злучылі запісы ў адны сшыткі з надпісамі, што песьні „па Хоцімскім раёне Калінінскай акругі і Рослаўскім павеце“, „па Хоцімскім раёне і Смаленшчыне“, гэтае абагульваньне месц запісаў—недахоп з сурова навуковага пункту погляду—у даным выпадку зьяўляецца вельмі характэрным фактам для выяўленьня нацыянальнага складу насельніцтва Беларускай Смаленшчыны.

Сярод беларускай народнай творчасьці цікава адзначыць шэраг твораў чыста маскоўскага пахаджэньня, занесеных у нашу вёску пры дапамозе салдат, фабрык і іншымі падобнымі шляхамі, як напр.:

а) Я Саратаўскай губэрні
І уезда Пакрава
Запрыгай-ка мацъ кабылу
І паедзім па драва.
б) Друзья, што случылася самной
І малые дзенькі пры бальшые
І малы домік над Тверской
Бывала шчогаль я праўдуся... і г. д.
в) Эй, таган рогі! эй, таган рогі!
Салучылася бяда
Там убілі маладога казака... і г. д.
г) Ох, па вуліцы па шведзкай
Праезжаў кароль нямецкі... і г. д.

Хоць падобная творчасьць і можа мець некаторую навуковую цікавасьць, напр., з боку дасьледваньня розных уплываў на наш народны фольклёр, але лепш замест іх зьвярнуць большую ўвагу на адшукваньне беларускай абрадавай песьні, якая, у сувязі з разьвіцьцём культуры, наогул нішчыцца. Пры запісваньні песень, запазычаных з Маскоўшчыны, добра было-б выдзяляць іх у васобныя сшыткі з належным адзначэньнем, а ня выдаваць іх у шэрагу беларускага фольклёрнага матар'ялу за беларускую народную творчасьць, што могуць выкарыстоўваць для шкодных агітацый тыпы, аднолькавай ідэолёгіі з А. Р. Пшчолкай, якія даводзяць, што ніякай беларускай мовы няма.

Зьвяртае на сябе ўвагу песьня, якая пачынаецца так:

Я ў Расеюшкі радзілась,
У Беларусіі ўзрасла,
Растаща з мацер'ю лішылась (?)
Я з табой страдаць пашла...“

далей апісваецца няўдалае каханьне і самагубства жанчыны.

Песьня цікава ўжываньнем у яе тэксьце назовы „Беларусь“; такіх песень, вядома, вельмі мала. У некалькіх тысячах апублікаваных беларускіх народных песень знаходзім усяго толькі 15 нумароў, у якіх ужываецца назова „Белая Русь“. Песьні з ужываньнем гэтай назовы трэба вышукваць і запісваць, бо яны цікавы ў вырашэньні пытаньня часу ўзьнікнавеньня назовы „Белая Русь“ і ступені яе распаўсюджанасьці ў народзе. Гэтая назова пакуль што сустракалась у песьнях толькі вясельных і бытавых. Прыведзеная песьня бясспрэчна маскоўскага пахаджэньня; назова „Беларусь“ уведзена ў яе не ў часы старажытныя, а бязумоўна ў часы рэволюцыйнага будаўніцтва БССР, калі гэта назова атрымала шырокае распаўсюджаньне, што бачым і ў 2-х ранейшых прыпеўках.

Бязумоўна, трэба адзначыць шэраг прыпевак з новымі мотывамі, якія ўзьніклі пад уплывам сучаснасьці, якія даюць вельмі каштоўны і характэрны матар'ял для вывучэньня сучасных рэлігійных і грамадзкіх настрояў і псыхолёгіі маладняку нашай вёскі:

а) Ніякіх сьвятых ня стала:
Бог уехаў у Ленінград,
Багародзіца засталась
Ліш на маленькіх рабят.

б) Не пасылай, маці, у цэркаў
Я—ні багамолачка,
Запішуся ў КСМ
Буду камсамолачка.

в) У ваблаках прарок Ільля
На кані катаецца—
Інцярэсна б было знаць—
Чым там конь пітаецца?

г) Мяне мамачка браніла,
Што я ў цэркаў не хаджу—
Напралёт усё васкрасеньня
У камсамоле праважу.

д) Не пайду на вечарынку
Пад гармошку танцаваць,
А пайду я ў ячэйку
З камсамолам працаваць.

е) На сталу стаіць гармонь,
Божа мой, якая!
Пойдзім мілы, у савет
Прышла разводная.

ж) Цяпер новыя права—
Ня нада вянчацца,
А ў Савеце за сталом
Толькі распісацца.

Далей для вывучэньня народных вераваньняў і міфолёгіі цікава прывесьці наступнае сказаньне аб Цмоку:

„Яшчэ сонца ды й ні заходзіла,
Людзі богу ня верылі,
Ня верылі людзі самому богу.
Аддавалі броку ды й на чалавеку,
Выдаў жа Цмок палавіну царства,
Прыйшла чарада да самага цара.
Ці цар ідзі, ці царэўну вядзі!
Цар царэўну справажаіць,
Залатыя шнуры абуваіць,

Гаручымі сьлязьмі abліваюць.
Прышла царэўна к сіняму мору—
Паганы Цмок з вады паўзе;
З роту ў яго полымя пылаіць,
З вушэй у яго дым трубою,
А царэўна улікнулася.
Адкуль ні вазьміся храбры Ягор'я,
Храбры Ягор'я сьвяты Юр'я:
„Стой царэўна ні ўлікайся,
„Назад сабе ні глядайся,
„Бяры Цмока за крутыя рогі,
„Вядзі Цмока к цару на двор.

Наогул трэба адзначыць, што запісы Хоцімскага раёну—адны з самых акуратных: чытэльна, старанна перапісаныя на адным баку аркуша на добрай паперы; да запісаў нават прыкладзены плян былой Самацевіцкай воласьці, у раёне якой цяпер знаходзіцца Хоцімск.

З рэшты матар'ялу гэтае акругі трэба адзначыць, як найлепшыя фонэтычныя запісы, казкі, якія запісаны А. Шашалевічам; для дыялектолёгіі гэта самы каштоўны матар'ял з ліку ўсяго сабранага ў БССР на працягу мінулага году пры дапамозе краязнаўчых організацый; зразумела матар'ял мае значныя недахопы, напр., адсутнічаюць дыфтонгі, але ў параўнаньні з рэштай матар'ялу ён, бязумоўна, самы найлепшы.

Ім запісана ў Краснапольскім раёне 6 цікавых казак, 22 прыказкі, 3 замовы і прарэдагавана 7 казак, 4 замовы, 86 загадак, якія запісаны ў гэтым самым раёне вучнямі Палускае школы. З запісаў А. Шашалевіча прывяду адну казку, якая гумарыстычна малюе адносіны селяніна да рэлігіі.

„Жыў поп з пупадзьдзёй і пысварыўся зь ёй адзін раз, ікраз пірыд Ражством. А тады ўздумыў, што яму трэба заўтрі служыць 'бедню і гаворыць сам сабе: „што й та я нырабіў, ета ж я нырабіў, ета ж я ныгряшыў, заўтрі ж трэба 'бедню служыць". Сказаўшы ета, ён пашоў у царкву вечырым. А ў тэй час у цэркаў улез злодзій, каб пабраць тыя грошы, што нынясьлі людзі. І толькі злодзій прыдраў крышу і зычапіў вярёўку, каб спусьціцца, як чуя, што поп адчыняя дзьверы, ды моліцца: „Госпыдзі, прасьці мяне, што я ныгряшыў цяжкія сыгряшэньня". Тады вор прытаіўшысь зьверху кажыць: „Прышчаю". Поп узрадывыўся, што бог яму прышчая, захрысьціўся абедзьвімі рукамі і гаворыць: „Блыгыдарю цябе, госпыдзі, што ты прасьціў маё ўгряшэньне". А злодзій гаворыць: „Не, ты й так правідный, і я зыбяру цябе на неба". Поп кажа: „Госпыдзі, я нідастоін і чуць твайго голысу, а ня то, штоб на неба лезьць. Злодзей закрычаў: „Лезь, калі я табе гывару" і спусьціў яму вярёўку. Поп думыя: „што ж, калі бог кажа, трэба лезьць". Пыдвізаў к сабе вярёўку і злодзій пыцягнуў пыпа. Дыцягнуў да крышы, а тады ўзяў ды й піраразыў вярёўку. Поп як рызануўся аб мост дык аж мытылі закруціліся, аж пымярцьвеў. Як ачухаўся, пыдняўся ды й гаворыць: „я ж табе гывырыў, такую тваю..., што я грэшный, а ты йшчэ мяне цягніш!".

Падобныя народныя творы ў дарэволюцыйны час друкаваліся вельмі неахвотна, а часамі нават іх не дазвалялі друкаваць.

Далей ідуць дробныя запісы: 1) вучняў Расьнянскай сямілеткі, якія даюць 34 замовы; зьбіраньнем матар'ялу кіраваў настаўнік Пакроўскі, дзякуючы чаму памянёныя запісы маюць зусім здавальняючы выгляд. 2) У тым самым Расьнянскім раёне рабіў запісы і *С. Кіраёнак*, які запісаў: купальскіх п.—6, веснавых п.—2, вясельных п.—3, жніўных п.—1,

бытавых п.—10, казак—1. Запісы з фонэтычнага пункту погляду няўдалыя, не адзначана нават „у“, як, напрыклад: „хадив“ „гуляв“.

3) *Сівянкоў Е.* у Мсьціслаўскім раёне запісаў 1 казку.

4) *Мікалаеў В.* у Крычаўскім раёне запісаў 1 замову і 7 бытавых песень.




5) *Ракаў М.* у Мсьціслаўскім раёне запісаў 5 жніўных і 3 вясельныя песьні.

6) *Радчанка І.* з Касьцюковіцкага раёну дае 3 бытавыя песьні.

7) Без адзначэньня прозьвішча зьбіральніка, запісана ў Крычаўскім раёне: 9 веснавых песень, 14 вясельных п., 5 жніўных п., 1 русальная п., 2 бытавыя п., 7 прыпевак і 1 замова.

Нарэшце трэба адзначыць Чэрыкаўскі раён; фольклёрны матар'ял у раёне зьбіраўся выключна вучнямі няведама якой школы (фігуруюць наступныя прозьвішчы: В. Ягорава, Д. Рапапорт, А. Грымаўцава,

П. Кандраценка, В. Зімін, Я. Марозаў, М. і Я. Марчанка); сабраны наступны матар'ял: калядных п.—3, веснавых п.—15, жніўных п.—6, вясельных п.—3, прыпевак—61, бытавых п.—65, загадак—26, казак і апавяд.—11, замоў—8 і некаторы матар'ял да гульняў. З боку дыялектолёгічнага запісы значэньня ня маюць аніякага, мала яго і з боку літаратурнага; мясцамі перапісваюцца цэлыя расійскія песеньнікі:

„Прышла вясна, мы встреціліcь случайна—
Я быў молад ты саўсем дзіця" і г. д.

або

„В кустах пры даліні паюць салавьі,
А я на чужбіне забыта людзьмі" і г. д.

або

„Разьбітае сэрца куды ты стрэмішся
Там прозіраюць цебя..." і г. д.

або

„Па долу гуляець казак маладой
Льёш дзевіца сьлёзы над быстрай рякой"... і г. д.

або

„Здарова, брат Маскоўскі!
Здравствуй, брат Растоўскі!
Ты чўй новости? не ничў.
Казалі в Адэссе вадою мельніцу знясло..." і г. д.

Гэтыя запісы лішні раз падкрэсьліваюць, што дзіцячыя запісы нічога сур'ёзнага навуцы даць ня могуць і што мясцовыя краязнаўчыя організацыі, фольклёр, які сабраны дзяцьмі і які належна не прарэдагаваны і не перапісаны на месцы, могуць не пасылаць у ІБК.

*(Канец будзе).*

**Пералічэньне раёнаў да картограмы фольклёрных матар'ялаў і да інш. картограм у гэтым нумары.**

**Бабруйская акруга.**

1. Асіпавіцкі.
2. Сьвіслацкі.
3. Клічаўскі.
4. Бабруйскі 1.
5. „ 2.
6. Рагачэўскі.
7. Глускі.
8. Парыцкі.
9. Жлобінскі.
10. Гарадзецкі.
11. Стрэшынскі.
12. Буда-Кашалёўскі.

**Барысаўская акруга.**

1. Бягомльскі.
2. Лепельскі.
3. Плешчаніцкі.
4. Зембінскі.
5. Халопеніцкі.
6. Чарэйскі.
7. Барысаўскі.
8. Крупскі.
9. Бярэзінскі.

**Віцебская акруга.**

1. Азярышчанскі.
2. Межанскі.
3. Сіроцінскі.
4. Гарадоцкі.
5. Сураскі.
6. Кузьняцоўскі.
7. Віцебскі.
8. Бешанкавіцкі.
9. Высачанскі.
10. Лёзьненскі.
11. Чашніцкі.
12. Сеньненскі.

**Калінінская акруга.**

1. Расьнянскі.
2. Мсьціслаўскі.
3. Чэрыкаўскі.
4. Крычаўскі.
5. Клімавіцкі.
6. Мілаславіцкі.
7. Краснапольскі.
8. Касьцюковіцкі.
9. Хоцімскі.
10. Бялынкавіцкі.

**Менская акруга.**

1. Лагойскі.
2. Заслаўскі.
3. Астраш.-Гарадзецкі.
4. Смалявіцкі.
5. Койданаўскі.
6. Самахвалавіцкі.
7. Сьмілавіцкі.
8. Чэрвенскі.
9. Узьдзенскі.
10. Шацкі.
11. Пухавіцкі.

**Магілеўская акруга.**

1. Бялыніцкі.
2. Шклоўскі.
3. Магілёўскі.
4. Лупалаўскі.
5. Чавускі.
6. Чачэвіцкі.
7. Быхаўскі.
8. Прапойскі.
9. Журавіцкі.
10. Кармянскі.

**Мазырская акруга.**

1. Жыткавіцкі.
2. Пятрыкоўскі.
3. Капаткевіцкі.
4. Азарыцкі.
5. Калінкавіцкі.
6. Тураўскі.
7. Лельчыцкі.
8. Мазырскі.
9. Каралінскі.
10. Параўлянскі.

**Аршанская акруга.**

1. Багушэўскі.
2. Талочынскі.
3. Кохапаўскі.
4. Аршанскі.
5. Дубровенскі.
6. Ляднянскі.
7. Круглянскі.
8. Копыскі.
9. Горацкі.
10. Дрыбінскі.

**Полацкая акруга.**

1. Дрысенскі.
2. Асьвейскі.
3. Расонскі.
4. Валынцаўскі.
5. Краснапольскі (Дрэтунь).
6. Полацкі.
7. Ветрынскі.
8. Вушацкі.
9. Вульскі.

**Слуцкая акруга.**

1. Капыльскі.
2. Грэскі.
3. Стара-Дарoскі.
4. Чырвона-Слабодзкі.
5. Слуцкі.
6. Старобінскі.
7. Любаньскі.





М. Байкоў.

# Што зроблена ў справе зьбіраньня слоўнікавага матар'ялу на мясцох за 1926 год?

Шырокая організацыя мясцовай слоўнікавай працы, гэта—асноўная рыса, якая адрозьнівае мэтоды ўкладаньня поўнага слоўніка жывой беларускай мовы ад падобнай-жа працы, якая праводзіцца ў іншых акадэмічных асяродках СССР, напр., у Украіне, дзе Камісіяй для ўкладаньня слоўніка жывой украінскай мовы ў Усеукраінскай Акадэміі Навук было сабрана за 1919—1923 г. г. непасярэдна з народных вуснаў толькі 12.000 картак—слоў (гл. „Звідомленне Всеукраїнської Академії наук у Київі за 1923 рік") і дзе аж да апошняга часу самой Камісіяй ня выдадзена інструкцый для зьбіраньня народнага слоўнага матар'ялу (спэцыяльная інструкцыя да зьбіраньня выключна тэрмінолёгічнага матар'ялу была выдадзена ў 1918 г. „Навуковым Т-вам імя Шаўчэнка ў Кіеве" ў 1918 г.).

Створаная ў Інстытуце Беларускае Культуры ў 1925 годзе Камісія для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы ад самага пачатку сваёй чыннасьці зьвярнула належную ўвагу на збор слоўнікавага матар'ялу непасрэдна з народных вуснаў. Натуральна, што ў гэтай справе на першым месцы стаяла пытаньне інструктаваньня корэспондэнтаў. З гэтаю мэтаю Камісіяй была апрацавана „Інструкцыя да зьбіраньня слоўніка-тэрмінолёгічнага матар'ялу ў беларускай мове". Яна была надрукавана ў першым № часопісу „Наш Край" (Верасень, 1925 г.) і потым вышла спэцыяльнымі выданьнямі ў беларускай мове і ў перакладзе на расійскую мову (апрача БССР гэтая інструкцыя была передрукавана „Беларускім Навуковым Т-вам" у Рызе і друкавалася ў Віленскіх газэтах). Паводле гэтай інструкцыі збор слоўнікавага матар'ялу павінен быў адбывацца як для акадэмічнага слоўніка, гэтак і для краёвых слоўнікаў, укладаньне якіх Камісія палічыла пажаданым для кожнай акругі. Асноўным прынцыпам збору слоўнікавага матар'ялу і ўкладаньня краёвых слоўнікаў у 1926 г. быў прынцып запісу *ўсіх слоў, якія ўжываюцца ў пэўнай мясцовасьці.* З прычыны тэрміновасьці справы ўкладаньня акадэмічнага слоўніка беларускай мовы Камісія

вызначыла тэрмінам заканчэньня збору слоўнікавага матар'ялу 1 студзеня 1927 г.

Разумеецца, што для выкананьня гэтай задачы мае вельмі важнае значэньне пытаньне організацыі.




Карта слоўнікавага матар'ялу, які сабраны па раёнах.

Організаваць слоўнікавую працу на мясцох у межах БССР удалося, дзякуючы наладжанасьці краязнаўчых таварыстваў і энэргіі ЦБК. Значная колькасьць інструкцый была распаўсюджана і не загінула па мясцох, дзякуючы ЦБК.

Практыка слоўнікавай працы на мясцох даводзіць, што збор слоўнікавага матар'ялу і ўкладаньне краёвых слоўнікаў разьвіваецца з асаблівым посьпехам там, дзе наогул наладжана краязнаўчая праца,

Найбольш пасьпяхова справа ўкладаньня краёвага слоўніка йшла ў Віцебшчыне. Віцебскі краёвы слоўнік, укладзены С. М. Касьпяровічам на падставе ўласных запісаў, а галоўным чынам, карткавага матар'ялу, сабранага Віцебскім Акруговым Т-вам Краязнаўства, ужо прайшоў праз рэдакцыю Слоўнікавай Камісіі і ў хуткім часе, зноўтакі дзякуючы актыўнасьці і ініцыятыве Віцебскіх асьветных (АНА) і краязнаўчых організацый, убачыць сьвятло. У першачарговым парадку Камісіяй вызначана скончыць апрацаваньне Мазырскага і Калінінскага слоўнікаў. Чэрвенскім краязнаўцам с. М. Шатэрнікам ужо напалову ўкладзены краёвы слоўнік Чэрвеншчыны.

Апрацаваная навуковым сакратаром ЦБК с. М. Касьпяровічам карта-дыяграма (гл. 37 ст.) дае наочнае ўяўленьне аб тым, як стаіць справа з зборам слоўнікавага матар'ялу ў розных мясцох Савецкай Беларусі.

У стульных лічбінах за 1927 г., канчаючы першай дэкадай сьнежня, непасрэдна ў Камісію паступіла і сыстэматызавана па акругах:

| | | |
|---|---|---|
| Аршанскай | 817 | картак—слоў |
| Бабруйскай | 2.935 | „ „ |
| Барысаўскай | 3.597 | „ „ |
| Віцебскай | 1.843 | „ „ |
| Калінінскай | 3.852 | „ „ |
| Магілеўскай | 2.632 | „ „ |
| Менскай | 7.337 | „ „ |
| Мозырскай | 491 | „ „ |
| Полацкай | 450 | „ „ |
| Слуцкай | 5.987 | „ „ |

Апрача таго, з Гомельшчыны—2.187 к.-с., Рэчыцкага павету—156 кар., Заходняй Беларусі, Чарнігаўшчыны і інш. мясцовасьцяй—2.500 к.-сл.

У вагульным падрахунку зарэгістравана і сыстэматызавана 34.794 картак-слоў, запісаных з народных вуснаў.

Знаходзяцца ў сыстэматызацыі да 35.000 картак, дастаўленых у Камісію з Віцебскага Акруговага Краязнаўчага Т-ва пасьля скарыстаньня іх пры ўкладаньні Віцебскага краёвага слоўніка.

Значыцца, у выніку слоўнікавай працы на мясцох за 1926 г. у Камісіі маецца ў агульных лічбінах 70.000 картак-слоў.

Вынікі зусім немалыя!

А яшчэ да 50.000 картак-слоў, як паказваюць зьвесткі з месц, сабрана мясцовымі краязнаўчымі організацыямі для ўкладаньня краёвых слоўнікаў.

Дыяграма т. Касьпяровіча паказвае і тое, якія *раёны* ў Беларусі найбольш поўна абсьледваны з боку слоўнікавага багацьця народнай мовы.

Сюды належаць раёны:

Койданаўскі (Меншчына)—3.039 к.-сл.

Старобінскі (Случчына)—2.300 к.-сл.

Краснапольскі (Калінiншчына)—3.047 к.-сл. і цэлы шэраг раёнаў Віцебшчыны.

Трэба заўважыць, што з пэўных мясцовасьцяй падалі значныя матар'ялы паасобныя корэспондэнты:

Ваўчок Л. з Старобінскага раёну—2.200 картак.

Вашына Кастусь з Койданаўскага раёну—2.950 картак.

Вінаградаў Ів. з Барысаўскага раёну—1.320 картак.

Гурыновіч С. з Шацкага раёну—1.000 картак.
Казлоўскі Г. з Сеньненскага раёну—1.320 картак.
Мурашка С. з Самахвалаўскага раёну—1 000 картак.
Шашалевіч А. з Краснапольскага раёну—2.915 картак.

Гэтым корэспондэнтам Камісіяй вызначана грашовая ўзнагарода (прэмія).

З краязнаўчых гурткоў асаблівай інтэнсыўнай працай у справе зьбіраньня слоўнікавага матар'ялу выдаліся краязнаўчыя гурткі пры Менскім Беларускім Пэдтэхнікуме, Рагачэўскім Пэдтэнікуме, Магілеўскім Каморніцкім Тэхнікуме, Асіпавіцкі краязнаўчы гурток.

Наагул-жа дзякуючы дапамозе краязнаўчых.організацый, цэнтральных і мясцовых, слоўнікавая праца ў беларускай мове магла стаць на адзіны надзейны і правільны шлях,—шлях выкарыстаньня нявычарпаных запасаў багатай жывой народнай мовы.






М. Зьбіткоўскі.

# Matricaria Chamomilla L.

## Рамонак звычайны.

*Апісаньне расьліны.* Аднагадовая расьліна, належыць да сям'і складанакветкавых, мае асабліві пах. Сьцябло даходзіць да 40 см. вышыні, кантаватае і галіністае, у большасьці галінаваньне пачынаецца зьнізу. Уся расьліна голая, без валаскоў, якімі часта бываюць пакрыты іншыя расьліны. Лісьця 2—3 пёркавата-разьдзельныя, долькі іх цадта вузенькія, амаль ніткаватыя, цэльнакрайнія, заканчваюцца мяккай голкай. Кошычак, 1—1½ см. у дыямэтры, сядзіць на тонкай кантаватай ножцы ў 2—8 см. даўжыні і патроху грубейшай каля кошычка. Лісьцікі акрыўкі даўгаватыя або яйкававідныя, тупыя на сьпінцы з зялёнай палоскай і з плеўчатым беражком; язычкаватыя кветкі белыя, у 2—6 мм. даўжыні, адгінаюцца ўніз; а лейкавата-трубкаватыя кветкі—жоўтыя з 4—5 зубчыкамі. Кветадоньне даўгаватае, конічнае і ў сярэдзіне пуста. Семячка ў 1 мм. даўжыні, амаль белае або бурае, з гладкай сьпінкай, а з унутранога боку мае 5 ценкіх канцікаў. Цьвіце з канца мая да самай восені, плады пачынае прыносіць з канца ліпня.

На Беларусі рамонак сустракаецца на полі паміж пасеваў і на папары, затым па гародах, садох і каля жыльля ў якасьці пустазельля,— наогул, у мясцох з суглінкавай і супяшчанай глебай.

*Адзнака ад іншых рамонкаў.* Звычайны рамонак трэба адрозьніваць ад іншых, вельмі падобных да яго, складанакветкавых, як напр., непахучага рамонка (Matricaria inodora L.), які адрозьніваецца ад нашага праўдзівага як адсутнасьцю паху, так і суцэльным непарожнім кветадоньнем; ад рамонка пахучага Matricaria suaveolens (Pursh.) Buchenau= M. discoidea D. C., які ў кошычках ня мае белых язычкаватых кветачак, а толькі адны трубкаватыя: ад пупка палявога (Anthemis arvensis L.) і сабачага (Anthemis cotula L.), апошнія маюць выгнутае або цыліндрычнае кветадоньне з прыкветнікамі і лісьце з больш шырокімі частачкамі (долькамі), апроч таго, пакрыты пушком. Нарэшце Chrysanthemum Leucanthemum L. адрозьніваецца ад звычайнага рамонку тым, што мае цэльнае лісьце і сьцябло-корань (шматгадовая расьліна).

*Значэньне рамонка.* Звычайны рамонак зьяўляецца каштоўнай лекавай расьлінай і часта ўжываецца ў народнай навуковай мэдыцыне і ў вэтэрынарыі.

*Ужываньне.* У народнай мэдыцыне кветкі рамонка ўжываюцца, як знадворны сродак пры коліках і прастудзе ў якасьці прыпарак. У вэтэрынарыі кветкі рамонка ў выглядзе адвару або настойкі ўжываюцца, як сродак, супакойваючы боль і сударгі, у коняй пры коліках, пры




**Matricaria Chamomilla L.**

1. Галінка з кошычкамі. 2. Уздоўжны зрэз праз кошычак з кветачкамі, відаць парожнае кветадоньне. 3. Агульнае кветадоньне без кветак, о—лісьцікі акрыўкі. 4. Уздоўжны разрэз праз трубкаватую кветачку; a—плодазавязь, b—слупок, c—двохразьдзельны лычок, d—пыльнік. 5. Трубкаватая кветачка пасьля поканьня. 6. Трубкаватая кветачка да поканьня з кропелькамі алею. 7. Язычкаватая ўскрайняя кветачка. 8. Семячка.

1 — у натуральную велічыню, 2—8 — павялічаны.

прастудах, пры затрыманьні мачы; як знадворны сродак ужываецца для прамываньня вачэй і розных ран (цеплаватай настойкай); кветкі рамонка дадаюцца таксама да прыпарак, супакойваючых боль (Гурин. „Лечебник домашних животных“).

Для мэдыцынскага ўжываньня назначаюцца „кветкі“ г. зн. кошычкі, з якіх атрымоўваюць цынктуру, экстракт, рамонкавую ваду і этарны алей.

У кветкавых кошычках рамонка зьмяшчаецца 0,5% этарнага алею, горыч, рамонкавы квас (кіслата і антэмідын).

*Патрэба.* Вялікая патрэба ў „кветках рамонка“ (у даваенны час гэтых кветак патрабавалася звыш 4.000 пудоў штогодна) не магла быць задаволена зборам дзікарастучага рамонка і выклікала месцамі да культуры рамонка ў вялізных разьмерах. Так, напр., культура рамонка разьвіта ў Палтаўшыне (УССР) і Тульскай губ.

*Выгада культуры.* Культура рамонка распаўсюджваецца затым, што не патрабуе вялікага догляду, спэцыяльнай глебы і хутка дае ўраджай (ад засеву да збору—8 тыдняў, што дае магчымасьць здымаць два ўраджаі за лета. Затым, пры культуры рамонка ёсьць магчымасьць падлічваць ураджай. Знаходзяць, што лекавыя ўласьцівасьці рамонка паляпшаюцца пры культуры.

*Збор насеньня.* Для насеньня кошычкі рамонка зьбіраюць з паловы ліпня, калі яны падсохнуць, але калі яшчэ самае насеньне не высыпаецца. Сабраным кошычкам даюць дасьпець і высахнуць на сонцы (захоўваючы ад дажджу і расы). Пасьля малоцяць у палатняным мяшку.

*Культура рамонка.* Рамонак ня любіць балатністай глебы, а таксама і чыстых пяскоў без перагною. Пры ўгнаеньні рамонак добра расьце і на пяску (проф. Расінскі). А таксама на глiністых глебах з угнаеньнем (па Рытову). Лепшымі месцамі для засеву рамонка лічацца пустыры і аблогі (сонцавы бок). Пад культуру рамонка можна, не займаючы асобнага кавалку зямлі, прыстасаваць і поле пасьля ўборкі хлеба. Падрыхтоўваюць глебу для рамонка яшчэ з восені: няглыбокая ворка і выдаленьне пустазельля. Засеў робіцца вясной, пасьля чаго зямля зараўніваецца катком. Гэты засеў дае ўраджай ужо ў канцы чэрвеня або ў пачатку ліпня. Пасьля збору зноў ускопваюць зямлю, зьнішчажаюць пустазельле і робяць другі засеў, ураджай якога зьбіраюць у верасьні месяцы. Можна пасьля ўборкі зрабіць на зіму і трэці засеў, які ўзыйдзе раньняй вясной.

Збор кошычкаў рамонку адбываецца ў часе цьвіценьня і абавязкова ў сухую пагоду, у дзень, калі спадзе раса, прыблізна з мая аж да верасьня. Зьбіраюць кошычкі без кветаножак рукамі. Такі спосаб хоцьклапатлівы, але затое ім дасягаецца чыстата збору: можна пазбавіцца кветаножак, лісьцяў і living рознага сьмецьця. Ужываецца і спосаб хуткага збору пры дапамозе асобных грабель, якімі, як грэбенем, вычэсваюць кошычкі рамонка.

*Сушка.* Сабраныя кошычкі рамонка рассыпаюць тонкім пластом на палатняных рамах, ставяць у памяшканьне, якое добра праветрываецца, і час ад часу гэты пласт перагортваюць.

Сухія кошычкі маюць няпрыемны гаркаваты смак, асаблівы пах. Калі разрэзаць размочаны варам кошычак рамонка, дык можна ўбачыць, што кветадоньне, да якога прымацованы кветачкі, унутры парожняе, а паверхня кветадоньня бяз плевак.

Сухі продукт захоўваецца ў сухім памяшканьні, у якой-небудзь драўлянай скрынцы.

Апрача звычайнага рамонка (Matricaria Chamomilla L.), вядомы яшчэ пэрсіцкі (Pyrethrum roseum M. B.) і далмацкі (Pyrethrum cinerariaefolium Trex), з кошычкаў якіх робяць вядомыя парашкі супроць паразітаў шасьціножак. Далмацкі рамонак у СССР не разводзіцца, а пэрсіцкі, родам з Персіі, разводзіцца ў Церскай вобласьці, на Валыні і Кіеўшчыне. Трэба думаць, што Pyrethrum roseum мог-бы культывавацца і ў нас на Беларусі, але досьледы ў гэтым кірунку яшчэ не рабіліся. Зацікаўленасьць да культуры ў нас на Беларусі апошніх відаў рамонка можа быць вынікам таго, што далмацкага парашку ўжывалася ў даваенны час каля 20.000 пудоў.



# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

М. Азбукін.

## Мястэчка Шацак *).

Мястэчка Шацак (Шацк, Szack, Szack Biały), адміністрацыйны асяродак Шацкага раёну, Менскай акругі (даўней адмін. цэнтр Шацкай воласьці, Чэрвенскага (Ігуменскага) павету), ляжыць на рэчцы Шачы, што ўліваецца ў галоўную прытоку Прыпяці—раку Птыч. Ад гэтага мястэчка лічыцца каля 30 кілёмэтраў да бліжэйшай станцыі—Рудзенску Зах. чыг. і 59 кілём. да Менску.




Аколіцы Шацку на поўнач ад мястэчка ўзгаркаватыя, нібы засееныя ледавіковым каменьнем, на поўдзень—нізінныя і балотныя. Можна сказаць, што Шацак ляжыць на самай мяжы Менскага ўзгор'я і Палесься.

У ваколіцах мясцовыя сяляне капаюць гліну і асабліва вапну (маргглісты вапняк), якую саматужным спосабам перапальваюць у вясковых „вапенных печках".

*) Пры ўлажэньні гэтага артыкулу выкарыстаны матар'ялы, прысланыя ў ЦБК мясцовай настаўніцай В. Сялівончык.

Цэнтр Шацку, рынак з крамамі, аптэка, больніца, паравы млын і наагул галоўная частка мястэчка разьмясьцілася на правым беразе ракі Шачы. Між іншым, тут знаходзіцца царква, якая з 1732 г. была вуніяцкай да часу зьнішчэньня вуніі, і сінагога з прыгожай разьбой шафы, зробленай у 1813 годзе.

Каля самай ракі на правым беразе знаходзіцца былы вадзяны млын з грэбляй і мастом, перакінутым у так званае Зарэчча. Грэбля млына запруджвала Шачу, так што вышэй мосту існавала азярко, якое па краёх заплывала вадзянымі расьлінамі. У 1926 г. грэблю раскідалі і такім чынам спусьцілі азярко.



Від на раку Шачу з вёскі Серадзіна.
*(З колекцый Бел. Дзярж. Музэю).*

У той частцы Шацку, што ляжыць на левым беразе Шачы, у так званым Зарэччы знаходзяцца раённыя адміністрацыйныя ўстановы, яўрэйская школа, паштова-тэлеграфнае аддзяленьне, народны дом і каля самага мосту пажарнае дэпо з каланчой.

З Зарэччам зьвязаны двор Шацак, што ляжыць на захад ад мястэчка. У гэтым двары знаходзіцца найлепшы ў Шацку будынак— двохпаверхавы каменны палац былых уладароў Шацку—Аскеркаў, пабудованы каля 1790 году Язэпам Аскеркам і заняты цяпер пад школусямігодку. Каля палацу стаіць пабудованы з каменьня былы бровар, а навокала разьмясьціліся 2 сады пладовых дрэў і невялікі парк з трыма запушчанымі сажалкамі.

На ўсход ад Зарэчча левы бераг Шачы мае выгляд даволі высокага ўзгорку, вядомага на месцы пад назваю „Гары“ або „Горкі“. Горка пакрыта векавымі хвоямі і раней была месцам пахаваньня нябожчыкаў. У заходняй частцы Горкі захаваліся рэшткі падмуроўкі даўнай царквы і паўсюды параскіданы надмагільныя камяні. На не-

каторых надмагільных каменных плітах яшчэ можна прачытаць надпісы не ранейшыя ад 1825 году. Ува ўсходняй частцы Горкі знаходзяцца магілы канца мінулага веку і пачатку XX сталецьця. У цяперашні час Горка зьяўляецца месцам адпачынку і шпацыровак шацкай моладзі.

Да прадмесьцяў Шацку, апроч двара Шацак, трэба далучыць вёскі Міхалевічы і Серадзіно. Гэтыя вёскі цягнуцца аднэй вуліцай, першая на захад, другая на ўсход ад рынку ўдоўж правага берагу даліны Шачы.

Наагул Шацак мае выгляд бруднага беднага мястэчка. Пляц і вуліцы не брукаваныя, у вясну і ў восені непралазна гразкія, для пешаходаў ёсьць масткі на вуліцах, але недагледжаныя, паломаныя.



Б. палац пана Гамаліцкага. Цяпер Шацкая сямілетка.
*(Паводле фот. мясц. наст. Сялівончык).*

Паводле даных перапісу 1923 г. у Шацку, разам з прадмесьцямі, было 244 забудаваныя ўладаньні, на якіх знаходзілася 249 жылых і 311 няжылых будынкаў. З гэтага ліку толькі 1 жылы і 1 няжылы будынкі каменныя, 2 жылыя і 2 няжылыя пакрыты агнятрывалымі дахамі. Двохпаверхавых будынкаў—2. Рэшта—аднапаверхавыя хаткі з дрэва, крытыя гонтай або саломай, пераважна ў адзін пакой. Усяго ў 1923 г. налічана жылых памяшканьняў 303, з іх занятых—299. З гэтага ліку памяшканьняў у вадзін пакой было—210, у 2 пакоі—47, у 3-4 пакоі—39 і ў 5 ці болей пакояў — 4. Усіх пакояў—443, так што на кожны пакой прыпадае каля 4 чалавек.

Шацак зьяўляецца адным з старых беларускіх паселішчаў, хаця вельмі магчыма, што спачатку ён ляжаў толькі на левым беразе Шачы на „Горцы“, якая пануе над аколіцамі і магла быць добра ўмацавана.

Лежачы на рацэ Дняпроўскага вадазбору і пры гэтым блізка да пачаткаў Нёмну, Шацак мог быць ужо ў вельмі даўныя часы важным гандлёвым пунктам.

Мясцовыя насельнікі апавядаюць, што праз Шацак калісьці пралягаў важны вадзяны шлях з Дняпра ў Нёман. Гэты шлях ішоў па Дняпры, Прыпяці, Птычы, Шачы на возера, ад якога цяпер засталося так зв. Шалёнае балота, адтуль па рэчцы да Пярэвалацкага балота, якое таксама было возерам, і далей волакам па лагчынцы ад Пярэвалакі да ракі Лошы, каля мястэчка Лошы; затым па Лошы і Нёмне. Тубыльцы кажуць, што ў старыя часы Шацак быў вялікім горадам і зваўся Чорным Горадам або Старым Шацкам *).

Першыя верагодныя гістарычныя весткі аб Шацку належаць да другой паловы XV стал. У 1492 г в. кн. Аляксандар Казімеравіч зацьвердзіў Шацак за сям'ёй Кішкаў, ад якіх ён адышоў да Радзівілаў. У 1582 г. Мікалай Крыштоф Радзівіл прадаў шацкі маёнтак, і ён пе-

*) Паданьні гэтыя запісаны мясцовай настаўніцай В. Сялівончык і слухачом Менскага Пэдтэхнікуму Адамам Пякарчыкам.

раходзіў з рук у рукі, пакуль у 1732 г. трапіў да Гервазыя Аскеркі. У гэты час у Шацку быў кальвінскі збор, пабудованы Хрыбтовічамі, аб якім ёсьць весткі за пэрыод 1650—1802 г. [1]).

Аскеркі ўладалі Шацкам да 1879 году, калі Ігнат Аскерка прадаў яго Гамаліцкаму. У гэты час ад старога вялікага маёнтку заставалася толькі 100 валок. Адышлі ў іншыя рукі ў розныя часы Стары Шацак (маёнтак, які ня трэба мяшаць з старой назвай мястэчка), Габрыялёўка, Юзафова, Лявонавічы, Задашчэньне, Вяркалы, Міхалоў, Слабада, Уборак, Пчолкі і інш. плошчай да 400 валок. Разам з гэтым зьменшыліся прыродныя багацьці самога маёнтку Шацак—непраходныя пушчы і бабровыя гоны на Шачы.




Бровар у м. Шацку.
*(З колекцый Бел. Дзярж. Музэю).*

У літаратуры ёсьць паведамленьні аб надзвычайна цяжкім палажэньні шацкіх сялян у эпоху прыгону. У 1786 г., абураныя гнётам аконама Пашкоўскага і ахмістрыні Юхнавічовай, сяляне падпалілі двор і зрабавалі маёмасьць, але гэты факт быў зарэгістраваны, як няшчасьце, выклісканае неасьцярожнасьцю з агнём [2]).

Пасьля таго, як Заходняя чыгунка абмінула Шацак, разьвіцьцё яго, як гандлёвага асяродку, спынілася. Калі ён дагэтуль яшчэ застаецца экономічным асяродкам раёну, дык гэта тлумачыцца, мусібыць, толькі тым, што блізка ад яго няма іншых гандлёвых пунктаў, якія маглі-б з ім конкураваць. З гэтай прычыны сяляне аколічных

[1]) У гістарычных паведамленьнях аб Шацку ў польскім географічным слоўніку і ў географіі „Россия“ Сямёнава адзначаецца, што дагэтуль у Шацку захаваліся старыя кальвінскія могілкі, аднак у цяперашнія часы тубыльцы нічога аб гэтым ня вядаюць.

[2]) Гістарычныя весткі аб Шацку запазычны з кнігі: Słownik geograficzny т. XI, ст. 755—758 і часткова з кнігі „Россия“, пад рэд. В. П. Семенова-Тянь-Шанскаго, т. IX. Цікава, што прывілеяў на Шацак не захавалася. Архіў маёнтку знаходзішча ў Замосьці, у вархіве. А Ельскага, які зьмясьціў ладны артыкул аб Шацку ў „Encykłop. Powszech.“ T. VII.

вёсак вязуць свае тавары на продаж у Шацак і там-жа набываюць у замену патрэбныя ім вырабы шацкіх рамесьнікаў ды крамныя тавары, прывезеныя здалёк. З другога боку Шацку дапамагае палажэньне на дарозе з верхняга Палесься, па якой ганяюць у Менск гурты жывёлы.

Лічбы аб ліку насельнікаў у Шацку ёсьць за шэраг гадоў, пачынаючы ад 1858 году. Аднак, на падставе гэтых лічбаў блізка што нельга развяжаць аб узрастаньні мястэчка, бо толькі нямногія з іх могуць лічыцца вартымі веры.

Лік насельнікаў у Шацку.

| Год. | Лік насельнікаў. | Крыніца, з якой запазычаны лічбы. |
|---|---|---|
| 1858 | 373 | „Городскія поселенія Евр. Россіи“ Т. III Спб. 1863. |
| 1897 | 967 | „Насел. местности Росс. Имп. в 500 и более жит.“ Спб. 1905. |
| 1909 | 2.350 | Ярмоловичъ. „Списокъ насел. местъ Минской губ.“ Минскъ 1909. |
| 1916 | 918 | Даныя ўсерасійскага сельска-гасп. перапісу. |
| 1917 | 1.121 | Даныя ўсерасійскаго сельска-гасп. перапісу. |
| 1923 | 1.674 | „Статыстычны Штогоднік БССР“. Менск 1925. |
| 1926 | 1.772 | „Предв. итоги Всесоюзн. переп. 17 декабря 1926 г.“ Минск 1927. |

Даныя 1909 году відавочна перавялічаны, а за 1916 г. маглі быць няпоўнымі. У 1923 и 1926 г. падлічана люднасьць ня толькі мястэчка, але таксама і двара Шацак і вёсак Міхалевічы ды Серадзіно. Каб параўнаць даныя 1917 году з лічбай за 1923 и 1926 гады, трэба далучыць да першых даныя аб гэтых прадмесьцях. У 1917 г. у двары Шацак было 83—душы, у Міхалевічах—423, у Серадзіне—273. Такім чынам, разам з прадмесьцямі Шацак тады налічваў 1900 душ або на 226 чалавек болей, як у 1923 годзе.

Паводле нацыянальнасьці ў 1917 г. люднасьць мястэчка, ня лічачы прадмесьцяў, падзялялася на яўрэяў—904 чал. (80,6%) і беларусаў—217 чал. У прадмесьцях жылі выключна адны беларусы. Цікава, што ў 1897 г. яўрэяў у Шацку было 810 (або 83,8%), г. зн. процант іх з таго часу значна зьнізіўся.

Паводле даных 1916 г. 782 з насельнікаў мястэчка ня мелі засеваў. Грунтуючыся на гэтых даных, можна думаць, што 85% шацкай люднасьці здабываюць сродкі да жыцьця ад нясельскіх заняткаў. Згодна матар'ялаў перапісу 1923 г. за кошт нясельскіх заняткаў жыло тут 837 душ. Такім чынам, у самым мястэчку абсолютная большасьць насельнікаў займаецца нясельскімі заняткамі, і значыць Шацак трэба прызнаць паселішчам гарадзкога тыпу.

Аднак, у прадмесьцях сельская гаспадарка застаецца найважнейшым промыслам, ды і ў самым мястэчку вясковыя заняткі маюць пакуль што вялікае значэньне. Ральніцтву, праўда, перашкаджае цераспалосьсе, каменьне і пяскі, але яно яшчэ прынаджвае да сябе і ня толькі беларусаў, але нават і яўрэяў, з якіх некаторыя атрымалі пасьля рэволюцыі невялікія кавалкі былой дворнай зямлі.

Гадоўля жывёлы тут таксама мае большае значэньне, чымся ў большасьці іншых мястэчак, прызнаных паселішчамі гарадзкога тыпу. У 1923 г. ў Шацку налічылі 141 каня, 345 штук быдла, 50

сьвіней, 210 авечак і коз. Аднак, большая частка гэтай жывёлы належыць да гаспадароў з прадмесьцяў.

Саматужная прамысловасьць мястэчка прадстаўлена толькі бандарствам ды ганчарствам. Сяляне з прадмесьцяў вырабляюць на продаж у невялікай колькасьці бочкі ды гонты, у самым мястэчку яўрэі займаюцца рамествамі: шавецтвам, сталярствам, кравецтвам, кавальствам. Ёсьць у Шацку 1 саматужная гарбарня, воўначоска, алейня, 4 хлебапякарні, арцель шапачнікаў. Усіх прамысловых прадпрыемстваў у 1923 г. у Шацку налічылі—30, у тым ліку 29 з данымі аб ліку работнікаў. Занята на гэтых прадпрыемствах было 48 асоб і ў тым ліку толькі 3 найміты. Ужо з гэтых лічбаў відаць, што тутэйшая прамысловасьць прадстаўлена з майстэрнямі дробных саматужнікаў і ра-



Царква ў Шацку.
*(З колекцый Бел. Дзярж. Музэю).*

месьнікаў. Больш-менш значнымі прадпрыемствамі зьяўляюцца толькі 2 млыны: паравы і вадзяны, з якіх апошні цяпер зачынены, а да вайны—бровар, што ў двары. Бровар быў адзіным буйным прадпрыемствам, але нават ён выпрабляў гарэлкі хіба на якіх 7.000 рублёў. Цяпер усіх прамысловых прадпрыемстваў з рухавікамі ў Шацку—4; моц іхніх рухавікоў—52 конскія сілы.

Крам у Шацку, паводле даных фінінспэктароў, у першую палову 1923/24 бюджэтнага году было 32 з абаротам 67.800 р.; у другую палову таго-ж году іх асталося—29 з поўгадавым абаротам у 62.644 р. Пераважна гэта—дробныя крамы, у кожнай з якіх можна купіць усё, што патрэбна ў штодзённым жыцьці сялянам аколічных вёсак: жалезныя вырабы, крамніну, абутак, соль, цукер, табаку. З агульнага ліку крам 3 коопэрацыйныя з абаротам у другую палову 1923/24 бюдж. г.—11.017 р. Рост коопэрацыі прымушае прыватных гандляроў паступова кідаць свае крамы. У вапошні час многія з іх перайшлі да развозу тавараў па вёсках. Гандлёвае значэньне Шацку грунтуецца на базарах, якія тут адбываюцца штотыдзень па чацьвяргох і нядзелях,

і вялікім кірмашы на Ільлю. Мясцовыя сяляне прадаюць тут свае бандарскія вырабы, а з аколічных вёсак прыводзяць часам якую жывёлу. У пэрыод 1917—1921 г. тут зусім ня было гандлю, а перад вайной гандаль быў значна большым. У час адступаньня польскіх войск у 1920 г. шацкія гандляры былі абрабаваны, і многія з іх дагэтуль яшчэ не пасьпелі аправіцца.

Для свайго раёну Шацак зьяўляецца невялікім культурна-асьветным асяродкам. Ужо ў 1900—01 вучэбным годзе ў тутэйшай сельскай школе было 96 вучняў. Цяпер у двары, у палацы тут зьмяшчаецца сямігадовая школа, у якой вучыцца 389 вучняў, пераважна дзяцей сялян з суседніх вёсак. Апрача таго, ёсьць яўрэйская школа, якая, разам з малодшымі клясамі сямігодкі, зьмяшчаецца ў будынку былой земскай школы. У народным доме ёсьць кіноперасоўка і часам адбываюцца аматарскія спэктаклі.



Адзін з лепшых будынкаў Шацку, б. земская школа, у якой цяпер зьмясьціліся малодшыя групы сямілеткі.

*(Паводле фот. мясц. наст. Сялівончык).*

Для Шацку, як для глухога і беднага мястэчка, вельмі вялікае значэньне маюць раённыя адміністрацыйныя ўстановы, згуртаваныя тут, як у раённым цэнтры, асабліва раённы Выканаўчы Камітэт, Народны Суд, Раённая Управа Міліцыі, больніца і вэтэрынарны пункт. Гэтыя ўстановы прыцягваюць сюды з вялікага раёну сялян па розных справах, а гэта павялічвае гандлёвыя абароты мясцовых крам і спрыяе разьвіцьцю мястэчка.







А. Немцаў.

# З матар'ялаў абсьледваньня Асіпавіцкага раёну.

## Сьвятое возера.

У $1^1/_2$ вярсты на поўнач ад вёскі Гарожка каля самай дарогі ляжыць „Сьвятое возера“. Многа разоў можна праходзіць каля гэтага месца, але-ж ніколі не памыслім, што гэта возера.

Цяпер—гэта маленькая ўпадзіна, у якой вока дарэмна будзе шукаць вады. Яе няма; праз некалькі год паверхня яго зусім зробіцца цьвёрдаю. Яно невялічкае—калі лічыць за межы яго вышэйшыя пункты берагоў, дык плошча яго роўна 1.200 квадр. саж.; але-ж узровень вады, зарастаючы мохам, знаходзіцца на 4 арш. ніжэй — і цяпер мохавая паверхня яго роўна толькі 400 кв. саж.




Яна калышацца; можна хадзіць па ёй, адчуваючы ўвесь час віханьне, можна і праваліцца — покрыўка яе яшчэ ня надта моцная. Вада ўсыхае на вачох; нават на памяці дзятвы яна памяншаецца. Ляжыць возера сярод лесу і сваім прыгожым відам адразу кідаецца ў вочы. На ўсходнім беразе возера, як помнікі даўнейшых часоў стаяць 2 невялічкія курганы. Яны таксама зьмяніліся; яшчэ першы трымаецца, але-ж другі ўжо асеў; на іх расьце невялічкі лес. Гэты лес—навокал возера—малады; на поўнач ён зьмяняецца вялікім хваёвым борам. Дарога з Гарожкі ў Брыцаловічы праходзіць каля самага возера, і вось што пра яго кажуць сяляне.

У даўнія часы на гэтым месцы—тады тут была паляна—стаяла царква; навокал царквы рассьцілаліся балоты, якія мелі багатую расьліннасьць і жывёлін. У хуткім часе царква правалілася—з нетраў зямлі хлынула вада і заліла аколіцу на дванаццаць вёрст—утварылася возера. Глыбіня яго была вялікая: кажуць, што ў воду апускалі вяроўку з патапцом на пятнаццаць сажняў. З гэтага часу яго і завуць „Сьвятым“. Цяпер яно амаль што квадратовае; яго можна пераходзіць з аднаго берагу на другі. Палка ў $4^{1}/_{2}$ ар. улязае ў самы глей. Даўжыня яго 21,1 саж., шырыня 20 с.; узровень зарастаючай вады знаходзіцца на 4 арш. ніжэй берагоў. Цяпер у ім сяляне з акаляючых вёсак мочаць каля самага берагу пяньку.







## З нядаўнага мінулага Асіпавічы.

Калі праводзілі чыгунку Бабруйск-Менск (1872 г.) у вёс. Асіпавічы было 4 сям‘і, якія ў ліку 17-18 чалавек жылі ў 4-ох хацінах.

Навокал былі балоты. На месцы пасёлку „Асіпавічы“ тады было поле і балота. Дзе цяпер знаходзіцца аэродром—быў вялікі лес (на ўзгорку)—хвоі вяршкоў 12-15. Сучасная чыгун. станцыя стаіць на балоце. На поўдзень ад вёс. Асіпавічы рассьцілалася вялікая „Карыцянская“ пушча. На абшарах цяперашняга раёну было 20 паселішч, з якіх 4 (Карыцень, Караны, Пратасэвічы і Дзераўцоўскае лясьніцтва) былі на поўдзень ад чыгункі, а рэшта на поўнач.

Па рацэ Сіняй былі шырокія плёсы; калі пракапалі канаву, рака стала „зрастацца“—плёсы пачало заганяць пяском.

У рацэ было шмат рыбы: шчупакі, язі, ліні, карасі, акуні; вяліся ракі. Злоўленых язей вазілі коньмі ў Бабруйск, дзе прадавалі па грошу за фунт.

На рыбу былі прылады: невад з вочкамі ў $1\text{-}1^{1}/_{2}$ вяр.; нерат; дзе вада крэпка б‘е—„за вадой“—ставілі вершы з кошамі супроць вады; і рабілі „язы“ з кошам.

Ракаў лавілі папростаму—рукамі, а ўлетку яшчэ і крыгамі.

На балоце расла ніцая лаза; тут было шмат качак—асабліва ля Камарына; дзікія гусі тут ня жывуць—яны толькі пралятаюць праз раён, прычым іх астаноўка,—як кажуць паляўнічыя,—на Страшным возеры (ля Татаркі).

У лясох вяліся ласі, дзікі, мядзьведзі, норкі (4-5 р. шт.) куніцы (жоўтая 4-5 р., чорная 7-8 р.), лісы, зайцы.




Пляваньне на ласёў праводзілася „ў Спасаўку перад Прачыстаю“ (увесь жнівень да 8 верасьня ст. ст.), калі ідзе „ваб“. Ласі выбіраюць месца — падобнасьць стойла,—зьбіраюцца там па 8-10 шт. Паляўнічыя сачаць за імі — адзін вабіць, рэшта сядзіць па карчох; калі лось шоў на „ваб“ — яго забівалі стрэльбамі.

У рацэ Сіняй вяліся бабры—свае хаты яны рабілі па берагох у карчох. Цэнтральным месцам лову—дзе іх было больш за ўсё—зьяўлялася рака паміж ур. „Чарапахай“ (дзе Сіняя ўпадае ў Сьвіслач) і вёскай Асіпавічы; былі яны і ўгару, але-ж менш.

На баброў ставілі „язы“ („ез“). На перавале—дзе вузей і мялей—убівалі ў дно ракі кольле—адзін ад другога вяршкоў на 3-5; пераплятталі—„заплаўлівалі“ яловыя лапкі і пакідалі „вароты“ шырынёю ў 3/4 арш. для праходу бабра.

Зімою за бабрамі сачылі, стоячы на лёдзе каля варот, 2 чалавекі; улетку рабілі на вадзе палатку—убівалі „сохі“ (вілаватыя дрэвы—казлы), клалі жэрдкі і рабілі абарону з галінак—як-бы курэнь—забаронены з усіх бакоў апроч таго, што выходзіў да варот. Паляўнічы мог глядзець толькі ў ваду. У руках у паляўнічага быў „штых“ з круглага жалеза даўжынёю ў 2½-3 арш. На канцы яго быў адзін зуб; ад зуба ўгару на 6-8 вярш. прымацоўвалася гайка; у другім канцы было вуха, за якое паляўнічы і трымаў „штых“.



папярэчны разрэз ракі дзе ставіць ез

Увесь „штых“ трымаўся такім чынам, што паміж дном і вострым канцом „штыха“ была адлегласьць у ½ арш.

Калі бабёр шоў па дне, дык паляўнічы адразу апускаў „штых“ і праколваў бабра—„штых“ уваходзіў у цела яго да гайкі.

У такім становішчы паляўнічы аставаўся каля ½ гадзіны і болей—пакуль бабёр не заміраў. Тады яго выцягвалі, адымалі „строі“ і здымалі скуру, якая каштавала 4-5 р.

Строі цаніліся ад залатніка—4-5 руб. за залатнік, так што цана строі даходзіла ад 150 р. да 200 р. Пасьля гэтага везьлі іх у Бабруйск, дзе прадавалі перакупшчыкам.



Жалезны „штых“ для паляваньня на баброў.

З в. Асіпавічы было 4 паляўнічых на баброў; да іх далучаліся часам і Замоскія паляўнічыя.

Асабліва многа баброў было ў той час, калі праводзілі чыгунку; іх ня стала ўжо гадоў 25-30 таму назад.






С. Вялішчанскі.

# Сеньненскае возера.

Мінулай вясной пры Сеньненскіх школах сямігодках, пад маім кіраўніцтвам, як выкладчыка прыродазнаўства, быў організаваны гурток „юных натуралістых“, які сваёй мэтаю паставіў усебаковае вывучэньне геолёгіі, флёры і фаўны Сеньненскага раёну. За гэта лета ім зроблена досыць многа: складзен зельнік Сеньненшчыны (звыш 400 відаў), колекцыя матылёў (60 назваў), значная колекцыя жукоў, двохкрылых, простакрылых і інш. Паміж іншым, было праведзена вывучэньне Сеньненскага возера па програме, якая прапануецца проф. Лунсгерсгаўзэнам у зборніку „Віцебшчына“. Вынікі гэтай працы наступныя.

Сеньненскае возера, якое ляжыць на поўнач ад гораду Сянно, мае паводле вестак Анікіевіча *) найвялікшую даўжыню ў 7 вёрст, а шырыню—паўтары вярсты. У паўднёвы канец яго ўліваецца маленькая рачулка, а з паўночна-ўсходняга канца выцякае таксама невялічкая рэчка; апошняя злучае Сеньненскае возера з Багданаўскім возерам, якое, у сваю чаргу, праз рэчку „Ніжнюю Крывінку“ ў мястэчку Бешанковічы злучаецца з ракой Заходняй Дзьвіною. У мясцовасьці, дзе ляжаць вышэйпамянёныя азёры, ёсьць яшчэ некалькі азёр; усе яны ствараюць як-бы нейкі ланцуг, які цягнецца з паўднёвага ўсходу на паўночны захад. Такім чынам, можна думаць, што гэтыя азёры прадстаўляюць рэштку якойсьці мінулай ракі. У паўночнай палове Сеньненскага возера знаходзяцца два востравы, з якіх адзін супроць вёскі Каралевічы паводле вестак Анікіевіча займае плошчу ў тры дзесяціны; ён пакрыты хмызьняком, лесавым маладняком, як хвойка, дуб, вярба, вольха і інш. Другі востраў бліжэй да гораду, невялікі, увесь зарос лазой, таксама як і частка мяліны навокал яго, дзе растуць чарот, аер і сітнік (Phragmites communis, Acorus calamus, Juncus), завецца ён „Стрэлкай“. Берагі возера досыць зьвілістыя, у некаторых частках утвараюць паўвостравы адхоныя і толькі ў 3-4 месцах (каля ф. Турава) стромкія; складзены яны больш з пяску (Каралевіч, ф. Заазер‘е). Па берагох возера мала дрэў, большасьць хмызьняк—вярба, вольха і інш.

Рэльеф дна няроўны, прычым найбольш глыбокія месцы ў 32-34 мэтры знойдзены на сярэдзіне возера і ідуць яны ў кірунку з поўдня на поўнач. Гэта яшчэ больш узмацняе думку аб тым, што возера гэта ляжыць у лагчыне старога рэчышча. Там, дзе няма расьліннасьці,

*) Анікіевіч. „Описание Сенненского уезда Могилевской губернии“.

дно пескавое, а ў іншых мясцох гляістае. Тэмпэратура вады, згодна вымерам Заржэцкага [1]), пасьля некаторых хістаньняў, застанаўліваецца на 7°. Паводле таго-ж Заржэцкага, колер вады Сеньненскага возера падобны да крайняга жаўтаватага колеру скалы Форэля-Іле. Празрыстасьць вады ў розных мясцох хістаецца ад 2-х да 3-х мэтраў (вымеры рабіліся ў чэрвені м-цы 1926 г.). У працягу году зьмены роўню ў залежнасьці ад надвор'я вельмі значныя і, напрыклад, сёлета, з прычыны вялікай засухі, у некаторых мясцох возера адышло на 6-7 мэтраў, прычым ровень яго значна панізіўся. Процэс усыханьня возера не назіраецца, а што датыча забалачваньня, дык гэты процэс асабліва яскрава прыкмячаецца ў паўночнай яго частцы, дзе вялікі абшар заняло балота, якое напэўна прадстаўляла калісьці частку возера; каля берагу там у вадзе вялікая колькасьць вадзяных расьлін, асабліва разаку (Stratiotes aloides), вадзяніцы (Nymphaea alba).

У жніўні, была абгледжана флёра возера, прычым былі заўважаны наступныя расьліны ў цьвеце. У вадзе: чарот (Phragmites communis), лазоўка (Lysimachia thyrsiflora), шыльнік (Alisma Plantago), сітнікі (Juncus putomus, lampocócarpus), аер (Acorus Calamus), стрэліца (Sagittaria sagittifolia), урэчнікі (Potamogeton natans, crispus, luceus), хвашчы (Equisetum), плюшчэй (Sparganium ramosum), банцушнік (Butomus umbellatus), казяльцы (Ranunculus Lingua, aguatilis, sceleratus), вадзяніца і збанкі (Nymphaea alba, Nuphar Puteum) і некат. інш. На беразе расьліны разьмяркоўваюцца наступным чынам [2]): 1) Liliaceae—1 від; 2) Orchidaceae—8 відаў; 3) Gramineae—12 в.; 4) Salicaceae—2 в.; 5) Moraceae—1 в.; 6) Urticaceae—2 в.; 7) Polygonaceae—12 в.; 8) Chenopodiaceae—3 в.; 9) Caryophillaceae—10 в.; 10) Ranunculaceae—5 в.; 11) Cruciferae—11 в.; 12) Saxifragaceae—2 в.; 13) Rosaceae—13 в.; 14) Leguminosae—8 в.; 15) Geraniaceae—3 в., 16) Polygalaceae—1 в.; 17) Euphorbiaceae—2 в.; 18) Balsaminaceae—1 в.; 19) Rhamnaceae—1 в.; 20) Malvaceae—1 в.; 21) Guttiferae—1 в.; 22) Violaceae—2 в.; 23) Lythraceae—1 в.; 24) Onagraceae—3 в.; 25) Umbelliferae—9 в.; 26) Pirolaceae—2 в.; 27) Primulaceae—5 в.; 28) Gentianaceae—2 в.; 29) Cyperaceae—3 в.; 30) Polypodiaceae—1 в.; 31) Equisetaceae—2 в.; 32) Sparganiaceae—1 в.; 33) Alismataceae—2 в.; 34) Convolvulaceae—1 в.; 35) Borraginaceae—4 в.; 36) Labiatae—20 в.; 37) Solanaceae—2 в.; 38) Scrophulariaceae—15 в.; 39) Plantaginaceae—3 в.; 40) Rubiacae—3 в.; 41) Caprifoliaceae—3 в.; 42) Valerianaceae—1 в.; 43) Dipsacaceae—3 в.; 44) Campanulaceae—6 в.; 45) Compositae—43 в. Разам 252 віды.

Фаўна возера дасьледвана не дасканала з прычыны адсутнасьці азначнікаў казюлек. Заўважаны: начовачкі, шмат іншых відаў мякуноў, шыцікі, плывунец, плашчак (Nepa cinerea), павукі, чарва камароў, бабак, жабы. З рыб трапляюцца наступныя віды: шчупак, карась, лін, акунь, верхавадка (вуклейка), плотка, калéка (калега), усьцярá, ерш, краснапёрка, курмель, лешч. У мінулыя гады насельніцтва мела вялікую карысьць ад рыбнай лоўлі, за адну „тоню“ бралі больш як сто пудоў, але за апошнія часы колькасьць рыбы стала непараўнальна меншай.

З птушак найчасьцей трапляецца сустрэць: чаплю, нырка, вутку, чайку, пелікана [3]).

---

[1]) Навуковы працаўнік, якому было даручана вывучыць геолёгію былога Сеньненскага павету.

[2]) Паказваюцца ўсе расьліны, якія заўважаліся на працягу лета на берагох возера.

[3]) Мясцовыя назвы.

Што возера займала ў жыцьці гораду значнае месца, відаць з ніжэй прыведзеных легенд пра возера, якія вучні сабралі ўлетку.

I.

Шмат гадоў таму назад жыў ля Сеньненскага возера сьвяты чалавек. Усе людзі, у якіх было якое-небудзь гора, зьвярталіся да яго і ён усім памагаў, як мог. Прышлі да яго раз мужык з жонкай і пачалі жаліцца аб тым, што ў іх няма дзяцей. Добры старычок выслухаў іх і даў ім такі адказ: „Ідзеце дамоў, добрыя людзі, і маліцеся богу! Родзіцца ў вас скора дзяцё—хлопчык, які на трынаццатым годзе свайго жыцьця павінен утапіцца. Беражэце яго, добрыя людзі!“ Стары чалавек адпусьціў іх і растлумачыў ім, як спазнаць той дзень, у які хлопчык утопіцца. Праз год у тых людзей радзіўся хлопчык і рос усім на радасьць і зьдзіўленьне. Хлопчыку пашоў трынаццаты год. Быў гарачы летні дзень, калі бацька ўбачыў знак, аб які яму казаў старык (хлопчык апрануў абедзьве панчохі на адну нагу). Хлопчыка запёрлі ў каморку і цэлы дзень не давалі яму ніводнай каплі вады. Усе людзі, якія былі ў той дзень ля возера, бачылі, як з вады некалькі раз вылазіла некае чудзіла з вялікай галавой; гэта чудзіла ўвесь час прыгаварвала: „Няма таго, каго нам трэба. Кепска будзе, кепска будзе!“ З тае пары ў адместку за тое, што добры дух перамог злога, апошні кожны год бярэ сабе чалавека.




II.

Паміж людзьмі і добрым духам у возеры быў такі ўгавор: добры дух павінен быў абараніць людзей і пасылаць ім многа, многа рыбы, а людзі яму за гэта павінны былі даваць частку ўсяго таго, што яны мелі. Калі чалавеку трэба было ехаць на возера, дык ён браў з сабой дабро і кідаў яго добраму духу: а добры дух за гэта абараняў яго ад усяго кепскага. Так цягнулася многія годы.

Людзі жылі ў добрай згодзе з духам. Бацькі гаварылі сваім сыном, каб яны слухаліся духа; сыны слухаліся і давалі добраму духу падарункі. Прайшло шмат год і нарадзіліся новыя людзі, якія ня ведалі духа і не давалі яму нічога. Добры дух узлаваўся і перастаў памагаць людзям. Тым часам людзі, страціўшы падмогу добрага духа, пачалі часта тапіцца ў нашым возеры.

III.

Стаўшы самаўласным гаспадаром нашага возера, злы дух пачаў патрабаваць сабе ад людзей вельмі многа дабра. Людзі, якія ведалі яго моц, давалі яму багатыя падарункі і ўсьцішалі яго злосьць. Але

адзін чалавек пахваліўся, што ён ня верыць у злога духа і не даваў яму падарункаў. Злы дух за гэта вельмі раззлаваўся і абяцаў утапіць яго за гэта. Той чалавек быў вельмі асьцярожны і ніколі не хадзіў ля возера. Людзі сьмяяліся з яго, а ён дзеля таго каб паказаць, што ён не баіцца пашоў узімку па лёдзе, думаючы, што ўзімку злы дух сьпіць. Але дух узлаваўся і паслаў на яго бягучую ваду (крыніцы), якая растапіла лёд і той чалавек утапіўся. З таго часу на тым самым месцы вада ўзімку бурліць і шуміць, пакуль хто-небудзь ня ўтопіцца, а пасьля гэтага яна супакойваецца і пакрываецца лёдам.

IV.

Паводле народных забабон жыльлямі для духаў служаць вострвы. Калі добры дух панаваў над возерам, ён жыў на вялікім востраве, а злы—на маленькай стрэлцы. Але потым, калі злы дух перамог добрага, ён забраў сабе бальшы востраў і з таго часу жыве на ім, а добры дух на стрэлцы (меншы востраў).

V.

Злы дух кожны дзень пільнуе таго чалавека, імя якога сьвяткуецца ў гэты дзень, і дзеля гэтага ў народзе існуе такі погляд, што ў дзень сваіх імянін нельга хадзіць ля возера. Галоўным чынам глядзяць, каб Іван ня йшоў купацца ў ноч на Івана Купалу, бо ў тую ноч дух вельмі злы.

VI.

Калі родзіцца дзіця, дык заўсёды глядзяць на возера. Калі возера спакойнае і вясёлае, дык і дзіцяці будзе добра і весела жыць. А калі возера бурнае, дык дзіцяці будзе кепска жыць.






А. Ганжын.

# Мястэчка Чачэрск, Гомельскай акругі.

*(Географічна-гістарычны нарыс).*

Месца, дзе знаходзіцца Чачэрск, праз які праходзіў стары Чарнігаўскі гасьцінец, вельмі прыгожае. Чачэрск пабудаваны на беразе ракі Чачоры, якая тут-жа ўцякае ў раку Сож. З поўначы яно мае асабліва прыгожы выгляд.

Тут на рацэ Чачоры, на паўночна-заходнім баку Чачэрску, пры пачатку Захарнапольскай слабады (вуліца м. Чачэрску, атрымаўшая назву ў 1774 г. ад імя графа Захарыя Чарнышэва) калісьці быў на Рагачэўскім шляху вялікі вадзяны млын і тартак-сукнавальня. Цяпер гэты млын зьнішчаны. Толькі застаўся мост праз раку і грэбля, якая была зроблена земствам у 1907 г. па Рагачэўскім шляху. Пры ўваходзе з мастоў на Захарнапольскую слабаду пачынаюцца пяскі, на якіх з боку дарогі знаходзяцца добрыя будынкі і кузьні старавераў Мужчыніных—Захара, Петрака і Мікешкі—людзей самавітых, працоўных, якія перарабілі бясплодныя пяскі каля ракі ў прыгожае дачнае месца. Земствам у 1912 годзе пабудавана тут пачатковая 4 комплектная школа.

Далей ідзе ў мястэчку вуліца „Захарнапольская слабада“, па якой лічыцца каля 215 драўляных двароў. Усе гэтыя двары з гантовымі і саламянымі дахамі.

Калі мінем Захарнапольскую слабаду, дык трапім да астачы земляного ўкрапленьня быўшага калісьці замку, які пабудованы на крутым абрыве над ракою Чачора. Тут р. Чачора падыходзіць да цэнтру мястэчка Чачэрска. Правы бераг ракі з усходня-паўночнага боку Чачэрску мае ў цэнтры мястэчка вельмі прыгожы выгляд. Рака абмывае гэта высокае месца, пакрытае векавымі ліпамі, клёнамі, ясенамі, дубамі і г. д. Паміж дрэвамі ў парку ўніз спушчаюцца з гары дарожкі.

У вясну рака разьліваецца на 5-6 кілёмэтраў і абмывае былыя замкавыя ўкрапленьні.

У 1802 годзе быў тут пабудован вялізарны палац графіні Ганны Радзівонаўны Чарнышовай, хроснай маткі цара Аляксандра I. Палац зроблен у готычным стылі і меў форму паўкругу. Ён быў абведзены вялікім ровам, праз які з паўднёвага боку яго на вялізарных ланцугох падымаўся на ноч і спушчаўся на дзень мост. У роў напускалася вада з ракі Чачоры.

Унізе, каля замку, на беразе Чачоры было пабудована шмат рыбніц з рознымі аддзяленьнямі дзеля розных узростаў і парод рыб. Там

кармілі іх і глядзелі за імі спэцыяльна назначаныя для гэтага сялянепрыгоньнікі. Яны кармілі рыбу прысмакамі кожны дзень у пэўную гадзіну*). Недалёка каля замку (150 сажняў) была пабудована (скончана ў студзені 1787 году) царква „Нараджэньня Багародзіцы“. Пры асьвяшчэньні якой была царыца Кацярына II. У царкве зьмешчаны два вобразы „Вазьнясеньне“ і „Усьпеньне“, напісаныя жывапісцам Італьлянскай школы, які быў выпісан у Чачэрск дзеля гэтай працы Чарнышовым.

Прыблізна каля 75 саж. ад гэтай царквы (сабору) пабудован у той час і каменны касьцёл, які мае форму кругу і зроблены па пляне славутнага архітэктара Растрэльлі. На агляд касьцёла прыяжджалі ня раз маладыя вучоныя.

Пасярэдзіне плошчы места Чачэрска знаходзіцца вялікая каменная чатырохпавярховая з падвалам ратуша з 5-ю павярховымі драўлянымі вежамі. Зроблена яна ў готыцкім стылі. Калісьці на ратушы быў вялікі гадзіньнік з звонам, стаяў вартаўнік, які паведамляў аб прыезьдзе ў Чачэрск гасьцей. У цэнтры мястэчка каля ратушы на плошчы знаходзяцца крамы, прыблізна каля 76, пабудаваныя яшчэ Чарнышовым.

Па Кладбішчанскай вуліцы знаходзіцца аднапавярховы каменны будынак, у якім у сучасны момант зьмяшчаецца раённая больніца. Таксама добра абсталявана тут і вэтэрынарная амбуляторыя.

У цэнтры мястэчка знаходзіцца паштовая кантора з тэлеграфам. Яна зьмешчана ў драўляным аднапавярховым б. графскім будынку.

Каля Чачэрску шмат курганоў, у якіх сяляне знаходзяць швэцкія сярэбраныя грошы. Некаторыя з курганоў у сялян маюць паасобныя назвы: „Караліха“, „Маскаліха“.

Па паказаньні Карамзіна Чачэрск успамінаецца пад 1157 г. і лічыцца ім у Сажоўскай акрузе.

Аб пачатку Чачэрска існуе наступнае народнае паданьне:

Першымі насельнікамі тут былі Чычакі, якія раней жылі ў мясцовасьці, дзе пачынаецца рака Чачора. Некаторыя адтуль уцяклі і пасяліліся ніжэй па Чачоры і пабудавалі Чачэрск. Да іх яшчэ далучаліся вандраваўшы па лесе род „Перднікаў“ (гадаў), які існуе і цяпер і слыве пад назвай „гады“, як жыхары з дзікіх лясоў.

Запраўдная гісторыя Чачэрска пачынаецца з XVI ст. В. князь Аляксандар у 1501 годзе перадае Чачэрск у пажыцьцёвае ўладаньне сваёй жонцы Алене, дачцы вялікага Маскоўскага кн. Івана III. Як каралеўскае ўладаньне Чачэрск плаціў падаткі непасрэдна ў дзяржаўны скарб. Кароль Жыгімонт III у 1621 годзе перадаў Чачэрскае староўства Аляксандру Сапезе за яго працу ў Турэцкую вайну. У час вайны Рэчы Паспалітай з казакамі Чачэрск быў захоплены Залатарэнкай (1654 г.), а пасьля зноў увайшоў у склад Польшчы і лічыўся каралеўскім местам. З адыходам Беларусі да Расіі ў 1773 годзе Чачэрск атрымаў правы павятовага гораду. Кацярына II у 1774 годзе аддала Чачэрскае старастава першаму кіраўніку Беларусі графу Захару Рыгоравічу Чарнышову. Чачэрск, пабудаваны па водным і грунтовым шляхох, вёў значны гандаль рознымі таварамі на Беларусі. У гэты час сюды перасялілася шмат яўрэйскага насельніцтва. Усе яны былі разьмяркованы на ўзьбярэжжы ракі Чачоры, дзеля іх пабудавана было 4 малельні, з якіх адна каменная і зроблена на сродкі графскай гаспадаркі.

*) Аб гэтым памянёна ў мэмуарах Чарнышова.

У час вайны з французамі ўсе павятовыя ўстановы былі пераведзены ў Рагачэў, пасьля чаго Чачэрск паступова занепадае.

Пасьля сьмерці Захара Рыгоравіча Чарнышова ўладаньне Чачэрскам перайшло жонцы яго Ганьне Радзівонаўне Чарнышовай, а потым брату яе мужа Івану Рыгоравічу Чарнышову, які перадаў Чачэрск свайму сыну Рыгору Іванавічу Чарнышову, ад якога дастаўся яго дачцы Софіі Рыгораўне з мужам яе Іванам Гаўрылавічам Круглікавым, які, згодна ўказу царскаму ад 4-га студзеня 1832 г., атрымаў гэрб і прозьвішча графа Чарнышова-Круглікава. Апошнім уладаром Чачэрску з 1906 г. быў Безабразаў.

У цэнтры Чачэрска Круглікавым была пабудавана студня з паравым насосам.

У Чачэрску 4 кірмашы: 1) 18-га студзеня на Панасьце, 2) на Вазьнясеньне, 3) 8-га верасьня ў нараджэньне Багародзіцы і 4) у вапошнюю нядзелю прад „Нараджэньнем Хрыстовым".

Гандаль на гэтых кірмашох дае прыбытку да 100 тысяч рублёў.

Чачэрская коопэрацыя вельмі моцная. Яна аб'яднае розны гандаль і дае вялікі прыбытак. Тут цяпер знаходзіцца Райвыканком з міліцыяй і судзьдзёй.

Быўшая гімназія з гарадзкім вучылішчам зьмяніліся ў 9-гадовую школу з 450 вучнямі.

Пабудаваны майстэрні—шавецкая і кравецкая і г. д.

З 1910 году вельмі значную ролю іграе млын, пабудованы Галінскім пры дапамозе яго зяця Созонова, які быў пісарам у Чачэрскім валасным праўленьні. Гэты млын у сучасны момант мае 2 паравікі. У ім зроблены крупадзёркі, маслабойня, сукнавальня, лесапілка для клёпкі і г. д. Усё гэта зьмяшчаецца ў каменным 2-х павярховым будынку з электрычным асьвятленьнем.

У Чачэрску шмат дамоў маюць электрычнае асьвятленьне.

У высокіх берагох Чачоры і Сожа знаходзяць шмат крэйды, якую капаюць у 1½ вярсты ад Чачэрску, на беразе Сожа. Тут-жа знаходзіцца і вапняк. Па велічыні свайго карыстаньня крэйда ў Чачэрску займае значнае месца. Апроч гэтага, тут ёсьць шмат гліны. Таксама сустракаецца ў Чачэрску пясок, які ўжываецца пры вырабе шкла. Па беразе ракі Сожа знаходзіцца шмат крэмню. У вапошні час сялянамі Чачэрска ён ужо зьбіраўся і прадаваўся—1 п. крэмню за 1 пуд жытняй мукі. Крэмень зьбіралі дзеля наліваньня жорнаў. Чачэрскія сяляне сабралі гэтага крэмню за 1920-24 год некалькі тысяч пудоў, але яго яшчэ і цяпер шмат засталося.

## ЛІТАРАТУРА:

1) Полное собрание русских летописей т. VIII-288, II-94, VII-79.
2) Городск. посел. Рос. Имп. т. III стар. 228-229.
Без-Корнилович. Обозрение, стар. 216-194.
3) Путеш. Импер. Екатерины Великой в Могилевск. губ. в 1780 г. (Русск. вестник 1881 г. № 8).
4) Архіў першага намесьніка Екат. Вял. у Беларусі З. Г. Чарнышова.
5) Архіў Чачэрскіх цэркваў.

# Анкеты, програмы і інструкцыі.

Проф. П. Салаўёў.

## Вывучэньне рыбных багацьцяў Беларусі.

*(Іхтыофаўна БССР).*

На тое значэньне, якое мае рыбагадоўля на Беларусі, між іншым, ужо зьвярнуў увагу П. Тарасаў у сваім артыкуле „Рыбагадоўля ў сельскай гаспадарцы“ („Плуг“, 1926 г. № 3). Пытаньне гэта цікава для Наркамземляробства, Дзяржпляну і КПВС (Камісія па вывучэньні прыродных вытворчых сіл). Вывучэньне рыбных багацьцяў рэспублікі—пытаньне вельмі важнае і для свайго вырашэньня патрабуе колектыўнай працы.

В. І. Грацiанаў у прадмове да сваёй кніжкі—„Опыт обзора рыб Российской Империи (1907) піша: „Зрабіць дэтальнае дасьледваньне фаўны такога вялізнага краю, як Расія, немагчыма, карыстаючыся толькі навуковымі сіламі, якія знаходзяцца пры унівэрсытэтах, Акадэміі і да т. п. *Толькі прыцягнуўшы да працы дасьледваньня фаўны мясцовых дзеячоў, якія цікавяцца справай прыродна-гістарычнага дасьледваньня, можна спадзявацца на здавальняючае вырашэньне гэтай задачы, хоць і ў далёкай будучыне*“. Гэта думка правільная, ня толькі калі мы разьвязваем пытаньне ўва ўсесаюзным маштабе, але яна ня губляе свайго значэньня і ў дачыненьні да Беларусі. Плошча сучаснай Беларусі, якая зьвязана рэкамі—Заходняй Дзьвіной і Дняпром—з вадазборамі Балтыцкага і Чорнага мораў, з пункту погляду навукова-дасьледчай дзейнасьці настолькі вялікая, што і тут удзел у дасьледчым працэсе мясцовых дзеячоў бязумоўна зьяўляецца неабходным, каб атрымаць запраўдныя і карысныя вынікі. Такімі мясцовымі дзеячамі ў нас, на Беларусі, будуць працаўнікі, якія зьвязаны з Інбелкультам, члены краязнаўчых т-ваў, якім і належыць прыняць удзел у вывучэньні складу і географічнага распаўсюджваньня рыб у нашай Рэспубліцы.

Выканаць намечаную працу, па нашай думцы, магчыма двума шляхамі.

*Папершае*, прапануецца краязнаўчым організацыям, або паасобным іх членам запоўніць анкету, якая пры гэтым дадаецца і перасылаць яе ў ЦБК. Гэта справа вельмі лёгкая, якая не патрабуе ніякіх выдаткаў, а таксама і шмат часу.

*Падругое*, тым організацыям і асобам, якія пажадаюць заняцца гэтым пытаньнем больш дакладна і глыбей, прапануецца зьбіраць, захоўваць рыб і перасылаць іх у Інбелкульт (перасылка дармовая). Аб тым, што рабіць з рыбамі для вышэйадзначанай мэты відаць з далучанай да гэтага інструкцыі.

## I. Анкета па вывучэньні рыбных багацьцяў Беларусі.

1. Прозьвішча, імя, імя бацькі і адрэс асобы, якая запаўняе анкету.
2. Якая рака, возера, сажалка і г. д. і на якім вучастку дасьледваны?
3. Назвы рыб (мясцовыя), якія сустракаюцца ў вашай мясцовасьці (сьпіс рыб).
4. Якія з гэтых рыб сустракаюцца ў рацэ, якія ў сажалцы і інш.?
5. У якую пару году трапляюцца тыя або іншыя рыбы?
6. Якіх рыб ёсьць багата, і якіх мала?
7. Ці ёсьць у вас організаваныя спосабы рыбацтва? Час лову наогул і тэй або іншай рыбы паасобна? У якіх мясцох бываюць найвялікшыя ўловы рыбы?

(Можа ёсьць асобныя месцы лову; можа маюць значэньне гадзіны сутак і г. д.?) Якія ўжываюцца прылады (вуда, сетка, бродзень, невад і інш.)? Ці ёсьць рыбакі і колькі іх у вас? Ці ёсьць арцелі для рыбацтва? Ці арандуюцца кім вадазборы для рыбнага лову? Цана тэй або іншай рыбы на рынку? Куды забіраецца рыба? Які попыт на тую або іншую рыбу? У якім відзе спажываюць рыбу: ці сьвежую, ці загатаўляюць у запас (спосабы прыгатаваньня)? Прыбытковасьць рыбнага промыслу?

8. Ці ёсьць у вас якія прыметы і павер, і аб рыбах? Ці лічацца некаторыя рыбы шкоднымі і якіх не ядуць у тую, або іншую пару году?
9. Ці заўважваецца зьніканьне якіх-колечы пород рыб, і калі заўважваецца, дык чым тлумачыцца гэта зьявішча?
10. Ці заўважваецца зьяўленьне ў вас такіх рыб, якіх раней ня было. З якога часу гэта заўважвацца і ці не знаходзіцца яно ў сувязі з якімі-колечы зьменамі ў самым вадазборы?
11. Можа зьяўляюцца якія рыбы толькі вясной у час паводкі, або іншую пару і якія?
12. Ці вядомы ворагі рыб (вадзяныя птушкі, выдры і інш.) і якім рыбам яны шкодзяць? Ці заўважваюцца ў нутры рыб чужаеды (чарвякі і інш.), як часта і ў якіх рыбах?
13. Ці не заўважваецца масавае выміраньне рыб і чым можна гэта вытлумачыць?
14. Да якой найбольшай велічыні вырастае ў вас рыба розных парод (даўжыня і вага)? Якой найменшай велічыні бываюць рыбы з ікрой?
15. Ці разводзяцца якія-колечы рыбы штучна?
16. Калі бывае ў кожнай рыбы нераст (пачатак і канец)? Можа ёсьць падрабязныя нагляданьні над гэтым.
17. Дадатковыя весткі, якія можна дадаць, апроч ужо закранутых пытаньняў у анкеце.

## II. Інструкцыя для зьбіраньня рыб.

Пры зьбіраньні рыб у якой-колечы мясцовасьці трэба мець на ўвазе, што пажадана мець усе пароды рыб, якія тут заўсёды жывуць і прытым ня толькі тых, якія маюць прамысловае значэньне (ядобныя, але і тых, якія не зьвяртаюць на сябе ўвагі (маленькія рыбкі з ручаёў, сажалак і інш.). Пажадана мець па некалькі экзэмпляраў кожнай пароды, пачынаючы з самых дробных і, калі магчыма, злоўленых у розную пару году. Пажадана з рыб, якія жывуць у розных умовах (напр. плотка) мець розныя экзэмпляры (напр. рачную і азёрную). Цікава мець рыб, якія рэдка сустракаюцца ў данай мясцовасьці.

Кожная рыба, якая павінна захоўвацца, абавязкова павінна мець пашпарт (этыкетку). На паперцы звычайным алоўкам (ня хімічным) пішацца час улову (напр. 21/VIII 1926 г.) і месца (напр. Дняпро, Ворша). Гэта паперка або прывязваецца ніткай да данага экзэмпляру, або засоўваецца за зябры. Калі вядома мясцовая назва рыбы, дык трэба яе таксама напісаць на памянёнай паперцы.

Лепей за ўсё рыб, якія зьбіраюцца, зьмяшчаць у шкляных банках, і апошнія зачыняць або звычайнымі коркамі або шклянымі. Для консэрваваньня звычайна ўжываюць або формалін, або сьпірытус. Тыя рыбы, якія маюць афарбоўку, звычайна губяць яе асабліва ў сьпірытусе, дзеля чаго для гэтых рыб трэба даваць апісаньне з тым разьлікам, што афарбоўка іх згіне.

Звычайна для прэпарату бярэцца сьпірытус у 70-75 градусаў. У крайнім выпадку можна карыстацца гарэлкай, у якой рыбы таксама могуць праляжаць два дні бяз усякай шкоды для іх. Формалін для прэпаратаў гатуецца з пакупнога формаліну (прадаецца ў аптэках). Пакупны формалін разводзіцца 20 часткамі вады (лепей кіпячонай). Такім чынам, атрымаецца 2% формалін, у які і апускаюць сьвежую, а яшчэ лепей жывую рыбу.

Усе зборы пасьля добрага пакаваньня перасылаюцца пасылкамі па пошце. Калі пасылка, накіроўваецца ў Інбелкульт, дык пошта прыймае безаплатна. Адрэс такі: *„Менск, Інстытут Беларускай Культуры. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства. Рэволюцыйная, № 21. Безаплатна на падставе пастановы СНК СССР ад 2 верасьня 1924 г. і 26 сьнежня 1922 г., а таксама абежніку НКП і Т ад 16 верасьня 1924 г. за № 34/868, апубл. у бюлет. № 37—24 г.“*

Пасьля таго як пасылкі з рыбамі будуць атрыманы, гэтыя рыбы будуць асновай для іхтыолёгічнага аддзяленьня музэю Інбелкульту.

---

Зацьвярджаецца, як нормальны (прыкладны).

Зам. Наркомунуспраў *Кроль.*

Менск, 20 сьнежня 1926 г. № 15315.

# Статут

.................................. *Раённага Таварыства Краязнаўства.*

## I. Мэты і задачы таварыства.

§ 1. .................................. Раённае Таварыства Краязнаўства мае мэтай:

а) усебаковае вывучэньне і дасьледваньне свайго раёну ў грамадзка-экономічным, прыродна-географічным і культурна-гістарычным стасунках;

б) пашырэньне ведаў, зьвязаных з вывучэньнем і дасьледваньнем раёну;

в) абуджэньне зацікаўленасьці сярод шырокіх колаў грамадзянства да заданьняў таварыства і наогул да краязнаўства.

§ 2. Для ажыцьцяўленьня паказаных у § 1 заданьняў раённае таварыства:

а) організуе сходы, на якіх заслухоўвае і абгаварвае даклады аб спосабах дасьледваньня і вывучэньня свайго раёну, а таксама выніках яго;

б) організуе публічныя лекцыі, вечарыны, дыспуты і д. т. п.;

в) організуе нагляданьні, зьбіраньне колекцый і матар'ялаў, экспэдыцыі і экскурсіі;

г) організуе лябораторыі, мэтэоролёгічныя і дасьледчыя станцыі, наглядальныя пункты (мэтэоролёгічныя, фэнолёгічныя і іншыя), краязнаўчы музэй, пастаянныя і пэрыодычныя выстаўкі;

д) організуе бібліотэкі;

е) клапоціцца аб апублікаваньні сваіх прац альбо навуковай апрацоўцы сваіх матар'ялаў;

ж) кіруе дзейнасьцю існуючых у раёне краязнаўчых гурткоў і організуе іх;

з) выдае рукапісны краязнаўчы часопіс;

і) організуе краязнаўчыя зьезды і конфэрэнцыі;

к) у сваёй дзейнасьці кіруецца праўленьнем акруговага таварыства краязнаўства;

л) выконвае пастановы ўсебеларускіх краязнаўчых зьездаў.

*Увага 1.* Паказаныя ў § 2 правы раённае таварыства ажыцьцяўляе на падставе і ў межах адпаведных законапалажэньняў.

§ 3. Раённае таварыства краязнаўства мае сваю пячатку з надпісам: Беларуская Савецкая Социялістычная Рэспубліка .................................. Раённае Таварыства Краязнаўства.

## II. Склад раённага таварыства краязнаўства.

§ 4. Членамі раённага таварыства краязнаўства могуць быць:

а) заснаваўцы раённага таварыства ў ліку ня менш 7 асоб;

б) члены таго ці іншага краязнаўчага гуртка на тэрыторыі раёну;

в) кожны грамадзянін, не маладзей 15 год і не пазбаўлены выборчага права, які згодзен з статутам таварыства, жадае працаваць для ажыцьцяўленьня яго заданьняў, падаў аб гэтым пісьмовую заяву ў праўленьне таварыства і прыняты агульным сходам краязнаўчае організацыі раённага цэнтру.

§ 5. Кожны член таварыства павінен весьці актыўную працу па выкананьні пастаўленых раённым таварыствам краязнаўства заданьняў і ажыцьцяўляць усе пастановы раённай краязнаўчай конфэрэнцыі, агульнага сходу, організацыі раённага цэнтру і праўленьня.

§ 6. Кожны член таварыства мае права прымаць удзел у раённых краязнаўчых конфэрэнцыях, калі лік членаў таварыства не перавышае 200, а ў супраціўным выпадку—прымаць удзел у вагульных сходах краязнаўчай організацыі раённага цэнтру альбо гуртка і абіраць дэлегатаў на раённую краязнаўчую конфэрэнцыю.

§ 7. Сьпіс членаў раённага таварыства краязнаўства ў 2 экз. дастаўляецца ў Раённы Выканаўчы Камітэт, у якім таварыства зарэгістравана.

§ 8. Член раённага таварыства можа быць выключаны са складу таварыства па сваёй уласнай заяве аб гэтым, альбо толькі па пастанове агульнага сходу організацыі раённага цэнтру, прычым прычынай выключэньня ў гэтым выпадку можа быць учынак крымінальнага характару, альбо такі, які падрывае аўторытэт таварыства.

*Увага:* Выключэньне са складу таварыства зацьвярджаецца раённай краязнаўчай конфэрэнцыяй.

## III. Сродкі раённага таварыства.

§ 9. Сродкі раённага таварыства складаюцца:

а) з членскіх узносаў і ахвяраваньняў;

б) з субсыдый дзяржаўных і грамадзкіх установаў, аднаразовых альбо пастаянных;

в) з прыбыткаў ад продажы краязнаўчых выданьняў;

г) са збораў за ўваход на лекцыі, выстаўкі, вечарыны і г. д.

д) з адлічэньняў ня больш 10% агульнай сумы членскіх узносаў гурткоў краязнаўства на раёне на карысць раённага таварыства краязнаўства.

*Увага 1.* Велічыня членскіх узносаў вызначаецца раённай краязнаўчай конфэрэнцыяй, прычым агульны сход організацыі раённага цэнтру можа звальняць ад выплаты членскіх узносаў тых членаў, якія ня могуць заплаціць іх.

*Увага 2.* Члены раённага таварыства, якія не заплацілі ў свой час вызначаных членскіх узносаў, лічацца выбыўшымі з ліку членаў таварыства. Але яны зноў уваходзяць у таварыства пасьля ўнясеньня належных узносаў бяз новага абраньня.

§ 10. Сродкі раённага таварыства выдаюцца праўленьнем. Справаздачы аб выдатках, разгледжаныя і зацьверджаныя агульным сходам

краязнаўчай організацыі раённага цэнтру, перадаюцца ў тую ўстанову, з якой атрыманы грошы, а копія справаздачы захоўваецца ў справах таварыства.

## IV. Агульныя сходы краязнаўчай організацыі раённага цэнтру.

§ 11. Агульны сход краязнаўчай організацыі раённага цэнру зьбіраецца ня менш як адзін раз у 2 месяцы. Сходы організацыі склікаюцца праўленьнем з папярэднім паведамленьнем Раённага Выканаўчага Камітэту за 3 дні да сходу. Справы на сходзе вырашаюць простаю большасьцю галасоў.

§ 12. Агульны сход:

а) прыймае і выключае членаў таварыства, што жывуць у раённым цэнтры;

б) зацьвярджае плян свае працы, узгоднены з праўленьнем раённага таварыства краязнаўства;

в) заслухоўвае справаздачы сваіх выбарных, праўленьня і інш.;

г) заслухоўвае даклады адпаведна сваім мэтам і заданьням;

д) зацьвярджае грашовыя выдаткі, зробленыя згодна пляну свае працы;

е) абгаварвае проекты аб зьменах у статуце, якія прадстаўляюцца потым на раённую краязнаўчую конфэрэнцыю.

§ 13. Агульны сход лічыцца правамоцным, калі прысутнічае ня менш $^1/_3$ членаў з раённага цэнтру.

## V. Раённыя краязнаўчыя конфэрэнцыі.

§ 14. Раённая конфэрэнцыя зьяўляецца вышэйшым органам раённага таварыства краязнаўства і складаецца з усіх членаў таварыства, або прадстаўнікоў краязнаўчых організацый раёну, а таксама дзяржаўных, профэсіянальных, грамадзкіх і партыйных установ у ліку, вызначаным праўленьнем, і склікаецца апошнім ня менш двох раз у год.

§ 15. Конфэрэнцыя:

а) выбірае праўленьне таварыства і рэвізійную камісію;

б) зацьвярджае выключэньне са складу таварыства;

в) разглядае і зацьвярджае справаздачы праўленьня аб яго дзейнасьці і дзейнасьці таварыства і пастановы рэвізійнай камісіі;

г) разглядае і зацьвярджае пляны далейшай працы таварыства, якія ўносіць праўленьне;

д) выбірае дэлэгатаў на акруговую краязнаўчую конфэрэнцыю;

е) організуе сэкцыі і асобныя камісіі таварыства;

ж) вызначае велічыню членскіх узносаў;

з) зацьвярджае проекты каштарысаў;

і) абгаварвае пытаньне аб зачыненьні таварыства.

к) абгаварвае проекты аб зьменах у статуце таварыства.

*Увага:* Прынятыя зьмены ў статуце зацьвярджаюцца ў паложаным парадку.

§ 16. Усе справы на конфэрэнцыі вырашаюцца простай большасьцю галасоў, апрача пытаньня аб зачыненьні таварыства, для вырашэньня якога патрэбна большасьць $^2/_3$ галасоў. Конфэрэнцыя лічыцца правамоцнай, калі прысутнічае ня менш $^1/_3$ членаў або дэлегатаў.

## VI. Праўленьне раённага таварыства.

§ 17. Праўленьне раённага таварыства абіраецца раённай краязнаўчай конфэрэнцыяй тэрмінам на адзін год у ліку ня менш 5 асоб і 2 кандыдатаў, якія са свайго складу вылучаюць старшыню, намесьніка, скарбніка і сакратара.

*Увага 1:* Перавыбары ў праўленьне могуць быць зроблены і раней вызначанага тэрміну.

*Увага 2:* Аб складзе праўленьня і аб усіх зьменах у ім паведамляецца Раённы Выканаўчы Камітэт.

§ 18. Праўленьне раённага таварыства:

а) наглядае за выкананьнем пастаноў агульных сходаў;

б) сочыць за правільнасьцю дзейнасьці таварыства;

в) кіруе дзейнасьцю таварыства і яго членаў;

г) кіруе адміністрацыйна-фінансавымі і гаспадарчымі справамі таварыства;

д) робіць справаздачу перад агульным сходам таварыства, копію якой пасылае акруговаму таварыству краязнаўства.

е) організуе справу выдачы справак і тлумачэньняў па пытаньнях краязнаўства і вывучэньня раёну;

ж) дапамагае членам таварыства ў іх працы;

з) рэдагуе краязнаўчы часопіс, калі такі будзе выдавацца таварыствам;

і) захоўвае краязнаўчы матар'ял або перадае для апрацоўкі;

к) вядзе сьпіс сяброў таварыства з адзнакаю дзейнасьці кожнага;

л) прадстаўляе таварыства ва ўсіх яго справах;

м) вядзе ад імя таварыства перапіску;

н) ажыцьцяўляе пастановы агульнага сходу організацыі раённага цэнтру і раённых краязнаўчых конфэрэнцый;

о) зьбірае і выдае грашовыя сродкі ў вызначаным агульным сходам організацыі раённага цэнтру і раённай краязнаўчай конфэрэнцыяй кірунку;

п) нясе адказнасьць за кірунак і вынікі працы таварыства.

## VII. Рэвізійная камісія

§ 19. Рэвізійная камісія абіраецца раённай краязнаўчай конфэрэнцыяй у ліку ня менш 3-х асоб і 2 кандыдатаў адначасна з абраньнем праўленьня і на тэрмін апошняга.

§ 20. Рэвізійная камісія сочыць за выкананьнем ускладзеных на праўленьне абавязкаў, за правільнасьцю выдатку грашовых сродкаў, разьбірае скаргі на дзейнасьць праўленьня і справаздачу аб сваёй працы дае раённай краязнаўчай конфэрэнцыі.

## VIII. Ліквідацыя раённага таварыства.

§ 21. Раённае таварыства можа быць зачынена як загадам урадавых установ, так і пастановай раённай краязнаўчай конфэрэнцыі.

§ 22. У выпадку ліквідацыі таварыства праўленьне прадстаўляе аб гэтым даклад акруговаму таварыству краязнаўства, адбітак якога пасылае Цэнтральнаму Бюро Краязнаўства.

§ 23. Уся маёмасьць, што належала зачыненаму таварыству, паступае пад загад акруговага таварыства краязнаўства.

*Заснаваўцы:*

Зацьвярджаецца, як нормальны (прыкладны).
Зам. Наркомунуспраў *Кроль.*
Менск, 20 сьнежня 1926 г. № 15315.

# Статут

........................................ *Акруговага Таварыства Краязнаўства.*

## I. Мэты і задачы таварыства.

§ 1. ........................................ Акруговае Таварыства Краязнаўства мае мэтай:

а) усебаковае вывучэньне і даследваньне сваёй акругі ў грамадзка-экономічным, прыродна-географічным і культурна-гістарычным стасунках;

б) пашырэньне ведаў, зьвязаных з вывучэньнем і дасьледваньнем акругі;

в) абуджэньне зацікаўленасьці сярод шырокіх колаў грамадзянства да заданьняў таварыства і наогул да краязнаўства.

§ 2. Для ажыцьцяўленьня паказаных у § 1 заданьняў акруговае таварыства:

а) організуе сходы і конфэрэнцыі, на якіх заслухоўвае і абгаварвае даклады аб спосабах дасьледваньня і вывучэньня сваёй акругі і выніках яго;

б) організуе публічныя лекцыі, вечарыны, дыспуты і да т. п.;

в) організуе наглядданьні, зьбіраньне колекцый і матар'ялаў, экспэдыцыі, экскурсіі.

г) організуе лябораторыі, матэоролёгічныя і дасьледчыя станцыі, наглядальныя пункты (мэтэоролёгічныя, фэнолёгічныя і інш.), краязнаўчы музэй, пастаянныя і пэрыодычныя выстаўкі;

д) організуе бібліотэкі;

е) клапоціцца аб апублікаваньні сваіх прац альбо навуковай апрацоўцы сваіх матар'ялаў;

ж) кіруе дзейнасьцю раённых таварыстваў краязнаўства па пытаньнях вывучэньня іх раёнаў;

з) выдае краязнаўчы часопіс і зборнікі краязнаўчага зьместу;

і) склікае акруговую краязнаўчую конфэрэнцыю;

к) дапамагае стварэньню раённых таварыстваў і гурткоў краязнаўства;

л) у сваёй дзейнасьці кіруецца парадамі і паказаньнямі Цэнтральнага Бюро Краязнаўства;

м) выконвае пастановы ўсебеларускіх краязнаўчых зьездаў.

*Увага 1.* Паказаныя ў § 2 правы акруговае таварыства ажыцьцяўляе ў межах адпаведных законапалажэньняў.

§ 3. Акруговае таварыства краязнаўства мае сваю пячатку з надпісам: Беларуская Савецкая Социялістычная Рэспубліка ........................................ Акруговае Таварыства Краязнаўства.

## II. Склад акруговага таварыства краязнаўства.

§ 4. Членамі акруговага таварыства краязнаўства могуць быць:

а) заснаваўцы акруговага таварыства ў ліку ня менш 10 асоб;

б) кожны грамадзянін не маладзей 15 год і не пазбаўлены выборчага права, які згодзен з статутам таварыства, жадае працаваць для ажыцьцяўленьня яго заданьняў, падаў аб гэтым заяву ў праўленьне таварыства і прыняты агульным сходам членаў таварыства, што жывуць у вакруговым горадзе.

§ 5. Кожны член таварыства павінен весьці актыўную працу па выкананьні пастаўленых таварыствам заданьняў і ажыцьцяўляць усе пастановы акруговай краязнаўчай конфэрэнцыі агульнага сходу таварыства і праўленьня.

§ 6. Сьпіс членаў акруговага таварыства краязнаўства ў 2 экз. перадаецца ў Акруговы Выканаўчы Камітэт, у якім таварыства зарэгістравана.

§ 7. Член акруговага таварыства можа быць выключаны са складу таварыства па сваёй уласнай заяве аб гэтым, альбо толькі па пастанове агульнага сходу, прычым прычынай выключэньня ў гэтым выпадку можа быць учынак крымінальнага характару, альбо такі, які падрывае аўторытэт таварыства.

*Увага*: выключэньне са складу таварыства зацьвярджаецца акруговай краязнаўчай конфэрэнцыяй.

## III. Сродкі таварыства.

§ 8. Сродкі таварыства складаюцца:

а) з членскіх узносаў і ахвяраваньняў;

б) з субсыдый дзяржаўных і грамадзкіх устаноў аднаразовых альбо пастаянных:

в) з прыбыткаў ад продажы краязнаўчых выданьняў;

г) са збораў за ўваход на лекцыі, выстаўкі і вечарыны і г. д.

*Увага 1.* Велічыня членскіх узносаў вызначаецца агульным сходам членаў таварыства, што жывуць у вакруговым цэнтры, прычым апошні можа звальняць ад выплаты членскіх узносаў тых членаў, якія ня могуць заплаціць іх.

*Увага 2.* Члены акруговага таварыства, якія не заплацілі ў свой час вызначаных узносаў, лічацца выбыўшымі з ліку членаў таварыства. Але яны зноў уваходзяць у гурток пасьля ўнясеньня належных узносаў бяз новага абраньня.

§ 9. Сродкі акруговага таварыства выдаюцца праўленьнем. Справаздачы аб выдатках, разгледжаныя і зацьверджаныя агульным сходам членаў таварыства, што жывуць у акруговым горадзе, перадаюцца ў тую ўстанову, з якой ватрыманы грошы, а копія справаздачы захоўваецца ў справах таварыства.

## IV. Агульныя сходы акруговага таварыства краязнаўства.

§ 10. Агульны сход членаў таварыства, што жывуць у вакруговым горадзе, зьбіраецца ня менш аднаго разу ў 2 месяцы і склікаецца праўленьнем з папярэднім паведамленьнем Акруговага Выканаўчага

Камітэту за 3 дні да сходу. Справы на сходзе вырашаюцца простаю большасьцю галасоў.

§ 11. Агульны сход:

а) прыймае і выключае членаў таварыства;

б) зацьвярджае плян сэкцыйнай працы членаў таварыства, што жывуць у горадзе;

в) заслухоўвае справаздачы прэзыдыумаў сэкцый, камісій і інш., а таксама праўленьня;

г) заслухоўвае даклады адпаведна сваім мэтам і заданьням;

д) зацьвярджае грашовыя выдаткі, зробленыя згодна пляну свае працы;

е) організуе патрэбныя камісіі ў сэкцыях таварыства;

ж) абгаварвае проекты аб зьменах у статуце, якія зацьвярджаюцца ў агульным парадку.

§ 12. Агульны сход лічыцца правамоцным, калі прысутнічае ня менш $^1/_3$ членаў таварыства, што жывуць у вакруговым горадзе.

## V. Агульныя сходы сэкцый таварыства.

§ 13. Агульныя сходы сэкцый таварыства адбываюцца ня менш аднаго разу ў месяц і склікаюцца прэзыдыумам сэкцыі ці праўленьнем таварыства. Справы на сходзе вырашаюцца простаю большасьцю галасоў.

§ 14. Агульны сход сэкцыі:

а) узьнімае перад агульным сходам пытаньне аб прыёме і выключэньні членаў таварыства;

б) выбірае прэзыдыум сэкцыі;

в) зацьвярджае плян працы сэкцыі;

г) заслухоўвае дакады аб спосабах і выніках працы сэкцыі;

д) заслухоўвае і зацьвярджае справаздачу прэзыдыуму.

е) абірае дэлегатаў на акруговую краязнаўчую конфэрэнцыю.

§ 15. Агульны сход сэкцыі лічыцца правамоцным, калі прысутнічае ня менш $^1/_3$ членаў сэкцыі.

## VI. Акруговыя краязнаўчыя конфэрэнцыі.

§ 16. Акруговыя краязнаўчыя конфэрэнцыі зьяўляюцца вышэйшым органам акруговага таварыства краязнаўства і складаюцца з прадстаўнікоў краязнаўчых організацый акругі, а таксама дзяржаўных, грамадзкіх, профэсіянальных і партыйных установ у ліку, вызначаным праўленьнем і склікаюцца апошнім ня менш аднаго разу ў год.

§ 17. Конфэрэнцыя:

а) абірае праўленьне таварыства і рэвізійную камісію;

б) зацьвярджае выключэньне са складу таварыства;

в) разглядае і зацьвярджае справаздачы праўленьня аб яго дзейнасьці і дзейнасьці таварыства і пастановы рэвізійнай камісіі.

г) разглядае і зацьвярджае пляны далейшай працы таварыства, якія ўносіць праўленьне;

д) організуе сэкцыі і сталыя камісіі таварыства;

е) вызначае велічыню членскіх узносаў;

ж) зацьвярджае проекты каштарысаў;

з) абгаварвае даклады аб спосабах і выніках дзейнасьці таварыства;

і) абгаварвае проекты аб зьменах у статуце таварыства;

*Увага:* Прынятыя зьмены ў статуце зацьвярджаюцца ў палажаным парадку.

к) абгаварвае пытаньне аб зачыненьні таварыства.

§ 18. Усе справы на конфэрэнцыі вырашаюцца простай большасьцю галасоў апрача пытаньня аб яго зачыненьні, для вырашэньня якога патрэбна большасьць у 2/3 галасоў прысутных членаў. Пры роўнасьці галасоў пытаньне лічыцца адхіленым. Конфэрэнцыя лічыцца правамоцнай, калі прысутнічае 1/3 дэлегатаў.

## VII. Праўленьне акруговага таварыства.

§ 19. Праўленьне акруговага таварыства абіраецца акруговай краязнаўчай конфэрэнцыяй тэрмінам на адзін год у вызначаным конфэрэнцыяй ліку асоб, якія са свайго складу вылучаюць прэзыдыум з 5 членаў і 2 кандыдатаў, і вылучае сваіх прадстаўнікоў у сэкцыі.

*Увага 1.* Перавыбары ў праўленьне могуць быць зроблены і раней вызначанага тэрміну.

*Увага 2.* Аб складзе праўленьня і ўсіх зьменах у ім паведамляецца Акруговы Выканаўчы Камітэт.

§ 20. Праўленьне акруговага таварыства:

а) наглядае за выкананьнем пастаноў агульных сходаў і конфэрэнцый;

б) сочыць за правільнасьцю дзейнасьці таварыства;

в) кіруе дзейнасьцю раённых таварыстваў, сэкцый і камісій таварыства;

г) кіруе адміністрацыйна-фінансавымі і гаспадарчымі справамі таварыства;

д) робіць справаздачу перад агульным сходам таварыства, копію якой пасылае ЦБК;

е) організуе справу выдачы даведак і тлумачэньняў па пытаньнях краязнаўства і вывучэньня акругі;

ж) дапамагае членам таварыства ў іх працы;

з) організуе рэдагаваньне сваіх выданьняў;

і) захоўвае краязнаўчы матар'ял, або перадае для апрацоўкі;

к) вядзе сьпіс сяброў таварыства з адзнакаю дзейнасьці кожнага;

л) прадстаўляе таварыства ва ўсіх яго справах;

м) вядзе ад імя таварыства перапіску;

н) ажыцьцяўляе пастановы агульных сходаў і конфэрэнцый;

о) зьбірае і траціць грашовыя сродкі ў вызначаным агульным сходам і конфэрэнцыяй кірунку;

п) нясе адказнасьць за кірунак і вынікі працы таварыства;

р) вядзе падлік працы краязнаўчых організацый акругі;

с) дапамагае мясцовым краязнаўчым організацыям, а таксама музэям, архівам, бібліотэкам і д. т. п. у іх навукова-дасьледчай працы;

т) набліжае працу краязнаўчай сеткі да чарговых практычных задач савецкага культурна-гаспадарчага будаўніцтва;

у) пашырае краязнаўчую сетку акругі;

ф) падрыхтоўвае матар'ял да сходаў і конфэрэнцый;

х) выяўляе найбольш сутныя і чарговыя пытаньні краязнаўства акругі, на якіх павінна быць сконцэнтравана ўвага чарговай працы.

## VIII. Рэвізійная камісія.

§ 21. Рэвізійная камісія абіраецца акруговай краязнаўчай конфэрэнцыяй у ліку ня менш 3-х асоб і 2 кандыдатаў адначасна з абраньнем праўленьня і на тэрмін апошняга.

§ 22. Рэвізійная камісія сочыць за выкананьнем ускладзеных на праўленьне абавязкаў, за правільнасьцю траты грашовых сродкаў, разьбірае скаргі на дзейнасьць праўленьня і справаздачу аб сваёй працы дае акруговай краязнаўчай конфэрэнцыі.

## IX. Ліквідацыя акруговага таварыства.

§ 23. Акруговае таварыства можа быць зачынена як загадам урадавых устаноў, так і пастановай акруговай краязнаўчай конфэрэнцыі.

§ 24. У выпадку ліквідацыі таварыства праўленьне прадстаўляе аб гэтым даклад Цэнтральнаму Бюро Краязнаўства.

§ 25. Уся маёмасьць, што належала зачыненаму таварыству, пераступае пад загад Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.

# ХРОНІКА.

## Дзейнасьць Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.

Пасяджэньне 6 кастрычніка 1926 году. Заслуханы даклад т. Мяцельскага аб працы краязнаўчага гуртка пры Менскім Беларускім Пэдагогічным Тэхнікуме. У мэтах самападрыхтоўкі на сходах гуртка былі заслуханы даклады: 1) краязнаўства і яго задачы—Азбукіна; 2) зьбіраньне слоўнікавага матар'ялу — Некрашэвіча; 3) народная мэтэоролёгія і мэтэоролёгія наогул—Макарэўскага; 4) Беларусь і яе мінулае—Сербава; 5) антраполёгічныя вымеры ў часе зімовых вакацый—Сербава; 6) курганны кругабег і яго сьляды на Беларусі—Сербава; 7) вывучэньне быту селяніна—Сербава; 8) летняя праца студэнтаў па краязнаўстве—Азбукіна. За 1925-26 год гуртком сабрана каля 6.000 картак-слоў, 400 прымет аб пагодзе, каля 500 народных песень, весткі аб курганох і інш.

У пастанове па дакладзе прапанована гуртку: а) сыстэматызаваць і здаць ЦБК матар'ялы, сабраныя летам; б) зьвязацца з праўленьнем Менскага Акруговага Таварыства краязнаўства; в) прыняць удзел у працы Менскай Акруговай Краязнаўчай Конфэрэнцыі; г) прыцягнуць у склад гуртка студэнтаў настаўніцкіх курсаў; д) асьвятляць сваю працу ў часопісе „Наш Край“ і друку наогул; е) захоўваць плянавасьць у працы гуртка. Школьна-Краязнаўчай Сэкцыі ЦБК—высьветліць і ў належных установах вырашыць пытаньне аб сувязі вучэбных плянаў тэхнікумаў з краязнаўствам і ўвядзеньні ў вучэбны плян краязнаўства, як прадмету.

Менскаму Акруговаму Таварыству Краязнаўства—зацікавіцца краязнаўчаю працаю ў Яўрэйскім і Польскім пэдтэхнікумах і заслухаць іх даклады.

У бягучых справах, пастанавілі: а) у сувязі з перарэгістрацыяй членаў краязнаўчай сеткі, зрабіць перарэгістрацыю навуковых і краязнаўчых устаноў і організацый і сьпіс іх апублікаваць у „Нашым Краі“, б) сьпіс паступаючых матар'ялаў апавяшчаць час ад часу ў „Нашым Краі“, в) даручыць т. т. Клысу і Касьпяровічу пэрыодычна асьвятляць стан краязнаўства ў замежным друку.

*Пасяджэньне 13 кастрычніка.*

Заслухана справаздача інструктара ЦБК Атраховіча аб абсьледваньні краязнаўчай працы на Аршаншчыне. Пасьля летняга перапынку краязнаўчая праца значна ажыла як у вакруговым цэнтры, так і ў раёнах. Для ўсебаковага вывучэньня вылучан у вакрузе Дубровенскі раён. Выбар ня зусім удалы, бо ў самым раёне няма моцнай краязнаўчай організацыі.

Па справаздачы пастанавілі: прасіць Акруговае Праўленьне зьвярнуць асаблівую ўвагу на організацыю вывучэньня Дубровенскага раёну; узмацніць сувязь з ЦБК. Прасіць Аршанскі Акруговы Выканаўчы Камітэт аб перадачы адпаведных памяшканьняў пад Аршанскі Музэй, прычым выказацца за організацыю ў Воршы адзінага Краёвага Музэю. Паведаміць соцыяльна-гістарычную сэкцыю Інбелкульту аб знахадцы рэштак маманта ў Аршаншчыне і прасіць яе прыняць меры да вы-

сылкі Аршанскаму Таварыству 50 рублёў на дасьледваньне знахадкі.

У другім дакладзе т. Клыс знаёміць з краязнаўчай працай сярод польскай насельнасьці. У цэнтры дагэтуль рабілася мала, на мясцох— амаль нічога. Друкаваліся некаторыя кіраўнічыя артыкулы ў газэце „Млот“.

Па дакладзе пастанавілі: раіць акруговым праўленьням організаваць першапачатковыя польскія гурткі, а там, дзе праца разгарнулася—сэкцыі для кіраваньня ёю; організаваць такія гурткі ў першую чаргу пры Польскім Пэдагогічным Тэхнікуме, польскіх сямігодках і польскіх нацыянальных саветах. Апрача кіраўнічых артыкулаў у газэтах: „Орка“, „Гвязда Млодзежы“ і часопісе „Наш Край“, паслаць ад імя Поль. Бюро Наркамасьветы ліст да больш актыўных настаўнікаў з заклікам да працы. Зрабіць гэта даручыць тав. Клысу. Раіць акруговым праўленьням уцягнуць у склад таварystваў інспэктароў полькультуры і адбіваць працу польскіх гурткоў у справаздачах і друку. У бягучых справах пастаноўлена прасіць краязнаўчыя організацыі прыслаць фотографіі зьездаў, асобных краязнаўцаў, розныя зарысоўкі, гістарычныя даведкі і ўсё іншае, што мае дачыненьне да гісторыі краязнаўства і організацый.

*Пасяджэньне 27 кастрычніка 1926 г.*

Рэдактар часопісу „Наш Край“ тав. Бядуля ў дакладзе аб часопісе зазначыў, што згодна водгукаў чытачоў часопіс зьяўляецца грамадзкім па сваім характары з захаваньнем, аднак, пэўнай навуковасьці. Об‘ектыўныя ўмовы друку не даюць магчымасьці выпушчаць часопіс акуратна. За ўвесь час надрукавана 30 аркушаў, у друку знаходзіцца 12 аркушаў. Надрукавана артыкулаў: прыродазнаўчых—30, географічных—6, гістарычных—7, аб помніках старасьветчыны—10, быту, гігіены, санітарыі, народнай мэдыцыны, мовы—8, мастацтва—4, мэтодычных артыкулаў па краязнаўстве—12, програм, інструкцый і анкет—25, хроніка 135, бібліографія—398.

Пэрспэктывы атрыманьня матар‘ялаў досыць здавальняючыя.

Па дакладзе пастаноўлена адзначыць, што часопіс мае належны характар і месцы здавальняе; галоўным недахопам зьяўляецца нерэгулярнасьць выхаду, а таксама падвойнасьць нумароў і малы лік мэтодычных артыкулаў і матар‘ялаў з месц. Каб зьнішчыць гэтыя недахопы, пастаноўлена: 1) прасіць Прэзыдыум Інбелкульту прапанаваць Выдавецкаму Аддзелу паклапаціцца аб рэгулярным выхадзе часопісу; 2) павялічыць мэтодычныя матар‘ялы; 3) увесьці аддзел мэтодыкі організацыі і аддзел школьнага краязнаўства; 4) павялічыць аддзел бібліографіі, а таксама лік матар‘ялаў з месц і гістарычна-культурны ды экономічны аддзелы.

*Пасяджэньне 29 кастрычніка 1926 году.*

Т. т. Казак і Аляксандраў зрабілі даклады першы аб Слуцкай акруговай Краязнаўчай Конфэрэнцыі, а другі аб Бабруйскай.

Пасьля абгаварэньня дакладаў было пастаноўлена: а) адзначаючы дадатныя бакі справы: організацыя музэяў, выяўленьне актыву, разгортваньне організацыйнай працы, організацыя яўсэкцый і г. д., канстатаваць, што акруговыя праўленьні слаба кіравалі працаю мясцовых організацый, ня было належнага падліку і палянавасьці працы, праца вялася выпадкова, слаба ўцягваліся ў краязнаўчыя організацыі сялянскі актыў і члены іншых саюзаў, апрача працаўнікоў асьветы, мала аддавалася ўвагі організацыі гурткоў пры школах павышанага тыпу, з боку Бабруйскага Акруговага Таварыства ня было дапамогі Асіпавіцкаму Раённаму Таварыству ў справе дасьледваньня раёну.

*Пасяджэньне 4 лістапада 1926 г.*

Заслухан, даклад т. Атраховіча аб Мазырскай Акруговай Краязнаў-

чай Конфэрэнцыі і аб стане краязнаўчай справы на Полаччыне.

Полацкае Таварыства Краязнаўства арганізацыйна не ўмацавалася. З сэкцый вядзе працу Прыроднагеографічная. Гурток пры Лестэхнікуме вядзе працу пад кіраўніцтвам настаўніка Соракса і мае значныя вынікі. У Валынецкім Раённым Таварыстве праца наладжваецца і ёсьць добрыя ўмовыя для яе разьвіцьця.

Краязнаўчая праца на Мазыршчыне значна ўмацавалася і пашырылася арганізацыйна, але яшчэ патрабуе паглыбленьня.

На Конфэрэнцыі прысутнічала каля 35 дэлегатаў. Конфэрэнцыя працавала продукцыйна. Усе пытаньні абгаварваліся стала, грунтоўна.

У пастанове па дакладу прапанована Полацкаму Акруговаму Таварыству ажывіць сваю працу, кіруючыся пастановамі Пленуму ЦБК і наогул.

*Пасяджэньне 10 лістапада 1926 г.*

Заслухана інформацыя тав. Вяршука аб організацыі прыродазнаўчага музэю Інбелкульту. Пастаноўлена прасіць Прыродазнаўчую сэкцыю ІБК хутчэй укласьці інструкцыі для збору колекцый па ботаніцы і геолёгіі і прасіць краязнаўчыя арганізацыі прыслаць у Інбелкульт для музэю дублеты сваіх экспонатаў, а таксама зрабіць сьпісы экспонатаў сваіх музэяў і прыслаць іх у Цэнтральнае Бюро Краязнаўства.

Другую інформацыю аб працы Фольклёрна-дыялектолёгічнай камісіі Інбелкульту зрабіў т. Шлюбскі.

Сабрана пры дапамозе Цэнтральнага Бюро Краязнаўства матар'ялу на 72 друкаваных аркушох. Матар'ял рознай якасьці. Апрача сабранага краязнаўчымі організацыямі, ёсьць матар'ял паасобных дасьледчыкаў— Раманава і іншых. Камісія складае і мае выдаць дыялектолёгічную програму, а таксама мае пераглядзець програмы збору фольклёру і выявіць хібы сабранага матар'ялу.

Пастаноўлена прасіць Камісію азнаёміцца з сабранымі матар'яламі, адказаць на лісты запішчыкаў і даць у „Наш Край" мэтодычныя заўвагі аб тыповых памылках запісу і інформацыю аб сваёй працы; прасіць хутчэй укласьці дыялектолёгічную інструкцыю і зьмясьціць у „Нашым Краі"; прасіць Камісію зазначыць у інструкцыях патрэбу збору фольклёрнага матар'ялу і працаўнікамі нацменшасьцяй на адпаведных мовах.

Трэцім аб працы Менскага Акруговага Таварыства Краязнаўства зрабіў даклад т. Серафімаў.

Таварыства аформлена, як акруговае. Праведзена акруговая конфэрэнцыя, якая прайшла досыць актыўна. Зацікаўленасьць да працы на мясцох вялікая. У горадзе справа значна горш стаіць. Маецца на ўвазе організаваць акруговы музэй і раённыя, аб чым ёсьць пастановы конфэрэнцыі.

Пастаноўлена прапанаваць Менскаму таварыству ажывіць працу сэкцый, наладзіць краязнаўчую працу сярод нацменшасьцяй, прыняць меры да падрыхтоўкі выданьня зборніка „Меншчына".

*Пасяджэньне 18 лістапада 1926 г.*

Заслуханы даклад тав. Казака аб Магілеўскай Акруговай Краязнаўчай Конфэрэнцыі і тав. Касьпяровіча аб сходзе Таварыства Краязнаўства пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце і стане краязнаўчай справы ў вышэйшых школах. Па апошнім дакладзе пастаноўлена організаваць студэнцкую камісію ЦБК у складзе: Касьпяровіча, Атраховіча, Сянькевіча, Аніхоўскага, Мяцельскага, Чадовіча і прадстаўніка Горацкай С.-Г. Акадэміі.

*Пасяджэньне 26 лістапада 1926 г.*

Заслуханы даклад тав. Атраховіча аб Барысаўскай Акруговай Краязнаўчай Конфэрэнцыі і аб працы Крупскага і Смалявіцкага Раённых Таварыстваў Краязнаўства. Пасьля абмеркаваньня гэтага дакладу было пастаноўлена прызнаць, што краязнаўчая праца па Барысаўшчыне разгарнулася організацыйна досыць

шырака, аднак значных вынікаў у практычнай навукова-дасьледчай працы з боку акруговага таварыства мала. Быў ухіл у бок адміністраваньня, аб чым сьведчаць шмат якія адносіны і загады акруговага таварыства.

Прапанаваць акруговаму таварыству выправіць лінію кіраваньня, узяўшы курс на сталую плянавую навукова-дасьледчую працу і даўшы большую ініцыятыву мясцом у вывучэньні свае тэрыторыі.

Працу Крупскага Таварыства прызнаць слабай.

Адзначыць значныя дасягненьні ў працы і правільнае разуменьне краязнаўчай справы з боку Смалявіцкага Раённага Таварыства Краязнаўства.

Пасьля гэтага зрабіў даклад аб падрыхтоўцы да дэмографічнага перапісу тав. Шастакоў. Па гэтым дакладзе было пастаноўлена заклікаць усе краязнаўчыя організацыі да самага актыўнага ўдзелу ў дэмографічным перапісе; па магчымасьці скарыстаць матар'ялы перапісу працы па вывучэньні Краю; прасіць ЦСУ прапанаваць камітэтам па дапамозе перапісу не рабіць перашкод краязнаўчым організацыям у вывучэньні матар'ялаў; прасіць ЦСУ пасьля перапісу перадаць карты мясцовасьцяй перапісу мясцовым краязнаўчым організацыям; у каляндарны плян працы ЦБК унесьці пытаньне аб скарыстаньні матар'ялаў перапісу для вывучэньня краю; прасіць ЦСУ на ўсе нарады і зьезды па пытаньнях перапісу запрашаць прадстаўніка ЦБК.

*Пасяджэньне 1 сьнежня 1926 г.*

Заслухалі даклад тав. Бялугі аб Віцебскай Акруговай Краязнаўчай Конфэрэнцыі.

У працы Конфэрэнцыі прымала ўдзел каля 100 асоб, з якіх 24—прадстаўнікі з раёнаў. Конфэрэнцыя прайшла жыва. Уносілася шмат практычных указаньняў, якія прыдзецца прыняць пад увагу. Была зазначана нявыразнасьць узаемаадносін паміж акруговымі таварыствамі, раённымі і ЦБК, а таксама дрэнная сувязь акруговага т-ва з ЦБК.

Па дакладзе пастанавілі адзначыць, што да гэтага часу мала зроблена Віцебскім Акруговым Таварыствам па ўцягненьні ў працу новых сіл, раіць паставіць працу на плянавы шлях: узмацніць сувязь з раённымі таварыствамі; у бліжэйшы час вылучыць тыповы раён і прыступіць да вывучэньня яго.

*Пасяджэньне Пленуму Цэнтральнага Бюро Краязнаўства 8-га сьнежня 1926 году.*

Заслуханы даклад тав. Казака аб скліканьні ўсебеларускага краязнаўчага зьезду.

Пашыраны пленум ЦБК даў заданьне склікаць у студзені—лютым 1927 году ўсебеларускі краязнаўчы зьезд. Прэзыдыум ЦБК лічыць неабходным склікаць зьезд каля 10 лютага з 144 дэлегатаў ад навукова-краязнаўчых організацый БССР, ЦБК РСФСР, ЦБК УССР, Гомелю і Смаленску, а таксама 56 чал. членаў ЦБК, пленуму ЦБК і цэнтральных установ і організацый. Зьезд—працягам 3—5 дзён. На зьезьдзе павінен працаваць пленум і 5 сэкцый для разгляду 14 дакладаў. Пры абгаварэньні дакладу былі выказаны такія думкі:

*Проф. Ленц.*—Неабходна ў антрополёгічных досьледах зьвязацца з месцамі, як напр., у пытаньнях нормы росту беларуса і д. т. п. Трэба ўнесьці ў парадак працы Прыр.-геогр. сэкцыі хоць-бы невялічкі даклад аб працы Антрополёгічнай камісіі і задачах антрополёгічнага дасьледваньня.

*Проф. Жарынаў.*—Трэба ў працу Школьна-краязнаўчай сэкцыі ўнесьці пытаньні практычных дасягненьняў, як прыклад іншым школам—„Дасьледваньне экономічна-прамысловых прадпрыемстваў", „Сувязь краязнаўчай працы з перападрыхтоўкай", „Экспэдыцыі выкладчыкаў па дасьледваньні краю" і інш.

*Проф. Тэрлецкі.* — Неабходна

ўнесьці інформацыйны даклад аб зборы геолёгічных матар'ялаў пры дапамозе краязнаўцаў.

*Гайвароўскі.*—Трэба ўнесьці даклад: „Дасьледваньне кола рэальных прадстаўленьняў, як краязнаўчая проблема".

*Бялуга.*—Павялічыць колькасьць пытаньняў нельга, бо нельга працягнуць зьезд на большы час. Трэба абгаварыць і, калі можна зьмяніць прапанаваны парадак, дык гэта зрабіць.

*Родзевіч.*—Пры рассылцы запросін на зьезд прапанаваць мясцовым працаўнікам падрыхтаваць даклады па тых ці іншых галінах краязнаўства і ў часе зьезду зачытаць іх на сходах сэкцый Інбелкульту.

*Аляксандраў.*—Даклады разьмяркованы між працаўнікамі з цэнтру; трэба запрасіць, хто можа зрабіць іх з месц і даць ім даклады.

*Казак.*—Калі камісіі і сэкцыі Інбелкульту хочуць мець матар'ял з месц—трэба распрацаваць анкеты і праз ЦБК зьвярнуцца да месц. Дакладчыкаў з месц цяжка прыцягнуць.

Пасьля абгаварэньня дакладу было пастаноўлена:

Тэрмін зьезду зацьвердзіць на 10 лютага, зацьвердзіць модус прадстаўніцтва выпрацаваны оргкамісіяй:

а) ад усіх акруговых таварыстваў па 2 дэл.,

б) ад усіх раённых таварыстваў па 1 дэл.,

в) ад гурткоў: Рагачэўскага Пэдтэхнікуму, Чырвонабярэскага Агропэдтэхнікуму, Аршанскага Рабфаку, Сельгасакадэміі, Вэтінстытуту, Мастацкага Тэхнікуму, Віцебскага Коопэрацыйнага Тэхнікуму, Віцебскага аб'яднаньня чыгуначных школ, Магілеўскага Пэдтэхнікуму, Магілеўскай Савецка-Партыйнай школы, Магілеўскага Каморніцкага Тэхнікуму, Барысаўскага Пэдтэхнікуму, Полацкага Лестэхнікуму, Полацкага Пэдтэхнікуму, Мсьціслаўскага Пэдтэхнікуму, Мазырскага Пэдтэхнікуму, Слуцкіх Агульнаадукацыйных курсаў—па 1 дэл.,

г) Віцебскага Аддзяленьня Бел. Дзярж. Музэю, Магілеўскага Аддзяленьня Бел. Дзярж Музэю і Аршанскага Сельгасмузэю—па 1 дэл.,

д) Горацкага Навуковага Таварыства—1 дэл.,

е) Гомельскага Губ. Бюро Краязнаўства, Смаленскага Таварыства Краязнаўства, Бельскага Таварыства Краязнаўства і Рэчыцкага Таварыства Краязнаўства—па 1 дэл.

ж) ЦБК РСФСР, ЦБК УССР—па 1 дэл.,

Ад Менскіх устаноў і організацый запрасіць: ад Бел. Дзярж. Музэю—1 дэл., ад Цэнтраархіву—1, ад Яўпэдтэхнікуму — 1, Польпэдтэхнікуму—1, Камун. Унівэрсытэту—1, Гідратэхнікуму—1, Т-ва БДУ—2, Чыгуначнага аб'яднаньня—1, ад Белпэдтэхнікуму—1, а ўсяго 144 дэлегаты з месц і 56 дэлегатаў членаў ЦБК і пленуму ЦБК, што разам складзе 200 дэлегатаў.

Парадак дня зьезду зацьвердзіць наступным:

*Пленум*: (першы вечар).

1. Міжнароднае становішча.

(Першы дзень і другі вечар).

2. Справаздача ЦБК — даклад т. Казака.

3. Дзейнасьць краязнаўчай сеткі БССР—даклад М. Касьпяровіча.

(Другі дзень).

*Грамадзка-экономічная сэкцыя.*

1. Гаспадарча-экономічнае вывучэньне вёскі—даклад т. Кісьлякова.

2. Вывучэньне саматужнай прамысловасьці краю—даклад т. Рака.

*Прыродна-географічная сэкцыя:*

1. Зьбіраньне матар'ялаў у географічны слоўнік—даклад т. Азбукіна.

2. Мэтэоролёгічныя і фэнолёгічныя нагляданьні—даклад т. Макарэўскага.

*Культурна-гістарычная сэкцыя:*

1. Укладаньне археолёгічнай карты краю—даклад т. Даўгялы.

2. Зьбіраньне матар'ялу па гісто-

рыі рэволюцыйнага руху—даклад т. Жылуновіча.

*Сэкцыя школьнага краязнаўства.*

1. Краязнаўства ў школе—даклад т. Шапялевіча.
2. Краязнаўства ў вышэйшых школах—даклад т. Сянкевіча.
3. Экскурсіі з вучнямі ў прамысловыя прадпрыемствы — даклад т. Самцэвіча.

*Яўрэйская сэкцыя.*

1. Вывучэньне сучаснага мястэчка—даклад т. Аляксандрава.

(Трэці дзень).

1. Організацыя і тып краязнаўчага музэю—т. Аляксандраў.
2. Зацьверджаньне рэзолюцый пленуму і сэкцый.

Аб інформацыях, якія жадаюць зрабіць тыя ці іншыя камісіі і сэкцыі ІБК, запрасіць апошнія і па іх пісьмовых адказах—Оргкамісіі вырашыць пытаньне аб уключэньні іх у парадак дня.

Прасіць мясцовыя краязнаўчыя організацыі вылучыць дакладчыкаў па дакладзе „Організацыя і тып краязнаўчага музэю“ і прапанаваць ім тэрмінова выслаць тэзісы ў ЦБК.

Прасіць організацыі паведаміць, якія пытаньні пажадана яшчэ разглядзець на зьезьдзе.

Другім быў заслуханы даклад—тав. Азбукіна аб улажэньні беларускага географічнага слоўніка і беларускай географічнай номэнклятуры.

Па дакладзе было пастаноўлена: прызнаць працу вельмі патрэбнай і прасіць Географічную камісію зацьвердзіць проект пляну працы ў Прэзыдыуме і Навуковай Радзе ІБК, а збор беларускай номэнклятуры пачаць па распрацоўцы інструкцыі.

*Пасяджэньне 15 сьнежня 1926 г.*

Заслуханы даклад т. Азбукіна аб стане вывучэньня Асіпавіцкага раёну, пасьля чаго было пастаноўлена прасіць т. т. Рагавога, Тэрлецкага, Макарэўскага, Г. Гарэцкага і іншых аўтараў хутчэй падрыхтаваць для друку матар'ялы, якія зьявіліся ў выніку абсьледваньня Асіпавіцкага раёну.

## 3-я Віцебская Сьветазнаўчая Конфэрэнцыя.

23 лістапада 1926 году ў г. Віцебску адбылася 3-я Віцебская Сьветазнаўчая Конфэрэнцыя, сазваная Сэкцыяй Сьветазнаўства Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства. На Конфэрэнцыі прысутнічала каля 135 ясоб. На парадку дня Конфэрэнцыі стаялі наступныя пытаньні:

1) Справаздача аб працы сэкцыі.

2) Мэтэоролёгія і мэтэоролёгічныя назіраньні—даклад т. Ганіпроўскага.

3) Народныя прыметы аб пагодзе—даклад тав. Васкрасенскага.

4) Радыё, як праваднік культуры і ведаў—даклад тав. Рудкоўскага.

За справаздачны пэрыод Сэкцыя зрабіла значную популярызатарскую работу — у рабочых клюбах, чырвонаармейскіх часьцях і вучэбных установах прачытана больш дваццаці навукова-популярных лекцый таварышамі: Брадоўскім, Усьпенскім, Угорэцам, Сямеўскім і іншымі. Апрача гэтага быў зьмешчаны цэлы шэраг артыкулаў навукова-популярнага характару ў газэтах.

Агульных сходаў Сэкцый адбылося 25, на якіх заслухана каля 35 навуковых дакладаў. З бюро Сэкцый працавалі галоўным чынам Астранамічнае і Прыродазнаўчае. Радыё-бюро амаль ніякай працы не зрабіла, дзеля чаго і вынікла пытаньне аб яго ліквідацыі. Усе назіраньні Сэкцыі пасьля папярэдняй апрацоўкі і сыстэматызацыі пасылаліся ў „Русское Общество Любителей Мироведения“ ў Ленінградзе, у Акадэмію Навук СССР і ў Цэнтральнае Бюро Краязнаўства БССР і РСФСР.

У працы Сэкцыі перашкаджалі: недахоп сродкаў, малы лік навуковых працаўнікоў і, галоўным чынам, тое, што ня было обсэрваторыі.

## Першая Мазырская Акруговая Краязнаўчая Конфэрэнцыя.

Конфэрэнцыя адчынілася 24 кастрычніка мінулага году і зачынілася 26-га. На Конфэрэнцыю зьявілася 18 дэлегатаў ад раёнаў і 15 дэлегатаў ад гораду. Парадак Конфэрэцыі быў наступны: 1) Савецкае будаўніцтва і роля краязнаўства (даклад т. Зіміна, прадстаўніка Мазырскага Акругкому); 2) Стан краязнаўства на Мазыршчыне і чарговыя задачы краязнаўства на падставе пастаноў ЦБК (даклад т. Крукоўскага і садаклад прадстаўніка ЦБК т. Атраховіча); 3) Праца краязнаўчых організацый у галіне экономічнай (даклад тав. Балабанава, прадстаўніка Акрпляну); 4) Сэкцыйная праца (разгляд тэзісаў аб працы ў галінах: природнагеографічнай, мовазнаўчай і гістарычна-археолёгічнай); 5) прыняцьце статуту, выбары праўленьня і рэвізійнай камісіі.



Першая Мазырская Акруговая Краязнаўчая Конфэрэнцыя.

У сваім дакладзе аб стане краязнаўчай працы на Мазыршчыне т. Крукоўскі зазначыў, што Мазырскае Акруговае Т-ва да ліпня месяца не вяло сталай працы і, каб ажывіць працу, зрабіць яе плянавай, сыстэматычнай, была паднята кампанія ў друку, былі праведзены раённыя краязнаўчыя конфэрэнцыі з удзелам прадстаўнікоў ад акруговага т-ва, ставіліся пытаньні аб краязнаўчай працы ў аўторытэтных акруговых установах.

Цяпер па акрузе ёсьць т-ва краязнаўства ў кожным раёне. Ёсьць па акрузе 34 пункты, у якіх вядуцца мэтэоролёгічныя, або фэнолёгічныя назіраньні. Вяліся досьледы карысных выкапняў, знойдзена балотная жалезная руда, добрая гліна і месцам бурштын. У некаторых мясцох былі зроблены геолёгічныя досьледы, для чаго скарысталі выпадак, як капалі артэзіянскую студню глыбінёю ў 650 футаў, і

ўзялі ўзоры слаёў. Сфотографаваны некаторыя помнікі старасьвеччыны, сабрана больш за 2.000 слоў, 200 узораў народнай творчасьці і 50 розных монэт. Набыты некаторыя дапаможныя прылады па працы ў геолёгічнай і мэтэоролёгічных галінах. Праца акруговага т-ва ўвязваецца з працаю Акрпляну і Статуправы. У акруговым т-ве існуюць сэкцыі: прыродна-географічная, мовазнаўчая, гістарычна - археолёгічная, экономічная і яўрэйская. З гэтых сэкцый працы яшчэ не вяла Экономічная, а таксама Яўрэйская сэкцыя.

З раённых т-ваў лепш за ўсё працуе Тураўскае і зусім не працуе Калінкавіцкае.

Т. Балабанаў у сваім дакладзе аб працы краязнаўчых організацый у экономічнай галіне спыніўся на разьвіцьці прамысловасьці ў Мазыршчыне і паказаў на магчымасьць разьвіцьця смалакурэньня і ганчарнай прамысловасьці. Краязнаўчым організацыям неабходна выяўляць сырцовыя рэсурсы і гэтым дапамагаць разьвіцьцю мясцовай прамысловасьці.

У канцы Конфэрэнцыі быў зацьверджаны статут акруговага т-ва краязнаўства, які падпісалі ўсе прадстаўнікі раённых т-ваў. Была яшчэ прынята пастанова аб пераорганізацыі самога акруговага т-ва і было вырашана заміж існуючых утварыць сэкцыі: прыродна - географічную, грамадзка-экономічную, культурна-гістарычную і яўрэйскую.

У новае акруговае праўленьне т-ва краязнаўства абрана 11 чалавек.

Конфэрэнцыя прайшла досыць актыўна: па некаторых дакладах выступала ў спрэчках да 20 асоб.

## Магілеўская Акруговая Краязнаўчая Конфэрэнцыя

Конфэрэнцыя адбылася 14 лістапада мінулага году. Прысутнічала 35 дэлегатаў. Былі заслуханы: 1) справаздача праўленьня акруговага т-ва; 2) справаздача рэвізійнай камісіі; 3) справаздачы Быхаўскага, Лупалаўскага і Прапойскага раённых т-ваў; 4) мэты і задачы краязнаўства—даклад прадстаўніка ЦБК; 5) плян працы акруговага т-ва на наступны год і мэтоды краязнаўчай працы—даклад сакратара т-ва т. Ламакі; 6) Магілёўшчына, як об'ект вывучэньня—даклад т. Мацьвяёнка. На конфэрэнцыі было пераабрана праўленьне акруговага т-ва з 11 сяброў і трох кандыдатаў і рэвізійная камісія ў ліку 3 сяброў і 2-х кандыдатаў.

Са справаздачы праўленьня акруговага т-ва відно, што краязнаўчая праца праводзілася па сэкцыях: 1) прыродазнаўчай, 2) экономічнай, 3) этнографічнай, 4) гістарычнай, 5) вучнёўскіх організацый, 6) яўрэйскай і 7) польскай. Сэкцыямі сабраны матар'ялы для зборніка „Магілеўшчына“. Дзейнасьць праўленьня за мінулы год заключалася ў організацыйнай і мэтодычнай працы па аформленьні раённых краязнаўчых т-ваў і гурткоў і ў шырокай популярызацыі краязнаўчай працы сярод асьветнікаў. З гэтай мэтай даволі поўна абслужаны настаўніцкія курсы, якія былі ў Магілеве летам. На курсах былі прачытаны дзьве лекцыі Шчакаціхіна і Аляксандрава, 2 лекцыі т. Атраховіча і праведзена 10 краязнаўчых экскурсій.

Конфэрэнцыя прызнала, што ў працы акруговага т-ва побач з дасягненьнямі ёсьць і значныя недахопы. Дасягненьні: 1) т-вам уцягнута ў працу найбольш актыўная частка настаўніцтва; 2) праведзена значная організацыйная праца па ўтварэньні раённых т-ваў і гурткоў і іх падпарадкаваньні акруговаму т-ву; 3) своячасова даюцца заданьні раённым т-вам і ёсьць мэтодычнае кіраўніцтва працай раённых т-ваў; 4) устаноўлена сувязь з Плянавай Дзяржаўнай камісіяй, Статбюро і Комсамолам. Недахопы ў працы: 1) адсутнічае дакладны падлік складу краязнаўчых організацый; 2) няма

рэгулярнай сувязі з раёнными т-вамі; 3) слаба ўцягнуты ў краязнаўчую працу партыйцы, комсамольцы і сябры іншых саюзаў; 4) мала вывучаецца экономіка г. Магілева; 5) малая каштоўнасьць слоўнікавага матар'ялу, які зьбіраецца прысьпешаным парадкам і 6) праца краязнаўчых організацый на Магілеўшчыне мала высьвятляецца ў друку.

На будучы час конфэрэнцыя пастанавіла, каб акруговае праўленьне: 1) правяло перарэгістрацыю сяброў краязнаўчых організацый; 2) дабілася ўстанаўленьня цеснай сувязі раённых т-ваў з акруговым; 3) паставіла працу раённых т-ваў па конкрэтнаапрацаваным пляне; 4) наладзіла шырокую популярызацыю краязнаўства сярод рабочых і сялян; 5) узяла рашучы кірунак на організацыю раённых музэяў; 6) пачало больш сур'ёзна і сыстэматычна зьбіраць слоўнікавы матар'ял і 7) наладзіла сувязь краязнаўчых т-ваў з краязнаўчымі гурткамі пры школах.

Па дакладзе прадстаўніка ЦБК т. Казака аб мэтах і задачах краязнаўства Конфэрэнцыя, прызнаўшы надзвычайна вялікае значэньне краязнаўчай працы ў соцыялістычным будаўніцтве і адзначыўшы шпаркі ўзрост краязнаўчых організацый па БССР, пастанавіла: зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўцягненьне ў гэту працу моладзі, узмацніць і павялічыць краязнаўчую сетку, канчаткова ўстанавіць пэўную структуру краязнаўчых організацый.

Плян працы акруговага т-ва на наступны год Конфэрэнцыя зацьвердзіла, як пэрспэктыўны і даручыла Праўленьню на падставе гэтага пляну даваць раённым т-вам конкрэтныя заданьні па кварталах году.

Склад новага праўленьня: Мацьвяёнак, Вокунь, Грушэцкі, Аврбах, Ларычкаў, Ламака, Бычкоў, Вянюкоў, Ляшчынскі, Лаўрэнцьцеў і Галадкоўскі. Кандыдаты: Сілкін, Ждановіч і Сушчынскі. Рэвізійная камісія: Машкоўскі, Шклярэўскі і Беларусаў. Кандыдаты: Камірскі і Выдрыцкі.

## Краязнаўчы гурток пры Магілеўскай Савецка-партыйнай школе II ст.

Гурток заснаваўся 26 красавіка 1926 г. Зараз у яго складзе 36 сяброў. Праца вядзецца па дзьвюх сэкцыях: мовы (кіраўнік Радаман) і экономікі (кіраўнік Ларычкаў), гурток заснаваў пры школе краязнаўчы музэй з нумізматычным і батанічным аддзеламі. Сябрамі гуртка, апрача гэтага, сабрана больш 1.000 слоў жывой мовы.

## Гурток пры Магілеўскім пэдтэхнікуме.

Гурток заснаваўся ў кастрычніку 1926 г. У працу ўцягнуты ўсе студэнты. Праца вядзецца па сэкцыях: мовазнаўчай (80 студэнтаў, кіруе наст. Гарбацэвіч), фольклёрнай (40 студ., кіруе наст. Зярэніна) і гістарычнай (60 студ., кіруе наст. Мацьвяёнак). Сходы сяброў гуртка адбываюцца рэгулярна кожны тыдзень. На сходах заслухоўваюцца і абгаварваюцца даклады, а сакратары сэкцый вядуць вучот працы.

Мовазнаўчая сэкцыя зьбірае і апрацоўвае слоўнікавы матар'ял.

Фольклёрная сэкцыя зьбірае і вывучае мясцовыя замовы, прыказкі, пагаворкі і звычаі пры сьвяткаваньні каляд.

Гістарычная сэкцыя вывучае кастрычнік на Магілеўшчыне, сялянскія рухі краю, прывілеі г. Магілева. Для гэтай працы студэнты наведваюць акруговы архіў і музэй.

## Гурток пры Магілеўскім Каморніцка-Землеўпрадкавальным тэхнікуме.

Гурток заснаваны 29/XI-25 г. Цяпер у ім лічыцца 68 сяброў. Працай кіруе настаўнік Ламака. Заняткі ад-

бываюцца кожны тыдзень. Гуртком сабрана колекцыя лекавых расьлін, пустазельля, карысных выкапняў Магілеўшчыны, 9.700 слоў жывой мовы, 156 песень, шмат казак, пагаворак, замоў і г. д.

У сваёй працы гурток зьвязан з краязнаўчым гуртком пры Мэдтэхнікуме. Там налічваецца 120 сяброў гуртка і кіруе гуртком наст. Ламака. Агульныя сходы гэтага гуртка адбываюцца супольна са сходамі гуртка пры Каморніцкім тэхнікуме. Пляны працы і тэмы заданьняў аднолькавыя ў абодвых гурткоў.

## Становішча краязнаўчай працы па Бабруйскай акрузе.

22—23 кастрычніка мінулага году ў г. Бабруйску адбылася акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя, у якой прынялі ўдзел усе раённыя краязнаўчыя т-вы. Перад акруговай конфэрэнцыяй былі праведзены раённыя краязнаўчыя конфэрэнцыі. Гэта забясьпечыла актыўны ўдзел раёнаў у працы акруговай конфэрэнцыі. Што датычыцца г. Бабруйску, дык трэба констатаваць адносна слабы ўдзел і зацікаўленасьць мясцовых працаўнікоў да працы конфэрэнцыі.

На конфэрэнцыі былі заслуханы: 1) справаздача праўленьня акруговага т-ва; 2) даклады з месц; 3) чарговыя задачы краязнаўства—даклад прадстаўніка ЦБК і садаклад сакратара акруговага т-ва т. Шамко. Апрача гэтага, на конфэрэнцыі адбыліся перавыбары праўленьня і рэвізійнай камісіі.

Згодна справаздачы праўленьня акруговага т-ва і дакладаў з месц становішча краязнаўчай працы па акрузе прадстаўляецца ў наступных рысах.

Ва ўсіх раённых краязнаўчых т-вах і гурткох налічваецца зараз каля 800 сяброў, не беручы пад увагу гурткі пры сямігодках. Па гораду Бабруйску краязнаўчае т-ва налічвае 58 сяброў, з якіх 12 сяброў працуюць у гістарычнай сэкцыі, 22-у этнографічнай, 15-у прыродзнаўчай і 9-у экономічнай сэкцыі. Нядаўна організаваны яшчэ польская і яўрэйская сэкцыі. Працаю сэкцый сабраны матар'ялы: 1) па гісторыі г. Бабруйску; 2) 3.000 слоў жывой мовы, 120 прыпевак, 50 абрадавых песень; 3) значны лік прыродазнаўчых экспонатаў у акруговы музэй. Гэты музэй зьяўляецца вялікім дасягненьнем у справе вывучэньня Бабруйскага краю. Сваёй організацыяй і разьвіцьцём музэй абавязан энэргіі загадчыка музэю т. Славіна, які стварыў вакол музэю атмосфэру грамадзянска-пролетарскай установы і здолеў зацікавіць у музэйнай справе мясцовае насяленьне, галоўным чынам, рабочых Бабруйскіх прадпрыемстваў. Музэй у сучасны момант можа лічыцца ўзорным ня толькі ў Бабруйскай акрузе, але і на тэрыторыі ўсяе БССР. У ім налічваецца зараз больш 3.000 толькі адных экспонатаў па прыродзе Бабруйшчыны.

Па раёнах закончылася організацыйнае афармленьне раённых краязнаўчых т-ваў, за выключэньнем Жлобінскага і 2-га Бабруйскага т-ваў. Апошнія да гэтага часу ня выявілі адзнак свайго жыцьця. Акруговае праўленьне не адзін раз рабіла спробы ажывіць працу ў гэтых раёнах, але спробы не ўдаліся. Паміж тым, жлобінскі раён мае вялікія магчымасьці для разьвіцьця краязнаўчай працы. У раёне маецца Агропэдтэхнікум, які вядзе краязнаўчае дасьледваньне, але зусім ня зьвязаны з раённым т-вам. У раёне ёсьць надзвычайна дзейнае мэліорацыйнае т-ва (в. Зьмяёўка), добрыя шляхі зносін і г. д.

Адносна працы іншых раённых т-ваў можна сказаць наступнае.

Стрэшынскае Т-ва налічвае 36 сяброў, з іх 6 партыйцаў і 2 комсамольцы. Т-вам утвораны краязнаўчыя гурткі пры сельсаветах,

пачата распрацоўка гістарычнага нарысу аб м. Стрэшыне і Стрэшынскім раёне, праведзены падлік помнікаў старажытнасьці. З організацыйнага боку т-ва даволі моцнае, але практычных вынікаў працы яшчэ зусім мала.

Гарадзецкае Раённае Т-ва мае ў сваім складзе 50 сяброў. Праўленьнем т-ва распрацован вельмі шырокі плян працы, але на практыцы праведзены толькі падлік помнікаў старажытнасьці і прыслана некалькі слоў жывой мовы.

Рагачэўскае Раённае Т-ва мае 56 сяброў. Т-вам закладзен раённы краязнаўчы музэй і вядуцца досьледы па гісторыі Рагачэва. Т-ва мала зьвязана з акруговым праўленьнем.

Клічаўскае Раённае Т-ва налічвае 50 сяброў. Праўленьне т-ва падлічыла помнікі старажытнасьці, дасташла акруговаму музэю рэчы каменнага веку і тыповыя рэчы вясковага пабыту. Т-ва мае сувязь з саюзам паляўнічых і пры дапамозе яго высачыла мядзьведзяў, дзікоў у раёне.

Асіпавіцкае Раённае Т-ва ў краязнаўчай працы зьяўляецца прыкладным па ўсёй Беларусі. Як вядома, па пастанове ЦБК гэты раён быў вызначан, як узорны. Краязнаўчая праца ў раёне асабліва вядзецца мясцовай сямігодкай, дзе ёсьць надзвычайна здольны організатар і кіраўнік. Яшчэ ў мінулым годзе гістарычныя і геолёгічныя досьледы, якія рабіла Асіпавіцкая сямігодка, зьвярнулі на сабе ўвагу спэцыялістых і былі прызнаны вельмі каштоўнымі. Зараз усе краязнаўчыя досьледы па Асіпавіцкім раёне праводзяцца Праўленьнем пад кіраўніцтвам вучоных спэцыялістых. Вынікі гэтага выйдуць у друку. Трэба адзначыць, што нават тыя галіны краязнаўства, у якіх профэсура і ня прымае непасрэднага ўдзелу, пастаўлена ў Асіпавіцкім раёне вельмі добра. Палова этнографічнага матар'ялу, які сабрала акруговае праўленьне, прыслана Асіпавіцкім раёнам.

Буда-Кашалёўскае Раённае Т-ва вядзе працу бяз сувязі з акруговым т-вам. Т-ва цікавіцца археолёгіяй і гісторыяй і без належнага дазволу рабіла раскопкі курганоў. У вакруговы музэй т-вам дастаўлены вельмі каштоўныя экспонаты па прыродзе і гісторыі.

1 Бабруйскае Раённае Т-ва налічвае 45 сяброў, з іх 4 партыйцаў і 5 комсамольцаў. Краязнаўчая праца ў раёне концэнтруецца пры трох гуртках: у Любонічах, Качэрычах і Добасьне. Гурткамі праводзіцца праца этнографічнага і фэнолёгічнага характару.

Пра Сьвіслацкае Раённае Т-ва, якое налічвае 23 сябры, і пра Парыцкае Раённае Т-ва можна сказаць, што хоць яны і аформіліся організацыйна, але яшчэ не падышлі практычна да краязнаўчай працы.

З краязнаўчых гурткоў па акрузе найбольш выявіў сябе гурток пры Красна-Бярэскім Агропэдтэхнікуме. Пра дзейнасьць яго будзе напісана асобна.

Па ліку сяброў і па шырокай краязнаўчай працы таксама выдзяляецца гурток пры Рагачэўскім пэдтэхнікуме.

## Глускае Раённае Т-ва.

*(Бабруйск. акр.).*

Т-ва налічвае зараз каля 30 сяброў і організавала краязнаўчы гурток пры Глускай сямігодцы. За год т-ва правяло 7 пасяджэньняў праўленьня і 2 агульныя сходы. Праца вядзецца па сэкцыях: гістарычна-археолёгічнай, прыродна-экономічнай і мовазнаўчай. Праца не разгарнулася. Да гэтага часу т-ва правяло вучот гістарычных помнікаў раёну. Сельсаветы і настаўнікі апісалі і зарысавалі помнікі старажытнасьці. Асабліва цікава абсьледваньне аднаго гарадзішча, якое было праведзена настаўнікам Кат-

коўскай школы і Каткоўскім сельсаветам. Гэта гарадзішча знаходзіцца паміж трох вёсак: Каткамі, Бэркавым і Халопенічамі. Месца выглядае так: круглае, як каток, з насыпаным валам вышынёю каля 2 мэтраў і ўшыркі да 5 мэтраў. Вал укруг мае 355 крокаў. Вакол кургану балота. Адзін дзед з вёскі Каткі, якому цяпер пад 100 гадоў, апавядае, што гадоў 90 назад, на гэтым кургане расьлі вялізныя дрэвы, а цяпер і пнёў няма. Другі селянін з тэй-жа вёскі знайшоў на гэтым гарадзішчы крыж, лыжку і красала, але гэтыя рэчы згубіў. Шмат яшчэ зарэгістравана курганоў у Слаўкавіцкім сельсавеце. Т-ва сабрала яшчэ шмат песень, казак, пагаворак. Па даручэньні т-ва аграном склаў карту глебы Глускага раёну і сабраў колекцыю расьлін-збожжа. Урэшце т-вам узята на вучот вохра, якая залягае на плошчы каля 2½ дзес. (паміж в. Поўсткай і Усьцерхамі).

## Краязнаўчы гурток пры Красна-Бярэскім Агропэдтэхнікуме.

*(Бабруйск. акр.).*

Гурток налічвае зараз 92 сябры. У мэтах поўнага, усебаковага вывучэньня свайго раёну гурток падзелены на сэкцыі і камісіі: 1) прыродазнаўчая (ботаніка, зоолёгія, мінэралёгія і геолёгія раёну); 2) агрономічная (глеба раёну, ральля, сенажаці, лясы, сады, гароды, галоўныя і другарадныя расьлінныя культуры, севазварот, жывёлаводзтва раёну, прамысловасьць раёну і г. д.); 3) архэолёга - этнографічная (гісторыя, архэолёгія і этнографія раёну). Апрача пералічаных сэкцый і камісій організавана яшчэ камісія для зьбіраньня слоўнікавага матар'ялу, у прыватнасьці для складаньня мясцовага слоўніка тэрмінаў па сельскай гаспадарцы; краязнаўчага музэю дагэтуль яшчэ няма, а ўсе экспанаты, якія сабралі сэкцыі гуртка, разьмешчаны па габінэтах Агропэдтэхнікуму. За мінулы год праца грутка мае такія вынікі: 1) адбылося 9 агульных сходаў гуртка, на якіх было заслухана 10 дакладаў на краязнаўчыя тэмы і разгледжана шмат організацыйных пытаньняў; праўленьне мела 7 пасяджэньняў; 2) прыродазнаўчая сэкцыя сабрала ня зусім поўны гэрбары веснавое і летняе флёры, азначыла да 75 відаў дрэў і хмызьнякоў тэхнікумаўскага саду, сабрала колекцыі шасьціножак і шкоднікаў саду, ральлі і гароду; 3) агрономічная сэкцыя абследвала глебы фэрмы пры Агропэдтэхнікуме і заляганьне глін; устаноўлена, што глебы фэрмы супяшчаныя, мясцамі—падзольныя і балацістыя; таўшчыня верхняга слою—3-4 вярш.; падглеба складаецца з пяшчаных і супяшчаных слаёў, мясцамі глеба падсьцілаецца глінамі; 4) архэолёга-этнографічная сэкцыя правяла падрыхтоўчую працу па дасьледваньні вурочышчаў „Курганьне“ і „Перапеліч“, сабрала матар'ялы па вуснай народнай творчасьці і тэрміны мясцовай с.-г. тэрмінолёгіі.

## Хоцімскае раённае Т-ва.

*(Калін. акр.).*

Т-ва існуе ўжо 2 гады. Зараз яно налічвае 36 сяброў і яму падпарадкавана 3 гурткі: пры беларускай сямігодцы, яўрэйскай сямігодцы і лясьніцтве. Т-вам праароблена такая праца: 1) сабралі матар'ял для апісаньня цікавых з гістарычнага боку мясцовасьцяй і помнікаў, як напр. быўшых польскіх невялікіх крэпасьцяй Мамашкавічаў, Сураўкі, Мацяёўкі і іншых; 2) складзены колекцыі: па нумізматыцы, па вырабе мясцовых тканін, па мясцовай саматужнай прамысловасьці, па мясцовай фаўне (яйкі птушак) і другія колекцыі. Усё гэта дало магчымасьць закласьці раённы краязнаўчы музэй, у якім зараз ужо маецца 800 экспонатаў; 3) сабрана 840 слоў жывой мовы, запісана і больш-менш апрацована 1.341 песьня, 1952 прыпеўкі, 27 казак, 108 замоў і 183 загадкі.

## Касьцюковіцкае раённае Т-ва.

Т-ва організавалася 22 ліпня 25 г. Цяпер яно налічвае 97 сяброў, з іх настаўнікаў 72. Т-ву падпарадкаваны краязнаўчыя ячэйкі, якія існуюць па раёне, лікам да 10 і краязнаўчы гурток пры Касьцюковіцкай сямігодцы. За мінулы год адбылося 4 агульныя сходы сяброў т-ва і 6 пасяджэньняў праўленьня. На апошнім агульным сходзе 4 лістапада 26 г. праўленьне дало справаздачу аб дзейнасьці т-ва. Са справаздачы відаць, што вынікі працы такія: 1) сабраны архіўныя матар'ялы і паданьні старых людзей для складаньня монографіі па гісторыі м. Касьцюковіч; 2) ёсьць матар'ялы па вывучэньні кірмашоў у м. Касьцюковічах; 3) складзен зборнік бытавых накідаў, заметак, паданьняў, легэнд; 4) апісана „вясельле“ і „ксьціны“ з усімі падрабязнымі звычаямі, абрадамі, сьпевамі і забабонамі; 5) запісана песень з мэлёдыямі 145 і бяз мэлёдый—38; 6) сабрана 416 слоў жывой мовы; 7) организавана пры Касьцюковіцкай сямігодцы мэтэоролёгічная станцыя і акуратна вядуцца са студзеня 1925 г. назіраньні над пагодаю, а з сакавіка м-ца 1926 г. вядуцца фэнолёгічныя назіраньні. Каб уцягнуць у краязнаўчую працу сяброў профсаюзаў і комсамольскіх організацый, т-ва на працягу году наладзіла 4 лекцыі аб значэньні краязнаўчай працы, дзьве з іх на сходзе комсамольцаў. Вынікі гэтае популярызацыі краязнаўства ёсьць: за апошні час павялічыўся лік заяў аб жаданьні працаваць па краязнаўству, асабліва з боку партыйцаў і комсамольцаў. Гэта дае надзею, што ў далейшым краязнаўчая праца ў раёне значна ўзмацніцца.

Чарговым заданьнем т-ва ставіць наступнае: 1) для ахапленьня краязнаўчаю працаю ўсяго раёну рэорганізаваць існуючыя краязнаўчыя ячэйкі ў гурткі пры сельсаветах; 2) прыняць усе меры да адчыненьня раённага краязнаўчага музэю.

## Бялынкавіцкае раённае Т-ва.

Т-ва налічвае зараз 52 сябры, з іх партыйных 2, комсамольцаў 4, актыўна вядучых краязнаўчую працу 5 сяброў. За мінулы год адбылося агульных сходаў 3. Пасяджэньні праўленьня адбываюцца рэгулярна адзін раз у 2 тыдні. Праца вядзецца па пляне, па якім прадбачыцца зьбіраньне 5 відаў колекцый. Сэкцый існуе тры: прыродазнаўчая, гістарычна - археолёгічная і этнографічная. Ёсьць зачатак музэю. За гэты час сабраны такія матар'ялы: археолёгічныя знаходкі ў часе краязнаўчай экскурсіі на курган каля с. Каніч, як чарапкі з орнамэнтамі, каменны клін да 10 ф., каменны таўкач, малаткі, скрабкі, марскія ракавіны, шыйныя абручы, нажныя і ручныя бранзалеты. Сабрана яшчэ шмат матар'ялаў па фольклёры (30 казак, 100 песень і г. д.), робіцца апрацоўка гэтага матар'ялу, сабрана 500 слоў. Значна папулярызавана краязнаўчая справа сярод настаўніцтва. У восень у часе курсаў чыталіся лекцыі настаўніцтву па краязнаўству.

Пры школе сямігодцы існуе гурток краязнаўства, які зьбірае шмат матар'ялаў.

## Крычаўскае раённае Т-ва.

Т-ва організавалася яшчэ ў сакавіку 1925 г. і ў той час налічвала ў сваім складзе 72 сябры, але толькі цяпер т-ва пачынае станавіцца на цьвёрды грунт. Цяпер лік сяброў т-ва паменшыўся (42), але праца значна пашырылася. Краязнаўства яшчэ мала популярызавана, толькі на настаўніцкіх курсах прачытан шэраг лекцый па краязнаўству. У восень праўленьне т-ва апрацавала плян працы, які разглядаўся і быў зацьверджан на пленуме РВК у вёсцы Гарбатцы. У пляне такія асноўныя заданьні: 1) вывучэньне бюджэту сялянскай гаспадаркі; 2) высьвятленьне ўмоў, якія могуць спры-

яць разьвіцьцю прамысловасьці ў Крычаўскім раёне; 7) зьбіраньне народнай творчасьці і ўзораў народнага мастацтва. Сэкцыямі т-ва праведзена гэткая праца: 1) Гістарычная сэкцыя сабрала некаторыя матар'ялы па гісторыі Крычава, веды аб замкавай гары, аб будынку Галынскіх, аб Швэдзкай вайне і бойках вакол Крычава. Узяты на вучот некаторыя курганы, гарадзішчы, знойдзены рэчы каменнага веку. 2) Прыродазнаўчая сэкцыя дасьледвала і выкрыла залежы крэйды, фасфарытаў, сабрала вялікі лік сшыткаў-гэрбарыяў з мясцовымі назвамі (больш 100) і зьбірае зельнікі (лекавыя травы). 3) Па народнай творчасьці сабрана 30 сшыткаў і 250 слоў жывой мовы.

## Кніжка ў чэсьць Ёсафата Кунцэвіча.

Нядаўна ў Віцебску пры разборцы архіву Маркава манастыра знайшлі цікавую кніжку, якая напісана ў мэтах праслаўленьня вядомага вуніяцкага арцыбіскупа Ёсафата Кунцэвіча. Як вядома, апошні быў забіты праваслаўнымі ў Віцебску ў 1623 г. Каталіцкая царква абвясьціла Ёсафата сьвятым. Польская ўлада моцна пакарала забойцаў, шмат каго павесіла, шмат каго спаліла, разбурыла Усьпенскую царкву і ратушу, а вуніяцкаму духавенству даручыла скласьці кніжку ў чэсьць „мучаніка“. Поўны загаловак яе: „Песнославник нарочитый о прегорестных болезнех Пресвятыя Богородицы и пречистыя девы Марии. Месяца Септемврия в 16 день. Служба святому священномученику Іосафату“. У кніжцы 43 старонкі.

## Як утварыўся Віцебскі Краёвы Слоўнік.

Ва ўсякай галіне дзейнасьці ў краі неабходна мець у першую чаргу дакладнае ўяўленьне этнографічных яго асаблівасьцяй і дасканала валадаць моваю мясцовага насельніка. Хутчэй за ўсё дайці да сьвядомасьці дзіцяці і селяніна ў навучаньні, або асьветнай гутарцы, ці разважаньні аб справе, можна толькі гаворачы на запраўды роднай, мясцовай, а не літаратурнай мове. Пакуль ёю не валадае той або іншы працаўнік, датуль ня можа быць гутаркі аб штодзенным, а ні компанійным, ажыцьцяўленьні змычкі гораду з вёскай. Разам з тым, здаровае ўзбагачэньне літаратурнай мовы можа ісьці толькі шляхам успрыйманьня мясцовых слоў літаратурнаю моваю, а не выдумваньня іх. Побач з гэтым практычным, палітычным і лексыколёгічным значэньнем веданьне мясцовай мовы дае мажлівасьць навуковых дыялектолёгічных абаснаваньняў, вывадаў аб мінулым народу, яго побыце і г. д. Усё гэта прычынілася таму, што адзін з працаўнікоў, які потым стаўся ўкладальнікам слоўніка мовы Віцебшчыны, пачаў вывучэньне фольклёрных запісаў Віцебшчыны з боку іх мовы. Апошняе паказала, што адны з іх русіфікатарскі-тэндэнцыйныя, другія—застарэлі і не складаюць слоўніка сёньнешняй народнай мовы. Таму ён у верасьні 1924 году ў часе працы на вёсцы зарэгістраваў некаторыя факты мовы Віцебшчыны, што і паслужыла пачаткам сыстэматычнае работы ў гэтым стасунку. Уласьцівасьці службы зьбіральніка вымагалі бадай бязупынных разьездаў па акрузе, асабліва на працягу зімы, вясны і восені. Гэта спрыяла выкананьню пастаўленага заданьня зьбіраць слоўнік мясцовай мовы.

У часе гэтых разьездаў па Віцебшчыне шляхам гутарак з сялянамі ў іх звычайнай абстаноўцы і з возчыкамі, якія наймаліся вазіць па справах службы, а таксама бываючы на кірмашох, фэстах і іншых мясцох, дзе зьбіралася шмат народу, зьбіральнік рэгістраваў асаблівасьці вымаўленьня, словы, цікавыя злучэньні слоў і г. д., не зважаючы ці супадаюць яны з літаратурнаю моваю, або чужаземнаю, нават, і адзначаючы

месца запісу, час, а, бывала, і прозьвішча таго, ад каго чуў.

Пакрысе зьбіраўся багаты матар‘ял, выяўлялася патрэба больш шырокай працы ў даным стасунку. Таму летам 1925 г. Праўленьне Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства ў асобе двох адказных сваіх членаў (адзін з іх—памянёны зьбіральнік) даручыла аднаму з мясцовых працаўнікоў — членаў Таварыства з‘організаваць камісію для збору слоўніка жывой мовы Віцебшчыны, бо ранейшы зьбіральнік быў перагружаны іншаю організацыйнаю працаю і лічыў сябе толькі членам будучай камісіі. Дзякуючы розным прычынам організацыйны сход камісіі не адбыўся аж да восені 1925 г., калі організатар яе выехаў з Віцебшчыны.

Праца ранейшым зьбіральнікам вялася далей ужо цалкам згодна „Інструкцыі да зьбіраньня народнага слоўніка - тэрмінолёгічнага матар‘ялу ў беларускай мове“, выдадзенай камісіяй для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы ў 1925 г. і к пачатку 1926 г. у яго сабралася больш 10.000 запісаў. Аднак, асноўны лексыколёгічны матар‘ял быў нявычарпаны, запісы, сабраныя экспэдыцыйным мэтодам патрабавалі праверкі, працу трэба было весьці хутчэй, бо, апрача звычайнай для кожнай мовы зьмены яе, мова Віцебшчыны вельмі інтэнсіўна пачала адчуваць уплыў літаратурнай мовы, якая хлынула праз школу пры пасярэдніцтве вучняў і кніг, што дзеці чыталі і дома, а таксама праз установы, якія паволі пачалі пераходзіць на беларускую мову.

Калі-б зьбіраньне слоўнікавага матар‘ялу зацягнуць—яно адбіла-б тыя зьмены, якія вытвараліся ў народнай мове і гэта значна ўскладніла-б задачу апрацаваньня слоўніка жывой народнай мовы. А для таго, каб адзін чалавек сабраў увесь матар‘ял—неабходны вельмі доўгі працяг часу.

З прычыны гэтага зьбіральнік зьвярнуўся ў Праўленьне Акруговага Таварыства Краязнаўства, як член яго, якое, да рэчы, зьбіралася прыняць крокі да організацыі слоўнікавай працы на Віцебшчыне ў адказ на заклік Камісіі для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы ў Інбелкульце, з прапановаю організаваць слоўнікавую камісію і ўключыць яго ў члены апошняй, каб не ўтвараць паралелізму ў працы.

Праўленьне Таварыства Краязнаўства ўхваліла організаваць слоўнікавую камісію, вызначыўшы зьбіральніка старшынёю яе. Сакратаром быў запрошаны С. К. Собаль, які да апошняга часу дапамагаў у перапісцы з корэспондэнтамі і ўстановамі. Камісія ні разу не сабралася.

Камісія для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы, куды зьбіральнік зьвярнуўся таксама, упаўнаважыўшы яго на збор і ўкладаньне Віцебскага краёвага слоўніка, прыслала патрэбны лік свае „Інструкцыі да зьбіраньня народнага слоўніка - тэрмінолёгічнага матар‘ялу ў беларускай мове“ і мажлівую грашовую дапамогу на паперу і інш.

Крыху раней зьбіральнік паслаў артыкул у мясцовую газэту „Заря Запада“ з заклікам прысылаць слоўнікавы матар‘ял па яго адрэсе і правілах запісу, які і быў надрукованы, пачаўшы сабой шэраг артыкулаў зьбіральніка аб зьбіраньні і ўкладаньні слоўніка.

Апрача звароту да мясцовых працаўнікоў цераз друк, такі быў зроблены і праз установы і організацыі. На заклік зьбіральніка, а потым ад імя камісіі адгукнулася звыш 200 чал. мясцовай інтэлігенцыі: настаўнікаў, хатнікаў, паштавікоў, агрономаў і інш., тры краязнаўчыя організацыі (з 16) і шэсьць сямілетак (з 42), прозьвішчы і назвы якіх маюць быць апублікаваны пры выданьні слоўніка.

Самы большы лік картак-слоў з організацый і ўстаноў прыслала

Храпавіцкая сямілетка на чале з загадчыкам Котавым, а з індывідуальных корэспондэнтаў—Палескі з Гарадоцкага раёну.

Збор матар'ялаў корэспондэнтамі, як сказана вышэй, адбываўся згодна памянёнай „Інструкцыі да зьбіраньня народнага слоўніка-тэрмінолёгічнага матар'ялу ў беларускай мове", якая была ва ўсіх корэспондэнтаў, апрача чаго ўсе корэспондэнты інструкталіся вусна ў індывідуальных і колектыўных гутарках і лістамі, якіх было паслана звыш 600, а таксама надзяляліся папераю.

Усяго было атрымана 36.071 картка-слова, што з сабранымі самім зьбіральнікам склала 46.192 карткі-словы.

Новыя карткі былі сабраны пераважна стацыянарным мэтодам, г. зн., людзьмі, што доўга жылі ў данай мясцовасьці. Новых слоў да запісаных самым зьбіральнікам паступіла ня так многа, але карткі давалі дакладнае вымаўленьне пэўных мясцовасьцяй, яго адценьні ў розных мясцох і г. д., а лік іх палягчаў праверку. Зробленая клясыфікацыя ўсяго матар'ялу паказала, што некаторыя запісы ўсё-ж патрабуюць праверкі, а некаторыя словы не зарэгістраваны, хоць у зьбіральніка і былі весткі, што яны ёсьць на Віцебшчыне. Прышлося зноў экспэдыцыйным шляхам правяраць і рэгістраваць матар'ял, для чаго зьбіральнік абхапіў, галоўным чынам, вёскі наўкол Віцебску на 15—20 вёрст кругом, калі ім было сабрана 823 новыя словы.

Крыніцаю збору ўвесь час была жывая мова як звычайная, так і крышталізаваная ў песьнях, казках і д. т. п., што можна было чуць на працягу збору.

Віцебская мова багата русіцызмамі, але рэгістрацыя іх не ўваходзіла ў задачу збору, які адбываўся з верасьня 1924 г. да верасьня 1926 г.

Матар'ял атрымоўваўся ўкладальнікам і з суседніх Віцебшчыне мейсц з іншых частак Беларусі, але скарыстоўваўся дзеля ўкладаньня слоўніка выключна матар'ял з межаў сучаснай Віцебскай акругі, прычым карткі-словы па мажлівасьці з розных месц акругі.

Разам з тым неабходна адзначыць, што па якасьці сваёй матар'ял корэспондэнтаў быў вельмі розна-

**Дыяграма колькасьці зьбіральнікаў слоўнікавага матар'ялу па раёнах Віцебскай акругі.**




стайны—ад вучнёўскага да сталага навуковага. У ваднаго корэспондэнта былі кніжныя прыклады; яго карткі гадзіліся толькі як напамін аб тым, што трэба праверыць, ці ўжываюцца гэтыя словы на Віцебшчыне. Некаторыя карткі былі без азначэньня месц запісу і іх прышлося пасылаць для выпраўленьня гэтай хібы; некаторыя дапішчыкі давалі вельмі кароткія прыклады,

што ня тлумачылі самога слова, а часамі прысылаліся карткі і без усякіх прыкладаў.

Вясною і летам 1926 г. зьбіральнік сыстэматызаваў свае і дапішчыкаў карткі-словы і ўклаў з іх Віцебскі Краёвы Слоўнік згодна з прынцыпамі, выпрацаванымі Камісіяй для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы. Па апошніх першае слова слоўніка пісалася „паводле правіл сучаснага беларускага літаратурнага правапісу“. Прапанованы ў проекце інструкцыі для ўкладальнікаў краёвых слоўнікаў парадак запісу паводле фонэтычнага прынцыпу (з захаваньнем літаратурнай беларускай графікі) быў адкінуты камісіяй на тэй падставе, каб не абцяжарваць працы ўкладальнікаў краёвых слоўнікаў зьмяшэньнем задач лексыколёгічнага і дыялектолёгічнага дасьледваньня. Пры гэтым камісія мела на ўвазе і сувязь краёвых слоўнікаў з агульным слоўнікам жывой беларускай мовы, дзе, натуральна, беларускія словы будуць давацца ў іх літаратурным напісаньні, а таксама вымогі практычнага карыстаньня краёвымі слоўнікамі“. У гэтым слове адзначаўся і націск. Пасьля першага слова давалася граматычнае адзначэньне для мужчынскага, жаночага, агульнага і ніякага роду іменьнікаў, зборнага імя, дзеяслова, злучніка, прыйменьніка і выклічніка. Дальш паказваўся канчатак для мужчынскага, а часамі і іншага роду, пераклад парасійску, прыклад, або некалькі прыкладаў, з якіх слова ўзята і вёска і раён, дзе прыклад пачуты.

У разборцы часткі картак-слоў на першую літару па альфабэце ўкладальніку прышлося скарыстаць пасільную дапамогу трох вучняў 4 сямілеткі і трох вучаніц агульнаадукацыйных курсаў, з якіх асабліваю стараннасьцю вызначалася Латышэўская.

У спатканай пры ўкладаньні патрэбе даваць лацінскія назвы побач з расійскімі для расьлін і жывёл дапамогу ўкладальніку рабіў мясцовы Віцебскі краязнаўца Л. Зьм., Нікольскі, а для мэдычных тэрмінаў у першы час—т. Куцькоў. Мясцовы сьветазнаўца т. Усьпенскі дапамог разабрацца ў некалькіх заблытаных азначэньнях астрономічных назваў.

Уся праца вялася ў даволі цяжкіх умовах.

Толькі дзякуючы хуткаму пасьлярэволюцыйнаму тэмпу жыцьця і організаванай дапамозе такога вялікага ліку асоб была выканана гэта вялікая праца, што не магло быць зроблена ў царскія часы пры першай спробе сабраць слоўнік Віцебшчыны ў 1896 г., якую рабіла М. А. Мельнікава з сваімі вучаніцамі.

Укладзены слоўнік быў прарадагаваны камісіяй для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы ў складзе: С. М. Некрашэвіча, М. Я. Байкова і проф. Б. І. Эпімаха-Шыпілы, і пры спрыяючых умовах будзе надрукаваны; чытаць яго для веданьня мовы прыдзецца, зразумела, як і іншыя слоўнікі, а не заглядваць, як у канцэлярскі.

Праўленьне мясцовага таварыства краязнаўства вельмі цікавілася ходам збору і ўкладаньня слоўніка, заслухваючы даклады ўкладальніка і дапамагаючы (за ўвесь час—100 р.) матар‘яльна, як і Камісія Інбелкульту.

Пасьля ўкладаньня слоўніка ўсе карткі-словы, апрача некалькіх зусім бязграматных, якія выкідваліся пры разборцы, перададзены ўкладальнікам Камісіі для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы ў Інбелкульце. У вапошнюю ўкладальнік перадаў і просьбу надзяленьня прэміямі найбольш актыўных корэспондэнтаў, згодна абяцаньню інструкцыі камісіі, якое вядома і з друку.

Іншым акругам таксама трэба паклапаціцца зборам і ўкладаньнем слоўнікаў мовы сваіх акруг.

М. Касьпяровіч.

## Барысаўская III Акруговая Краязнаўчая Конфэрэнцыя.

20—21 лістапада м. г. адбылася III Акруговая Краязнаўчая Конфэрэнцыя. Конфэрэнцыя была адчынена ад імя праўленьня В. Самцэвічам у прысутнасьці ўсіх дэлегатаў і прадстаўнікоў ад розных організацый і ўстаноў: Акружкому КПБ, Акрвыканкому, Акружкому ЛКСМБ, Саюзу Працасьветы, Зямельнага аддзелу, ад вучэбных устаноў г. Барысава. Пры адчыненьні конфэрэнцыі была вызначана роля краязнаўчай працы ў справе социялістычнага будаўніцтва і магчымы ўдзел у гэтым будаўніцтве краязнаўчых організацый. Зачытана была прывітальная тэлеграма Наркома Асьветы Беларусі т. Баліцкага.

Склад прэзыдыуму зацьверджан быў наступны: Атраховіч (прадстаўнік ЦБК), Мельцар, Навіцкі, Прафярансаў, Самцэвіч В., Слуцкі І., Смародзкі. У працы Конфэрэнцыі прымала ўдзел 54 дэлегаты, з правам рашучага голасу—40.

Заслуханы былі наступныя даклады і пытаньні: „Пэрспэктывы гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ў акрузе і ўдзел краязнаўчых організацый“, „Становішча краязнаўчай працы на Беларусі і пэрспэктывы далейшай працы“; Справаздача Акруговага Праўленьня Т-ва Краязнаўства і плян працы на 1926—27 г. Садаклады Чарэйскага раённага т-ва, Крайскага гуртка і гуртка пры сямілетцы; перавыбары Акруговага Праўленьня і Рэвізійнай Камісіі.

У сваім дакладзе „Пэрспэктывы гаспадарчага і культурнага будаўніцтва“ т. Прафярансаў зазначае,



што Савецкая ўлада на Беларусі наогул і ў Барысаўшчыне ў прыватнасьці з 1917 году і да 1924 г. не магла зьвярнуць належнай увагі на гаспадарчае і культурнае будаўніцтва з прычыны спачатку нямецкай, потым польскай окупацыі і ўрэшце барацьбы з бандытызмам. З 1923—24 году на Барысаўшчыне пачалося досыць шпаркае і пляновае гаспадарчае і культурнае будаўніцтва. У сучасны момант насельніцтва цалкам падтрымлівае мерапрыемствы Савецкай улады, сельская гаспадарка наогул дасягае даваеннай нормы, прамысловасьць

узбуйнела, і некаторыя фабрыкі ўжо працуюць у 3 зьмены (замест аднэй у дарэволюцыйныя часы), намечана і праводзіцца пераабсталяваньне тэхнікі ў буйных прамысловых установах. Прыродныя багацьці Барысаўшчыны і магчымасьці іх выкарыстаньня яшчэ ня выяўлены. Належным чынам краязнаўчыя організацыі павінны дапамагчы разьвіцьцю гаспадаркі шляхам выяўленьня натуральных багацьцяў акругі і вывучэньня магчымасьці іх выкарыстоўваньня; краязнаўчыя організацыі павінны таксама дапамагчы і культурнаму будаўніцтву.

„Становішча краязнаўчай працы на Беларусі і пэрспэктывы далейшай працы“ (Атраховіч). На Беларусі ёсьць значная сетка краязнаўчых організацый, усяго 140 з лікам сяброў каля 7.000. Некаторыя акругі ў краязнаўчай працы маюць досыць добрыя вынікі (Віцебская, Аршанская). Чарговымі задачамі краязнаўчай працы зьяўляюцца: узмацненьне працы сярод нацменшасьцяў, прыняцьце ўдзелу ў перапісе насельніцтва, вывучэньне бюджэту часу селяніна, вывучэньне тэхнікі сельскае гаспадаркі, зьбіраньне матар'ялу для слоўніка жывой беларускай мовы, усебаковае вывучэньне тыповага раёну акругі, праводзячы пры гэтым і агульную працу згодна з плянамі ЦБК.

Праца Акруговага Т-ва Краязнаўства (В. Самцэвіч). Праца гарадзкой організацыі праводзілася ў сэкцыях: 1) школьна-краязнаўчай, 2) культурна-гістарычнай, 3) прыродазнаўчай, 4) этнографічнай і 5) соцыяльна-экономічнай. У маі м-цы г. г. утварылася Яўрэйская сэкцыя, якая яшчэ і да гэтага часу знаходзіцца ў стадыі організацыі і працы не распачала.

Школьна-краязнаўчая сэкцыя ўтварылася толькі вясною гэтага году. Сэкцыя ставіць сваёй мэтай вывучэньне програмна-мэтодычных пытаньняў краязнаўчай працы (організацыя экскурсій, досьледаў). На настаўніцкіх сходах, на зьезьдзе загадчыкаў сямілетак і на летніх настаўніцкіх курсах сэкцыяй былі пастаўлены даклады: „Задачы і мэтоды школьна-краязнаўчай працы“ (Самцэвіч), „Школа і краязнаўства“ (Мазінг), „Організацыя і правядзеньне экскурсій у прыроду“ і інш. Вясною сэкцыя разглядала пляны экскурсій гарадзкіх школ на фабрыкі і заводы і прымала ўдзел у апрацоўцы анкет для абсьледваньня прадпрыемстваў; была апрацавана програма для летніх настаўніцкіх курсаў па абсьледваньні дрэваапрацоўчай прамысловасьці ў г. Барысаве; сябры сэкцыі прымалі ўдзел у гэтым абсьледваньні і апрацавалі атрыманы матар'ял.

Культурна-гісторычная сэкцыя праводзіла вучот помнікаў старасьветчыны, некаторыя з якіх аб'яўлены дзяржаўнай маёмасьцю (паст. СНКБ ад 5-VII—26 г.): двума сябрамі (Самцэвіч і Лёсік) абсьледваны былі помнікі кампаніі 1812 г.; было праведзена вывучэньне гісторыі г. Барысава і яго помнікаў; заслуханы даклады: „Беларускі рух на Барысаўшчыне у XIX ст.“ (т. Аляхновіч), „Гісторыя г. Барысава і яго помнікі“ (В. Самцэвіч), „Помнікі кампаніі 1812 г. на Барысаўшчыне“ (В. Самцэвіч). Увосень абсьледваны былі курганы і насыпы ў Крупскім і Барысаўскім раёнах; праведзена адна экскурсія з гарадзкім настаўніцтвам за гор. Барысаў на месца першабытнага пахаваньня (курганы).

Прыродазнаўчая сэкцыя заслухала 2 даклады: „Пералётныя і зімуючыя ў нас птушкі“ (С. Нікіфаровіч) і „возера Пялікі і яго аколіцы“ (Уладзіміраў); у канцы чэрвеня і пачатку ліпеня праведзена 10-цідзённая экскурсія на возера Пялік. Апісаньне адаслана ў ЦБК. Зараз зложаны плян працы і распачата апісаньне прыроды Барысаўскай акругі.

Этнографічнай сэкцыяй сабраны значны матар'ял ад раённых організацый і школьных гурткоў, частка

гэтых матар'ялаў пераслана ў ЦБК, частка знаходзіцца ў сэкцыі. Летам сэкцыя не працавала зусім, бо складаецца яна выключна з настаўнікаў, якія знаходзіліся ў водпусках.

Соцыяльна-экономічная сэкцыя працу сваю толькі распачала, заслухаўшы адзін даклад і апрацаваўшы часткай матар'ялы абсьледваньня курсантаў-настаўнікаў дрэваапрацоўчай прамысловасьці Барысаўскіх фабрык.

Цяпер Акруговым Праўленьнем сумесна з Акруговым Выканаўчым Камітэтам праведзена падрыхтоўчая праца да зьбіраньня матар'ялаў для зборніка „Барысаўшчына".

Наогул трэба сказаць, што ў сэкцыях працуе толькі частка сяброў, актыў гарадзкой організацыі, большая-ж частка актыўнага ўдзелу ня прымае. У жніўні м-цы 1924 г. быў заложаны краязнаўчы музэй, які да апошняга часу зьмяшчаўся ў будынку Пэдтэхнікуму. Зімой мінулага году музэй мусіў зачыніцца з прычыны заняцьця пакояў яго для працы Пэдтэхнікуму і адсутнасьці належнага памяшканьня. Зараз усе рэчы згорнуты ў кут. Было пастаўлена пытаньне перад Акруговым Выканаўчым Камітэтам аб прадстаўленьні будынку для музэю, у якім адчуваецца вялікая патрэбнасьць, але будынку і да гэтага часу няма. Пытаньне аб існаваньні музэю стаіць пад пагрозай з прычыны адсутнасьці памяшканьня.

Некалькі артыкулаў, як вынікі краязнаўчай працы сяброў т-ва надрукавана і друкуецца ў часопісе „Наш Край" („Дрэваапрацоўчы завод „Комінтэрн" у Н-Барысаве"—В. Самцэвіч і П. Стрыгуцкі № 8-9 (11-12), „Возера Пялік і яго аколіцы"—У. Уладзіміраў і „Помнікі кампаніі 1812 г. у Барысаве—В. Самцэвіч, № 10-11 (13-14).

У сучасны момант сетка краязнаўчых організацый у акрузе наступная: гарадзкая організацыя ў г. Барысаве, 9 раённых таварystваў з 9 гурткамі пры сельсаветах і 14 гурткоў пры вучэбных установах (пры Пэдтэхнікуме і пры школах сямігодках).

Перарэгістрацыя ў некаторых раёнах яшчэ не закончана, і лік сяброў разьмяркоўваецца наступным чынам:

| НАЗВА ОРГАНІЗАЦЫЙ | Агульны лік сяброў | Па роду | | Па партыйн. | | | Па нацыян. | | | | | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | М. | Ж. | Партыйн. | Комс. | Беспарт. | Белар. | Яўрэяў | Палякаў | Расійц. | Інш. | |
| Бярысаўская гарадзкая організацыя . | 41 | 31 | 10 | 7 | 1 | 33 | 32 | 4 | — | 1 | 4 | |
| Барысаўскае Раён. Т-ва | 68 | 46 | 22 | 4 | 6 | 58 | 62 | 4 | — | — | 2 | з гурткамі: Вяляціцкім і Лошыцкім. |
| Бярэзінскае . . . | 76 | 58 | 18 | 3 | 4 | 69 | 67 | 5 | 4 | — | — | |
| Бягомльскае . . . | 5 | 4 | 1 | — | — | 5 | 5 | — | — | — | — | Лік большы, але не законч. перарэгіст. |
| Зембінскае . . . | 20 | 10 | 10 | — | — | 20 | 16 | 2 | — | — | 2 | Зьвесткі няпоўныя. |
| Крупскае . . . | 74 | 43 | 31 | 15 | 11 | 48 | 60 | 13 | — | 1 | — | З Бобрскім гуртком (20 ч.). |
| Лепельскае . . . | 82 | 47 | 35 | няма зьвестак | | | | | | | | |
| Плешчаніцкае . . (Крайскі гурток) | 13 | 10 | 3 | 3 | — | 10 | 11 | 1 | — | 1 | — | Раённае аб'яднаньне фактычна адсутнічае. |
| Халопеніцкае . . . | 54 | 29 | 25 | 2 | 5 | 47 | 41 | 7 | 2 | 3 | 1 | |
| Чарэйскае . . . | 83 | 39 | 44 | 22 | 8 | 53 | 76 | 4 | 1 | 2 | — | |
| УСЯГО . | 516 | 317 | 199 | 56 | 35 | 343 | 370 | 40 | 7 | 8 | 9 | |

Апрача таго, у школьных краязнаўчых організацыях па акрузе налічваецца 564 сябры (з іх у раёнах 257); па нацыянальнасьці: беларусаў—294, яўрэяў—252, інш.—18; па партыйнасьці: комсамольцаў—76, піонэраў—157; усяго сяброў краязнаўства па акрузе—1.080.

Праца раённых т-ваў выявілася ў наступным: а) праведзена апісаньне помнікаў старасьветчыны, курганоў, замчышч і матар'ялы па запатрабаваньню адасланы ў адпаведную камісію пры ІБК; б) праводзіцца вывучэньне мястэчак (частка матар'ялаў ужо ёсьць); в) праведзена падрыхтоўчая праца і распачалося вывучэньне Барысаўскага раёну; г) запісана і сабрана матар'ялаў, прылад каменнага веку—15; старасьвецкіх монэт—586; слоў жывой мовы—2.040; песень—498; загадак—147; казак—20; розных запісаў мясцовага значэньня—18; фэнолёгічных назіраньняў—37; мэтэоролёгічных—19; пры 5 сямігодках і пры Пэдтэхнікуме маюцца мэтэоролёгічныя станцыі і вядуцца назіраньні.

Наогул-жа праца на мясцох вядзецца ня стала і да дасьледчай працы бадай што ня прыступлена; працу вядуць не організацыі а паасобныя сябры.

З мэтай ажыўленьня працы на мясцох у раёны выяжджалі сябры Праўленьня, ставіліся даклады на настаўніцкіх конфэрэнцыях і на летніх настаўніцкіх курсах. Зусім ня было жывой сувязі з далёкімі раёнамі (Бягомльскі, Лепельскі).

Акругкомам КПБ даны належныя дырэктывы Райкомам аб удзеле ў краязнаўчай працы з боку партыйцаў.

У спрэчках па дакладу Акруг. Праўленьня і садакладах з месц былі выказаны наступныя думкі: краязнаўчыя організацыі яшчэ ня прыступілі да належнай дасьледчай працы, і наогул у працы прыймае удзел пакуль што невялічкі актыў, а большасьць сяброў досыць пасыўна ў краязнаўчай справе; неабходна узмацніць жывую сувязь ня толькі з раённымі т-вамі, але і з гурткамі; неабходна, каб у краязнаўчай працы прымалі ўдзел і працаўнікі зямлі і лесу, коопэрацыі, партыйцы; да гэтага часу на мясцох імкнуліся „уцягваць“ у краязнаўчыя організацыі часамі мэханічна, і з гэтае прычыны слаба ішла праца, неабходна выявіць актыў і на яго апірацца ў наладжаньні і паглыбленьні працы.

Новае Акруговае Праўленьне абрана ў складзе 9 асоб (Слуцкі, В. Самцэвіч, С. Н. Нікіфаровіч, Паўлюц, Мельцар, Мазінг Ю., Азірскі, Вайсбэргер, Цітавец Л.) і 2 кандыдаты, якому і даручана прыняць меры да паглыбленьня працы на падставе дадзеных дырэктыў.

В. Самцэвіч.

# Бібліографія.

**„Дэталізацыя ў працы па комплекснай сыстэме на першым годзе навучаньня“.** Адбітак з час. „Асьвета“ № 5 за 1926 г. Jn16⁰. 16 ст.

**Дэталізацыя праграм II—IV гадоў навучаньня 7-гадовай працоўнай школы“.** Адбітак з час. „Асьвета“ № 6 за 1926 г. Jn16⁰. 100 стар.

Абедзьве кніжкі выданьня Навукова-Мэтодолёгічнага Камітэту НКА.

Гэта выданьне праграм значна лепшае за леташняе, як у кірунку зьместу матар'ялу, што павінен прапрацоўвацца школай, так і ў кірунку яго разьмеркаваньня па гадох. Не зьмяняючы сутнасьці комплекснай сыстэмы разьмяшчэньня матар'ялу, новая праграма ўдасканаліла апошняе, ад чаго ў ёй выпала некалькі тэм, частка якіх увайшла ў іншыя, а частка засталася зусім па-за межамі праграмы. Гэта разгрузка праграмы вельмі своечасова, бо жыцьцё даўно паказала, што старая праграма далёка не пад сілу вясковай школе.

Другім палепшаньнем зьявілася тое, што трэці год навучаньня стаў сапраўды краязнаўчым з ухілам у бацькаўшчынаведаньне, што ў леташняй праграме было толькі па назве. Без элемэнтаў бацькаўшчыназнаўства ў гэтым годзе абыйціся нельга, бо значная частка вучняў канчаюць школу ў гэтым годзе і бяз ведаў, хоць бы малых, аб бацькаўшчыне (Беларусі) выпусьціць са школы іх ня можна. Чацьверты год навучаньня цераз бацькаўшчыназнаўства пераходзіць ў сьветазнаўства, зьяўляючыся сьветазнаўчым.

Але вышэйпаказаная разгрузка праграмы зроблена толькі напалову. Яшчэ старэйшыя гады вельмі перагружаны матар'ялам, выкінуць які немагчыма, але можна перанесьці ў малодшыя гады. Наша дзіця грунтоўна адрозьніваецца ад дзіцяці-вучня лепшых заходня-эўропейскіх школ, адкуль мы часта бяром свае новыя ідэі, дзе вучацца дзеці заможных станаў і дзе хлапчук 8 год апрача няньkі і боны добра нікога ня бачыў, нават з бацькоў, а тым больш можа заблудзіць у вялікім палацы з нязьлічонымі пакоямі. Дзякуючы багацьцю бацькоў ён можа вучыцца колькі хоча. Таму там проста неабходна будаваць навучаньне ў першай групе на вывучэньні акаляючага жыцьця ў межах кола „сям'я і школа“.

Наша дзіця 8 год прыходзіць у школу ўсё ведаючы, з пэўным сьветаглядам, яно ня толькі ведае сваю сям'ю, хату, рэчку, дзе лавіла ракаў, купалася, гумны і загуменьні, але і лес, дзе пасьціла быдла, шукала птушак і г. д., а таксама суседнюю вёску, куды бацька пасылаў пазычаць што небудзь, або хадзіў разам у госьці, а часта нават і мястэчка, горад, дзе бацька пакідаў вартаваць калёсы, спраўляючы сам розныя свае справункі. Васьмігадовае дзіця ўжо пэўны работнік. Яно прыходзіць у школу ўсьведаміць пашырыць і паглыбіць свае веды, удасканаліць іх, прывесьці ў пэўную сыстэму, абаперці на навуковых матэр'ялістычных падставах, і гутарак у межах „сям'і і школы“ хапае яму на вельмі кароткі час, а дальш становіцца няцікава, а няцікавасьць—галоўны вораг навучаньня. Кажуць, што акаляючае жыцьцё ў межах „сям'і і школы“ можна вывучаць і ў вышэйшай школе, але для такога дробезевага дасьледваньня трэба доўга пажыць, страціць дзіцячую жывасьць і мець пэўную мэтодолёгічную падрыхтоўку. Да таго трэба захоўваць старое пэдагогічнае правіла—пачынаць і весьці навучаньне выходзячы з запасу ўспрыйманьняў, уражаньняў і ведаў дзяцей, а такія, як мы бачылі, значна шырэй кола „сям'я і школа“.

Дальш, само жыцьцё вымагае паскорыць падрыхтоўку маладога грамадзяніна. Большасьць вучняў канчаюць сваё навучаньне ў другой групе; у трэцяй—застаецца вучняў мала, а ў чацьвертай яшчэ менш.

Значыць, бяз школы для дзіцячага організму і на карысьць навучаньня абхват першага году навучаньня—„сям'я і школа“ можа быць цалкам падменены абхватам „наша вёска“ з ухілам у канцы году да пазнаньня раёну, а абхват другога году—„наша вёска“—„нашым раёнам“—з пераходам у межы акругі. Тады частка матар'ялу павінна будзе спусьціцца з трэцяга году ў другі, а з чацьвертага ў трэці. Гэтым пашырыцца і абхват ведаў малодшых груп.

Пытаньне гэта грунтоўнае, высунутае шэрагам школы і некаторымі інспэктарамі і павінна быць сур'ёзна вывучана да канца гэтага навучальнага году, дзе можна праверана практыкай для мажлівай зьмены праграмы ў пачатку новага году побач з удасканаленьнем іншых дэталяў яе, аб якіх скажа звычайны штодзённы досьлед школ. *М. К—ч.*

**Бібліографічныя спраўкі.** Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка (Менск, Савецкая вул.) ахвотна адказвае на запытаньні мясцовых краязнаўчых організацый аб літаратуры, выданай аб тым ці іншым краі і падобныя спраўкі бібліографічнага характару.

**Валентин Отамановський.** Краєзнавство на Поділлі, найближчі його завдання та пот-

рэбы й роля в краэзн. праці Кабінета виучування Поділля. Jn8⁰. 13+15 ст. з малюнкамі. Цана 30 кап. У Віннице, 1926 г.

У кароткіх рысах дырэктар Віньніцкай філіі Ўсенароднай бібліотэкі Украіны Атаманоўскі разглядае ўсебаковае вывучэньне Падольля, як аснову гаспадараваньня і адміністраваньня ў краі, перашкоды дасьледча-краязнаўчай працы і яе бліжэйшыя задачы і патрэбы, а таксама дае гістарычны агляд краязнаўства на Падольлі. У гэтай каштоўнай працы ёсьць шмат чаго цікавага і правільнага адносна працы ня толькі на Падольлі, але і ў нашых краёх. Забарона здаровай краязнаўчай працы царскім урадам, няўмелае адміністраваньне бяз веданьня мясцовага краю, патрэба організаванасьцю і плянавасьцю нагнаць патрачаны пры царскім урадзе час і інш.—цалкам тыповы і для нашага стану краязнаўства. Праўда, на ст. 11 аўтар памыляецца, кажучы, што ЦБК БССР утрымоўвае Віцебскае і Магілеўскае Т-вы Краязнаўства, але гэта залежыць ад няпоўнай паінформаванасьці ў нашай краязнаўчай організацыйнай схэме.

Пасьля цікавых інформацый аб бягучай працы на Падольлі зьмешчаны прыкладны статут Т-ва краязнаўства і програмы. Сярод апошніх ёсьць папоўненая і палепшаная програма дасьледваньня раёну, выпрацаваная ЦБК БССР і зьмешчаная ў № 1 „Нашага Краю“.

Віньніцкі Кабінэт вывучэньня Падольля разьвінуў і шырокую выдавецкую працу, з якой можна шмат чаму навучыцца.

Наагул кніжка дужа каштоўная, асабліва для краязнаўцы-організатара.

*М. Смалярскі.*

## Народны тэатр на Ігуменшчыне *).

*(За час 1920—1924 г.).*

**Барацьбіст, Мік.**

1920—Вёска Дзерць, Пухавіцкай воласьці Ігуменскага павету. [Допіс. 2 беларускія спэктаклі, наладжаныя вясковай інтэлігенцыяй. П'есы: „Антось Лата“—Т. Гушчы і „Чорт і баба“—Ф. Аляхновіча].

„Беларусь“. Газэта. Менск. 1920 № 11. Допісы. Стар. 4.

**Вольны, М.**

1920—Народная вечарына.

[12. IX. 1920 на хутары ў Ігуменшчыне. Наладжана культасьветным гуртком „Бура“. П'есы: „Каліcь“—Ф. Аляхновіча і „Пасланец“—Л. Родзевіча].

„Савецкая Беларусь“. Газэта. Менск. 1920 № 32 (42). Што робіцца на Беларусі, стар. 4.

**Міцкевіч, Алесь.**

1921—Беларуская вечарына.

(Ігуменшчына). [6. III. 1921. Наладжана гуртком „Бура“. П'есы: „Міхалка“—Далецкіх і „Чорт і Баба“—Ф. Аляхновіча].

„Савецкая Беларусь“. Газэта. Менск. 1921 № 64 (174). Што робіцца на Беларусі. Ст. 4.

**Выпадковы.**

1921—Болей гэткіх спэктакляў.

[Допіс з в. Каралішчавіч, Ігуменскага павету аб спэктаклі-мітынгу, наладжаным мясцовымі сіламі. 28. III. 1921. П'есы: „Міхалка“—Далецкіх і „На дарозе жыцьця“—Т. Гушчы].

„Савецкая Беларусь“. Газэта. Менск. 1924 № 74 (184). Што робіцца на Беларусі. Ст. 2.

**Цешкаў, Д.**

1921—Беларускае Мастацтва на вёсцы ў Ігуменшчыне (в. Блонь, Пухавіцкай вол.). [Аматарскі спэктакль 2. V. 1921. П'еса: „За мураванаю сьцяною“—У. Галубка. Хор пад кіраўніцтвам настаўніка В. Ажгірэя].

„Савецкая Беларусь“. Газэта. Менск. 1921 № 106 (216). Што робіцца на Беларусі. Ст. 2.

[ . . .

1921—Беларускае мастацтва на вёсцы ў Ігуменшчыне. (Вёска Скобраўка, Навасельскай вол.) [Спэктакль вясковай моладзі 3. V. 1921. П'есы: „Антось Лата“—Т. Гушчы і „Міхалка„—Далецкіх].

„Савецкая Беларусь“. Газэта. Менск. 1921 № 106 (216). Што робіцца на Беларусі. Ст. 2.

**Х. Ф.**

1921—Марына Горка, Ігумен. пав.

[Допіс аб спэктаклях 21 і 22. V. 1921, наладжаных слухачамі Тэхнікуму. П'еса: „Апошняе спатканьне“—У. Галубка. Дывэртысмэнт].

„Савецкая Беларусь“. Газэта. Менск. 1921 № 118 (228). Стар. 2.

[ . . .

1921—На Беларускай культурнай ніве (Вёска Грабёнка, Ігуменскага пав.). [Допіс аб працы культасьветнага гуртка. Спэктакль 1. V. 1921. П'еса: „Каліcь“—Ф. Аляхновіча].

„Савецкая Беларусь“. Газэта. Менск. 1921 № 112 (222). Стар. 2.

[ . . .

1921—Вясковы спэктакль (сяло Капланцы). [Пагоскай вол., Ігуменскага пав. 8. V. 1921. Наладжан настаўнікамі школы. П'еса: „Чорт і баба“—Ф. Аляхновіча. Допіс].

„Савецкая Беларусь“. Газэта. Менск. 1921 № 114 (224). Што робіцца на Беларусі. Ст. 2.

**Красінскі, М.**

1922—Настаўніцтва і культурная праца. (Ігумен) [Спэктакль 16. VII. 1922 у Маёнтку „Натальеўск“. П'еса: „Міхалка“ — Далецкіх. Хор].

„Савецкая Беларусь“. Газэта. Менск. 1922 № 162. Беларуская Культура. Стар. 2.

**К. М.**

1922—Яшчэ аб культурнай працы настаўніцтва. (Ігумен). [Спэктакль 5. VIII. 1922. П'еса: „Дзядзька Якуб“ - Ф. Аляхновіча].

„Савецкая Беларусь“. Газэта. Менск. 1922. № 181. Беларуская культура. Стар. 3.

**А—р.**

1923—Вечар-спэктакль. (В. Падсацкія, Магільнянскае в.). [П'еса „Мікітаў лапаць“—М. Кудзелькі. Дэклямацыя. Допіс].

*) Зьмяшчаецца, як узор укладаньня бібліографіі асобнага пытаньня пераважна з газэтных матар'ялаў

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1923. № 38. Тэатр на вёсцы. Стар. 3.

**Ст.**

1923—Сьвята пролетарскага студэнцтва. (Ігумен). [21. II. 1923. Спэктакль. П'еса: „Чытаць навучыся, тады жаніся". Дывэртысмэнт].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1923. № 45. Як жыве наша вёска. Стар. 3.

**Ш.**

1923—Сярод студэнтаў Ігуменскага Пэдагогічнага Тэхнікуму. [Праца драм. гуртка. Пастаўлена 9 спэктакляў ад пачатку вучэбнага году. Большасьць на Беларускай мове. Хор].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1923. № 62. Як жыве наша вёска. Стар. 3.

**М.**

1923—Вечары-спэктаклі. (В. Клянік, Ігуменшчына). [9. IV. 1923. П'есы: „За мураванай сьцяною" — У. Галубка і „Антось Лата" — Т. Гушчы; 10. IV. „Калісь"—Ф. Аляхновіча Спэктаклі ставіліся гуртком „Рунь". Допіс].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1923. № 83. Як жыве наша вёска. Стар. 4.

**Цьвік, Янка.**

1923—30 проц. на аэроплян „Сав. Беларусь". (В. Падбаложнікі, Хутарской вол., Ігуменск. пав.). [Спэктакль. 9. IV. 1923. П'есы: „Міхалка" — Далецкіх і „Дзіўны лапаць" — А. Гаруна. Допіс].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1923. № 83. Як жыве наша вёска. Стар. 4.

**Клюйко, П.**

1923—Студэнты ў вакацыях. (В. Голацк, Дукорскай вол., Ігуменскага пав.). [Спэктакль на Вялікдзень. 8. IV. 1923. П'есы: „За мураванаю сьцяною"—У. Галубка і „Перш навучыся, тады жаніся". Допіс].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1923. № 85. Весткі з месц. Стар. 4.

**Г. П.**

1923—Як наша моладзь правяла „вялікдзень". (Нізок, Узьдзенскай вол., Ігуменскага пав.). [Спэктакль. П'есы: „Чытаць навучыся, тады жаніся" і „Атруба". Ставіліся слухачамі Менскага Бел. Пэд. Тэхнікуму. Допіс].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1923. № 90. Як жыве наша вёска. Стар. 3.

**Шкраб.**

1923—Вечар-спэктакль. (Хутар Мядзьвешчына, Ігум. павету). 21. IV. 1923. П'еса: „Пашыліся ў дурні"—Крапіўніцкага. Допіс].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1923. № 96. Як жыве наша вёска. Стар. 4.

**М.**

1923—Спэктакль. (Верхмен, Ігуменшчына). [28. IV. 1923. П'еса: „Модны шляхцюк"—К. Каганца. Допіс].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1923. № 100. Як жыве наша вёска. Стар. 3.

**Няліповін, Марыля.**

1923—Першае мая на вёсцы. (в. Дудзічы. Ігуменск. пав.).

[Спэктакль. П'еса: „Калісь"—Ф. Аляхновіча. Допіс].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1923. № 108. Як жыве наша вёска. Стар. 4.

**Б.**

1923—Культурная праца ў Даўгінічах і поп Шчавель. [Ігуменшчына. Драм. гурток вясковай моладзі. За 1922 і чатыры месяцы 1923 г. пастаўлена каля 20-х спэктакляў выключна на беларускай мове. П'есы: „Паўлінка", „Чорт і баба", „Саўка", „Антось Лата" і інш.].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1923. № 115. Асьветная справа. Стар. 3.

**Бруякін,** сакратар Дрычынскага культурна-асьветнага гуртка.

1923 — Сярод сялянскай моладзі (Вёска Дрычын, Навасёлкаўскай вол., Ігуменск. пав.). [Спэктаклі гуртка. За тры месяцы пастаўлены п'есы: 1) „Страннік", 2) „Зьбянтэжаны Саўка", 3) „Сначала научись, а потом женись", 4) „Сон крестьянина", 5) „Красный генерал", 6) „Пасланец", 7) „Мікітаў лапаць". Допіс].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1923. № 145. Як жыве наша вёска. Стар. 4.

**Язьмін, М.**

1923 — Беларускі вечар. (М. Ігумен.). [29. VII. 1923. П'еса: „Апошняе спатканьне"— У. Галубка. Ставілі настаўнікі. Хор. Допіс].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1923. № 179. Як жыве наша вёска. Стар. 3.

**Я. М.**

1923 — Беларускі вечар. (М-ка Пяцічова, Чэрвен. пав.). [16. IX. 1923. Наладжаны гуртком „Рунь". П'еса: „Мікітаў лапаць" — М. Кудзелькі. Дэкламацыя].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1923. № 226. Як жыве наша вёска. Стар. 3.

**Аскірка, Тодар і Вярнікоўскі, Янка.**

1923—Няма мейсца такім настаўнікам у вёсцы. (Пасёлак Талька, Кнорынскай в., Чэрвенскага пав.). [Допіс аб спэктаклі 7. XI. 1923. П'еса: „Суд"—У. Галубка].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1923. № 265. Як жыве наша вёска. Стар. 3.

**Ш-ік.**

1924—Прабілі сьцяну цемры. (Вёска Жораўка, Дукорскае воласьці, Чэрвенск. пав.). [Праца культасьветн. гуртка моладзі. Спэктаклі. П'есы: „Суд"—У. Галубка, „За мураванаю сьцяною"].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1924. № 80. Па Радавай Беларусі. Стар. 3.

**Яс.**

1924—Комсамольцы памаглі. (В. Варонічы, Чэрвен. пав.). Спэктакль. П'еса: „Зьбянтэжаны Саўка"—Л. Родзевіча. Дэклямацыя].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1924. № 75. Па Радавай Беларусі. З жыцьця вёскі. Стар. 3.

**Осіпчык, П.**

1924—Адчынілі клюб. (С. Клінок, Чэрвен. пав.). [П'есы: „Конскі партрэт"—Л. Родзевіча і „Домашняя охота лучше лесной"].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1924. № 89. Па Радавай Беларусі. Культурна-асьветная справа. Стар. 3.

**Н. М.**

1924 — Замест споведзі — на спэктакль. (Верхменск. вол., Чэрвеншчына). [Спэктакль.

12. IV. 1924. Наладжаны культасьветн. гурткам. П'еса: „Мікітаў лапаць"—М. Кудзелькі].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1924. № 96. Па Радавай Беларусі. Стар. 3.

**Пякарчык, А.**

1924—Кірунак працы правільны. [Адчыненьне клюбу ў в. Таўкачэвічы, Шацкай вол., Чэрвеншчына. 28. IV. 1924. П'еса: „Зьбянтэжаны Саўка"—Л. Родзевіча. Допіс].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1924. № 107. Па Савецкай Беларусі. Стар. 3.

**Ш-к.**

1924 — Сьвяткаваньне „Дню ўраджаю". Чэрвенскі раён, Менскай акр. [14. X. 1924. Спэктакль. П'еса: „Дажынкі"—М. Кудзелькі. Допіс].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1924. № 242. Па Савецкай Беларусі. Стар. 3.

**З. В.**

1924 — Сьвяткаваньне „Дню ўраджаю". С. Грабёнка. Чэрвеншчына. [14. X. 1924. Спэктакль. П'есы: „У агранома"—А. Вольнага і „Дажынкі"—М. Чарота].

„Савецкая Беларусь". Газэта. Менск. 1924. № 247. Па Савецкай Беларусі. Стар. 3.

*Ю. Бібіла.*

## Бібліографія Віцебшчыны *).

*Экономіка, статыстыка.*

[ . . .

1871.—Протоколъ собранія членовъ Витебскаго Губернскаго Статистическаго Комитета. 3 Іюня 1871 г.

Витебскія Губернскія Вѣдомости. 1871 г. № 26 і 27.

[ . . .

1868.—1890.—Отчеты о дѣствияхъ Витебскаго губ. стат. Комитета.

Витебскъ. 8⁰.

[ . . .

1867.—Отчетъ о занятіяхъ и дѣствіяхъ Витебскаго губ. стат. комитета за 1866 г.

Витебскія Губ. Вѣд. 1867. № 23—27.

[ . . .

1870.—О трудахъ Витебскаго Статистическаго Комитета.

Кіевлянинъ. 1870. № 53.

**Матусевичъ, М. К.**

1907.—Матеріальное положеніе сельскихъ учителей вообще и въ Витебской губерніи въ частности.

Труды I Всероссійскаго Съѣзда представителей обществъ вспомоществованія лицамъ учительскаго званія. 1902/3 уч. г. въ Москвѣ. Т. I. Москва.

[ . . .

1869.—Отчетъ о дѣствіяхъ, занятіяхъ Витебскаго губ. статист. комитета за 1868 г.

Витебскія Губ. Вѣд. 1869 г. № 11—14.

[ . . .

1870.—Отчетъ о дѣствіяхъ и занятіяхъ Витебскаго губ. статист. комитета за 1869 г., прочтенный 14 мая 1870 г. въ общемъ собраніи членовъ комитета, секретарем его А. Сементковскимъ. Витебск. Тип. Губ. Правленія. 8⁰. 76 стар.

[ . . .

1869.—Отчетъ о дѣйствіяхъ и занятіяхъ Витебскаго губ. статистич. комитета за 1869 г. въ общемъ годичном собраніи членов комитета, секретаремъ его А. Сементовскимъ. Витебскъ. Тип. Губ. Правл. 12. 47 і V стар.

[ . . .

1869.—Протоколъ общаго собранія Витебскаго губ. статист. комитета, от 16 дек. 1869 г.

Витебскія Губ. Вѣд. 1869. № 52.

[ . . .

1870.—Протоколы общего собранія Витебскаго статист. комитета и отчетъ комитета за 1869 г.

Витебскія Губ. Вѣд 1870. № 3—5, 26—28, 31—35 і 38.

[ . . .

1870.—Протоколы общаго собранія Витебскаго статист. комитета и отчетъ комитета за 1869 г.

Виленскій Вѣстникъ. 1870. № 11 і 14.

[ . . .

1882—Живописная Россія. Подъ общей редакцией П. П. Семенова. Т. III. СПБ. 4⁰. 490+VI стар.

Аб Віцебскай губэрні на стар. 382—402.

[ . . .

1899.—Первая всеобщая перепись населенія Россійской имперіи. 1897 г. V. Витебская губернія.

Изд. Центр. статистич. к-та. Мин. Вн. Дѣл. 4⁰.

**Селиванов, А. Ф.**

1892—Витебская губернія.

Энциклопедич. Словарь Брокг. и Ефрона. Т. VI-а СПБ. Стар. 557—562 і карта.

**Сементовскій, А.**

1876.— Избіеніе лошадей въ Витебской и Могилевской губерніяхъ.

Русское Богатство. 1876. № 1.

**Ф.**

1872.—Изъ Витебской губерніи. Корреспонденція Ф.

Московскія Вѣдомости. 1872. № 100.

[ . . .

1912—1914.—Витебскъ.

(Цѣны и сдѣлки на лѣсъ на внутреннихъ и внѣшнихъ рынкахъ).

Лѣсопр. Вѣстникъ.

1912. № 26; 1914. №№ 9, 21, 22.

**В. И. К.**

1868.—Въ отвѣтъ автору статьи: „Нѣсколько словъ по поводу изысканій для опредѣленія направленія желѣзной дороги отъ г. Орши до Витебска". Статья В. И. К.

Могилевскія Губ. Вѣд. 1868. №№ 1 і 20.

[ . . .

1871.—Жалобы на Орловско-Витебскую желѣзную дорогу.

Московскія Вѣдом. 1871. №№ 47, 87.

[ . . .

1867.—Концессія на Земскую Орловско-

*) З картотэкі Бел. Дзярж. Бібліотэкі.

Витебскую жел. дорогу.

Сборникъ свѣдѣній по вѣдомству Минист. Финансовъ. 1867. Т. II. Стар. 159—170.

[ . . .

1860.—Городскія поселенія въ Россійской Имперіи. Т. I.

СПБ. Типогр. Товарищества „Обществен. Польза". 8⁰. XVI+465 стар.

(Составлено по приказанію Минист. Внутр. Дѣлъ).

Содержитъ губерніи:.. Виленскую, Витебскую...

[ . . .

1876.—Движеніе населенія в Витебской губ. въ 1874 г.

Правительственный Вѣстникъ. 1876. № 5.

**Лепэльскій.**

1912.—З Лепэльскай выстаўкі (сельскагаспадарчай. Дапіс.).

Наша Ніва. Газэта. Вільня. 1912. № 38. 20. IX.

**Бурбис, А. Л.**

1922.—Краткий очерк по экономической географии Белоруссии 1) Виленская губерния, 2) *Витебская губ.*, 3) Гродненская губ., 4) Минская губ., 5) Могилевская губ., 6) Смоленская губерния, 7) Черниговская губ.

Народное хозяйство Белоруссии. Минск. 1922. № 4. Стар. 2—73.

[ . . .

Витебскій Статистическій Сборникъ въ память 1-го русскаго статистическаго с'езда.

[ . . .

1860.—Статистическое описаніе Витебской губерніи.

Витебскъ. Губ. Вѣд. 1860. №№ 19—21, 27, 28, 39, 40.

**Гласко, А.**

1881.—Изъ Витебской губерніи.

Труды Императорскаго Вольнаго Экономическаго Общества. 1881. Т. II. Стар. 261.

[ . . .

1847.—Положеніе о лѣсной стражѣ въ округах пахатныхъ солдатъ Новгородской, Витебской и Могилевской губ. СПБ. 8⁰.

[ . . .

1908—Паденіе крестьянского хозяйства въ Витебской губ. и помощь кружка сельских хозяев орудіями и кредитом населенію.

С.-Петербургскія Вѣдомости. 1908. № 110. (Внутреннія извѣстія).

**Безкорниловичъ.**

1852. — Военно-статистическое обозрѣніе Витебской губерніи.

Военно-статистическое обозрѣніе Россійской Имперіи. Т. VIII. Ч. I. СПБ. 1852 г. 267 стар., з табліцамі.

[ . . .

1852.—Resherches botaniqus et chimiques sur un surrogat de la farine, dont se sont serwis en 1852 les paysans du gouw. de Vitebsk.

Moscou. 8⁰.

**Симоновъ, П.**

1873.—Почвенная Карта Витебской губ. Масштабъ 10 в. в дюймѣ.

[ . . .

1906.—Статистика землевладѣнія. 1905 г. Выпуск 27. Витебская губернія.

СПБ. 4⁰. [2]+54 стар.

**Добрейцеръ, И. А.**

1924.—Санитарная организация на местах. (Смоленская и Витебская губ.).

Гигиена и Эпидемиология. Москва. 1924. № 1. Стар. 134—135.

**Антоновичъ, М.**

1873.—Геогностическій очеркъ Западной Двины въ предѣлахъ Витебской губ.

Горный Журнал. 1873. 11. 4. Ст. 55—87.

**Никитинъ, С. Н.**

1899.—Объ изслѣдованіи послѣтретичных отношеній въ Витебской и Псковской г.г.

Записки Имп. С.-Петербургскаго Минералогическаго Общества. СПБ. 1899. Сер. 2, т. 36, протоколы, стар. 41—42.

[ . . .

(1908)—Итоги предварительнаго подсчета экономіческихъ свѣдѣній о крестьянскомъ хозяйствѣ Витебской губерніи. 4⁰. 24 стар.

(Статистическое отдѣленіе Витебской Губернской Управы по дѣламъ Земскаго Хозяйства).

[ . . .

1877.—Свѣдѣнія о пространствѣ Витебской губерніи.

Памятная книжка Витебской губерніи на 1878 годъ. 1877. Стар. 85—98.

**Гласко, А. А.**

1883.—Льноводство въ Витебской губ.

Труды Императорскаго Вольнаго Экономическаго Общества. С. Петербугъ. 1883. II. Стар. 197.

**Шубертъ, ген.-лейт.**

1838.—Тригонометрическая съемка губерній: Спбургской, Псковской, Витебской и части Новгородской, произведенная ген.-лейт. Шубертом, с 1820—1832 г.

Записки Военно-Топогр. Депо. 1838. Ч. 2. Стар. 1—381,—1840, ч. 4, стар, 1—389.—1841, ч. 6, стар. 1—341—1842. ч. 7, стар. 1-321.

**Горбачевскій, И.**

1895.—Экономическій очерк Невельскаго уѣзда. Сост. И. Горбачевскій.

Витебск. Губернск. тип. 8⁰. Стар. 20.

**С. С. К.**

1897.—О промыслахъ крестьянъ Себежскаго уѣзда Витебской губерніи.

Витебскія Губернскія Вѣдомости. 1897 г. № 122.

[ . . .

1870.—Статистическія сведенія о переправахъ на рѣкахъ и озерахъ Витебской губерніи.

Витебскія Губернскія Вѣдомости. 1870. № 10.

**С. А.**

1869.—Статистическія свѣдѣнія о Витебской губ. въ 1868 г. Витебскія Губ. Вѣд. 1869. № 39.

**Окулова, Е. Э.**
1910.—Поѣздка группы крестьянъ Вятской губ. въ Витебскую губ. для ознакомления съ хуторскими хозяйствами.
Хутор. С.-Петербург. 1910. № 2.
[ . . .
1876.—О числовыхъ результатахъ конской переписи, произведенной въ Витебской губ.
Витебскія Губернскія Вѣдомости. 1876. № 96.
[ . . .
√ 1910.—Промыслы въ Витебской губ.
Вѣстникъ Финансов, Промышленности и Торговли. 1910. № 45.
[ . . .
1871.—Число жителей по сословіямъ и вѣроисповѣданіям въ Витебской губерніи за 1869 г.
Витебскія Губернскія Вѣдомости. 1871. № 10, 11 і 20.
[ . . .
√ 1910.—Хозяйственное положеніе и промыслы сельскаго населенія Витебской губерніи. Опытъ изслѣдованія. Витебскъ. Губ. Тип. 8º. XII+226+124 стар.
(Статистическое Отдѣленіе Витебской Губернской Управы по дѣламъ Земскаго хозяйства).
[ . . .
√ 1908.—Хуторъ Фатынь, Лепельскаго уѣзда, Витебской губ.
Сельскій вѣстникъ. СПБ. 1908. № 277.
**Сементовскій, А. М.**
1872.—О движении населенія по Витебской губерніи за 1870 г.
Витебскія Губернскія Вѣдомости. 1872. № 26 і 30.
**Сементовскій, А.**
1868.—Статистика происшествій по Витебской губ. за 1-ю половину 1868 г.
Витебскія Губ. Вѣд. 1868. № 72—75.
**Сементовскій, А.**
1864.—Промышленность еврейскими религіозными предметами въ Витебскѣ.
Витебскія Губернскія Вѣдомости. 1864. № 1.
**Сементовскій, А.**
1872.—Торговля и фабричная промышленность въ Витебской губерніи.
Витебскія Губернскія Вѣдомости. 1872. № 7—9.
**Сементовскій, А.**
1868.—Статистическія свѣдѣнія о продаже питей въ у.у. г.г. Витебской губерніи и объ участіи въ этомъ евреевъ.
Витебскія Губ. Вѣд. 1868. № 67.
**Д. С.**
1866. — Козельское земское собраніе о Витебско-Орловской жел. дороге. Статья Д. С.
С. Петерб[ургскія] Вѣдом[ости]. 1866. № 144.
**Д. С.**
1867.—Состояніе работъ на Земской Орловско-Витебской жел. дороге. Статья Д. С.
Московскія Вѣдомости. 1867. № 246. Гл. таксама „Орловскія Губ. Вѣдом." 1867. № 42.
**М.**
1868.—Открытіе Орловско-Витебской жел. дороги. Статья М.
Русскій Инвалидъ. 1868. № 280ъ і Москов[скія] Вѣдомости. 1868. № 252.
**П. Г.**
1871.—Объ Орловско-Витебской жел. дор. Статья П. Г.
Московскія Вѣдом. 1871. № 106.

## *М. Віцебск.*

**С., А.**
1892.—Витебскъ.
Энциклопедический Словарь Брокгауза и Ефрона.
Т. VI-а. СПБ. Стар. 562—565.
[ . . .
1869.—Витебскъ.
Иллюстрир. Газета. 1869. Т. 23. № 24.
[ . . .
1876. Городъ Витебскъ.
Живописное обозрѣніе. 1876. № 15, 16.
**Воронов, А.**
1859.—Нѣсколько словъ о Витебскѣ.
Лучи. 1859. № 11. Стар. 271—289.
**Терпигорев, Д.**
1913.—Новый путеводитель по г. Витебску.
Витебскъ. Изданіе И. Абморшева. IV—178. Стар. 35 к.
[ . . .
1874.—Городъ Витебскъ.
Всемірная Иллюстрація. 1874. Т. 11. № 271. Стар. 174—175.
[ . . .
1876.—Городъ Витебскъ.
Кругозоръ. 1876. № 10.
**Белозерскій, Евг.**
1901.—Предмѣстье Вгорье и Песковатикъ.
Витебскія Губернскія Вѣдомости. Витебскъ. 1901 г. № 132.
**Васильев, Ив.**
1901.—Предмѣстье „Заручевье". Витебскія Губернскія вѣдомости. 1901 г. № 64.
**Васильев, Ив.**
1901.—Ильинщина.
Витебскія Губернскія Вѣдомости. 1901 г. № 49.
**Васильев, Ив.**
1901.—Предмѣстье „Русь".
Витебскія Губернскія Вѣдомости. Витебскъ. 1901. № 55.
**Белозерскій, Евг.**
1901.—Задуновье и Завитебье.
Витебскія Губернскія Вѣдомости. 1901 г. № 198.
. . . .
1913.—Витебскъ. Рынково-Воскресенская церковь. 1772 г.
Извѣстія Имп. Археологич.-Комиссии Вып. 50. 1913 г. Стар. 37-39.
[ . . . .
1914—Витебскъ. Успенскій соборъ. 1743—1777.

